## 3

Вельмі часта здараецца ў жыцці, калі няшчасце пераходзіць шчаслівую дарогу. Здаецца, яно так і сочыць, як той пільны вартавы, за кожным крокам шчасця. І толькі пачне тое ўсміхацца каму-небудзь, як няшчасце ўжо тут, каб засланіць сабою ўсмешку, азмрочыць радасць.

Так выйшла ў жыцці Ніны і Васіля. Усё ішло добра спачатку. Ніна гатавала рыбакам ежу, а яны цэлымі днямі працавалі. Аднойчы надвячоркам Васіль падышоў да Ніны, каб перакінуцца некалькімі словамі.

— Ну, як, Васечка, не шкадуеш, што паехаў сюды? — спытала яна разрумяненая. Вочы яе так і іскрыліся шчасцем.

— Ніначка! Даўно я не адчуваў такога задавальнення ад фізічнай працы на свежым паветры. У цябе трошкі гэту свежасць скрадвае дым...

Напрацаваўшыся за дзень, рыбакі, як добра змяркалася, клаліся адпачываць. Яны залазілі ў свае футравыя мяшкі-сеннікі і спалі там, як забітыя.

На чацвёрты дзень раненька Ніна, як заўсёды, устала следам за вазакамі і пайшла гатаваць снеданне. Брыгадзір таксама падняўся, каб дапамагчы ёй. Толькі Ніна падышла да ўмацаванага катла і прысела, каб распаліць пад ім агонь, як пачуўся глухі трэск. Яна разагнулася, і першае, што кінулася ў вочы,— у двух метрах заблішчэла доўгая вузенькая палоска вады, якая адразу-ж хлынула ў шчыліну.

— Адры-ыў! Ратуйся-я! — крыкнуў прарэзліва брыгадзір рыбакам, і сам яшчэ паспеў пераскочыць да Ніны.

Пакуль рыбакі раскатурхаліся на лёдзе, пакуль развязалі зашнураваныя свае сеннікі ды павылазілі з іх, паласа вады значна пашырэла.

— Васечка, ратуйся! — не пераставала крычаць Ніна на ўвесь голас. Але было позна. Калі-б Васіль і астатнія восем рыбакоў ведалі, што іх чакае, яны, напэўна, хваляваліся-б не менш за Ніну. Мажа-б каторы нават адважыўся кінуцца ўплынь, а там на конях даімчацца ў пасёлак. Але-ж не дадзена чалавеку ведаць, што будзе наперадзе. Таму і рыбакі стаялі і збянтэжана глядзелі на бясконцую паласу вады.

Дзед Апанас трымаў сябе надзвычай спакойна.

— На маім вяку гэта чацвёртае плаванне. Нічога страшнага, хлопцы. Не загінулі некалі, дык цяпер пагатоў дзяржава не дасць загінуць, — абнадзейваў ён маладзейшых рыбакоў.

Крыга адплывала і адплывала... Ужо з'явіліся першыя невялічкія хвалі на вадзе. Узрушаная, ломячы рукі, тупала па краі ледзяного поля Ніна і наказвала мужу не хвалявацца. А той усё аддаляўся.

— Ты таксама не бядуй. Едзьце хутчэй у пасёлак, там прымуць меры.

Праз некалькі хвілін словы нініны не далятаі ўжо да Васіля, ён бачыў толькі ўзмахі яе рукі.

Адарваныя дзевяць чалавек і конь з саньмі адплывалі на крызе ўсё далей і далей у адкрытае мора. Яны бачылі яшчэ, як брыгадзір і Ніна селі ў пустыя сані і паімчаліся ў Кургунь, як двое вазакоў запрэглі коней у трое саней, нагружаных рыбай, і таксама паехалі ў пасёлак. Цяпер яны заставаліся адны-адзінюткія на велізарнай воднай прасторы.

У рыбацкай практыцы такія выпадкі бываюць, хоць і рэдка. Таму рыбакі трымалі сябе спакойна. Трывожыўся толькі Васіль, хоць і стараўся не падаваць выгляду.

Як правіла, вялікая бяда рэдка ходзіць адна: следам за ёй гужам цягнецца чарада паслужлівых сябровак. Так было і на гэты раз. Не прайшло і гадзіны часу, як з поўдня паплылі хмаркі. Спачатку маленькія, потым большыя і большыя, і, нарэшце, шэрай пялёнкай зацягнула далягляд.

— Ну, цяпер прыдзецца, паплаваць, — уздыхнуў дзед Апанас, — трапілі пад веснавы туман. Самалёту не так лёгка будзе знайсці нас.

— І колькі гэта можа так быць, дзед Апанас? — зацікавіўся Васіль.

— Цяжка сказаць, доктар. Можа суткі, можа двое, а то і больш. Шэсць гадоў назад мы восем сутак плавалі, пакуль не заўважылі нас з суседняга вострава.

Васіль пакруціў галавою і стаў узірацца ў бок пасёлка, а дзед Апанас, набіваючы люльку тытунём, павольна гаварыў, нібы растлумачваў бяду:

— Тут яно такая справа, што сам нічога не дапаможаш. Гэта не кацер, не лодка — не пакіруеш. Куды крыга — туды і ты разам з ёю. Баяцца, вядома, не трэба, нічога з намі не станецца. У такім становішчы самае галоўнае — спакойнасць і ўпэўненасць. Брыгадзір от наш застаўся на беразе, а без брыгадзіра нельга. Усе павінны слухацца аднаго...

— Як на караблі капітана, — падказаў Аляксей, самы малады рыбак брыгады.

Рыбакі пераглянуліся.

— Брыгадзір павінен мець практыку. Такім быў наш Ігнат Зміtравіч, такім, мне здаецца, з'яўляецца Апанас Рыгоравіч. Выберам яго, — прапанаваў Зміцер Сцяпанавіч і тут-жа дадаў:— Я рыбачу другі год, магу памыляюся, тады называйце другога.

Усе ахвотна згадзіліся з ім.

— Калі вы мне давяраеце кіраўніцтва, — сказаў дзед Апанас, — дык слухайце-ж мяне. Тры разы я плаваў на крыгах: і на вялікіх, і на малых, і, вядома, сякі-такі вопыт маю. Трэба памятаць, што мы не на цвёрдым грунце зямлі і таму павінны быць гатовыя да ўсяго. Вы, мабыць, паспелі заўважыць да туману — у тры бакі не відаць канца нашай крыгі. Яна, можа, кілометры два.

— Дзядуля, ці не адысці нам далей ад краю? — занепакоіўся Аляксей.

— Ніхто не ведае, хлопча, дзе яна яшчэ расколецца. Можа так здарыцца, што вось тут, паміж мною і табою, трэсне гэтая аграмадзіна,— правёў Апанас абшытым валёнкам па лёдзе. — Добра, калі гэта здарыцца ўдзень, можна пераскочыць адзін да аднаго. А калі ў час сну, як сёння...

— Дык што-ж рабіць? — адразу пачулася некалькі галасоў.

— Да гэтага я і вяду гаворку. Мы знаходзімся на такім караблі, якім не кіраваў яшчэ ні адзін капітан.

— Значыць, нам лепей, чым любому капітану: ні рулём кіраваць, ні вёсламі грэбсці,— весела заўважыў Аляксей.

— Табе, Лёша, усё жартачкі, — пагразіў пальцам стары рыбак.

Аляксей саступіў на крок з месца і састроіў такую грымасу, што ўсе зарагаталі.

— Гэта добра, калі ў няшчасці вясёлы настрой, лягчэй пераносіцца яно, — усміхнуўся і сам дзед Апанас. — На наша шчасце, прадукты асталіся з намі. Іх трэба падзяліць на роўныя часткі кожнаму. Пакуль

знаходзімся разам, есці будзем у адзін час. Выдаваць буду я з вашых частак.

— А што з канём будзем рабіць? — спытаў адзін з рыбакоў.

— Каню ўжо ўсёроўна не трапіць на сушу: ні кацер, ні лодка не возьмуць яго, — адказаў дзед Апанас і ў пацверджанне сваіх слоў дадаў: — Быў ужо такі выпадак у маім жыцці.

Ніхто больш не заступаўся за бедную жывёліну. Кожны зразумеў, што гэта рана ці позна немінуча, што іншага выйсця няма.

Абедалі яшчэ разам, а на вячэру Апанас падзяліў прадукты на часткі. Трэ' было рыхтавацца яшчэ да большых выпрабаванняў.

4

Як толькі Ніна з брыгадзірам прыехалі дахаты, на пасёлку захваляваліся. Адразу-ж далі знаць упраўленню рыбнага трэста, адтуль паведамілі на аэрадром. Абяцалі зараз-жа выслаць самалёт на разведку. Бяда вось толькі — хмарна надта, але паспрабаваць трэба. Даведацца-б хоць, у якім напрамку плыве крыга, а там ужо прыдзецца думаць, як ратаваць людзей.

Ніна можа дзесяты раз ужо расказвала родным, знаёмым тых рыбакоў, што асталіся на крызе, як усё адбылося. Яна старалася падбадзёрыць тых, хто непакоіўся, а сама не знаходзіла месца: «Як там ён? Што з ім?»

У дзве гадзіны па полудні на крызе пачулі гул матора. Ён гудзеў зусім недалёка, трохі збоку, але дзесьці над хмарамі.

— Самалёт! Самалёт! — радасна крыкнуў Аляксей. Гэта радасць перадалася ўсім.

— О-о, кружыцца над намі, чуеце? Чуеце? — падняў угору палец Васіль.

— Я гаварыў, што там не будуць спаць у шапку. Гэта-ж вам не жартачкі — у бядзе жывыя людзі, — сказаў дзед Апанас.

Гул на момант змоўк і праз некаторы час пачуўся ўжо ў другім баку На гэты раз мацней, але без доўгай затрымкі.

Рыбакі цяжка ўздыхнулі.

Першую ноч спалі трывожна: адсюль-адтуль ды прыслухаюцца, ці не трашчыць часам. Назаўтра рана ўсталі. Хмаркі падняліся трошкі вышэй, і па ўсім было відаць — будзе добрае надвор'е. Але праз гадзіну якую зноў апусціўся туман.

... І так каторы дзень плавала крыга ў тумане. Часамі праз раскудзеленыя хмары праб'ецца востры прамень сонца, прынясе рыбакам разам з цяплом пробліск надзеі, што іх убачаць, перададуць гэту радасць на пасёлак. Ды і саміх будуць ведаць, дзе ратаваць.

— Там цяпер аж кіпіць работа, — скажа задуменна хто-небудзь. І ніхто не спытае, дзе гэта «там», бо думкі кожнага дома, на рыбацкім пасёлку, і гутарка, значыць, ідзе аб ім.

— Дзіва што — пуціна-ж на носе,— згодзіцца з думкай суседа другі, і зноў маўчанне. А то пад настрой пачне каторы ўспамінаць выпадкі леташняй ці пазалеташняй падрыхтоўкі да лову. Тады ўжо не скора закончыцца гаворка: далучыцца яшчэ хто-небудзь, а то і ўсе збяруцца ў кучку і павядуць ціхенькую гамонку. Работы-ж ніякай, паходзяць, патупаюць ды зноў прысядуць. А прыселі — гаварыць.

— Ну, як, доктар, не сумуеш? — спытаў аднойчы дзед Апанас у Васіля.

— Трохі.

— Разумею, разумею. Прывёз я цябе на пакуту са станцыі.

— Гуртам — пакута не страшная.

— Праўду кажаце, доктар. Самае галоўнае ў бядзе — не паддавацца настрою.

Няма нічога цяжэй працавітаму чалавеку, як апынуцца перад невядомым і да таго-ж без работы; месца тады не знаходзіць ён сабе: і дзень доўга цягнецца, і думкі розныя лезуць у галаву. Так было цяпер з рыбакамі. Калі-б які-небудзь клопат, разрывак, і то лягчэй было-б. Гэта-ж у кожнага з іх сілы хоць адбаўляй, а скарыстаць яе нават для свайго ратунку нельга. Каб перад імі цяпер былі самыя вялікія гурбы снегу на зямлі, яны заўзята расчышчалі-б іх, абы выбрацца жывымі. Нават каб была непраходная тайга, і то не сядзелі-б, склаўшы рукі, а працярэблівалі-б сабе шлях. А тут — хадзі ўвесь дзень, узірайся ўгару, у далеч, ці не выткнецца прамень сонца, ці не з'явіцца дзе чорная кропка. Ноччу яшчэ горш: залазь у мяшок і чакай з кожнай хвілінай прыгоды. Можа здарыцца так: трэсне пад табою крыга і апусцішся разам са сваім сеннікам у расколіну.

Васіля ахоплівае страх. «Не, лепш не думаць пра гэта». Калі-б расказаць Ніне, нямала было-б дакору і кпінаў за такія думкі. Васіль падыходзіць да дзеда Апанаса і просіць расказаць што-небудзь з свайго жыцця.

Апанас ведае, што трэба рабіць у такіх выпадках. Ён расказвае, якая прыгода была з ім у часе буры на моры.

— Тут што, плывеш сабе ціхенька. Страшна, вядома, ды не так ўсё-ж, як на плюгавенькім кацеры ў час буры. Можа, гадзіны тры, учапіўшыся рукамі за барты, плавалі мы аднаго разу на хвалях. Ніякага ратунку, здаецца, няма, а мы ўсё-ж спадзяемся на яго. Чалавек, скажу вам, ніколі не павінен траціць веры ў жыццё.

Расказвае дзед павольна, не спяшаючыся, смокчучы з хрыпам у цыбуку люльку. Яму трэба заняць час, адцягнуць увагу рыбакоў ад надакучліва-трывожных думак. А думкі сапраўды неверагодныя: то дома, здаецца, няшчасце навалілася на сям'ю, то вось-вось разаб'ецца крыга ўшчэнт і яны трапяць у бездань. Да таго-ж з харчамі стала тугавата. Ужо і каня паласнулі нажом па шыі. Апанас не песціць іх, а з кожным днём змяншае і змяншае паёк. Так і да голаду лепш прывыкае арганізм, калі ежа змяншаецца пастулова, не адразу.

На шосты дзень Аляксей у адчаі накінуўся на прадукты ў няўрочны час: захацелася хоць раз наесціся ўдосталь. Дзед Апанас з практыкі ведаў, што нельга дапускаць гэтага на крызе і сам наглядаў за кожным. Пасадзіўшы каля сябе Аляксея, Апанас доўга растлумачваў яму, як трэба даражыць жыццём, як трэба змагацца за яго ў любых умовах. Гаварыў ён не надта моцна, быццам аднаму Аляксею, але ўсе рыбакі чулі параду свайго брыгадзіра.

Усё часцей і часцей пачало выглядаць сонца. Аднаго дня пад вечар зусім рспагодзілася. Рыбакі з радасцю глядзелі на зорнае неба і думалі: «Цяпер нас знойдуць». Але на світанні зноў наплылі хмаркі і затуманілі разам з даляглядам іхнюю надзею. За апошнія дні і пошукі, відаць, сталі радзей, бо гул самалёта зрэдку парушаў цішыню.

Раніцай на трынаццаты дзень плавання, прачнуўшыся, Васіль уба-



чыў ваду з двух бакоў. Ён азіраўся здзіўлена некалькі секунд. А калі зразумеў, што адбылося, залемантаваў не сваім голасам:

— Зміцер Сцяпанавіч, уставайце! Бяда!

Той высунуў галаву з свайго мяшка-логава і ўбачыў жахлівы малюнак. Яны ляжалі на ўскраі крыгі.

Тое, пра што гаварыў Апанас, збылося: крыга раскалолася на дзве часткі, а можа і на больш, і яны параспльваліся ў розныя бакі. Стомленасць ад доўгага плавання, недаяданні знясілілі іх, і таму ніхто не чуў і не бачыў, калі ўсё гэта здарылася.

— Можа і там выглядаюць цяпер нас, — сказаў Васіль.

— Магчыма, — уздыхнуў Зміцер Сцяпанавіч. — Ну што-ж, Васіль Міхайлавіч, асталіся адны. Гэтага трэба было чакаць. Адчайвацца, вядома, не станем, у нас з вамі сякі-такі гарт ужо ёсць... Вы, здаецца, запісваеце. Каторы мы сёння дзень?

Васіль дастаў блакноцік і, разгарнуўшы, адказаў:

— Запісана дванаццаць. Прыплюсуем да іх і сёняшні.

## 5

Кожную хвіліну Ніна чакала Васіля. Ці то стукне хто веснічкамі, ці загаворыць хто мацней на кухні — усё здаюцца яго крокі, яго голас.

Першыя дні, ідучы з работы дахаты, Ніна заўсёды спынялася каля грамадкі жанчын, што стаялі на беразе мора і глядзелі ў далеч халоднай белі. Ім здавалася, што вось-вось павінны з'явіцца жыхары крыгі, вярнуць радасць, узятую з сабою. Але мужчын не было. Бо шчасце не прыходзіць тады, калі яго чакаеш. Яно, як сціплая дзяўчына, стараецца не сустракацца нават поглядамі з тымі, хто яго выглядае.

Прыдзе Ніна дахаты з працы і нічога не можа рабіць: усё валіцца з рук.

— Дачушка, не набірай так у галаву, — суцяшала маці Ніну, а ў самой голас няроўны ад скрухі. — Сушыць, дачушка, не работа, а турботы. Так, так. Я ўсё бачу: не спіш ты начамі і я з табой разам.

— Дарма, мама, вы хвалюецеся. Спіце спакойна. Вам што...

— Як што? Ці-ж ты мне не дачка, а ён не зяць?

А Ніна і сапраўды позна заседжвалася над разгорнутай кнігай. Вадзіла па старонцы вачыма, а думкі плылі недзе над морам. Часамі яна запісвала іх у сшытак. «Прыемна будзе калі-небудзь прачытаць разам з Васілём», — уяўляла сабе. Былі моманты, Ніне здавалася, што яна чуе нейкія таямнічыя і разам з тым знаёмыя гукі. Гэта Вася, вядома, Вася думае пра яе і перадае свае думкі на адлегласці... «Дзе ён цяпер? Што з ім? Ці жывы хаця?» — задумвалася яна.

Васіль Міхайлавіч і Зміцер Сцяпанавіч былі ў гэты час у адкрытым моры, пільна ўзіраліся ва ўсе бакі, ці не ўбачаць хоць прывід таго шчасця, што дапаможа ім сыйсці на сушу. Ужо некалькі дзён не чуваць гуку матора, і гэта пачынала трывожыць іх.

— Можа тыя вярнуліся, а нас лічаць загінуўшымі, — прамовіў задуменна Васіль. — Тады мы асуджаны на пагібель.

— Становішча наша цяжкае, гэтага нельга адмаўляць, але не безнадзейнае. Тут шмат астравоў — і вялікіх і маленькіх. Няўжо не прыстанем да іх? Наша бяда — мы не ведаем, дзе знаходзімся і куды плывем. Вада тут робіць кругаварот па гадзіннікавай стрэлцы, а вось куды дайшла гэта стрэлка з крыгай — адзін аллах ведае.

— Каб ведаў чалавек наперад, можна было-б узяць з сабой компас і карту.

— Ды пабольш харчоў, — засмяяўся Зміцер.

— А што вы думаеце, і харчоў пабольш не шкодзіла-б. Як на тое, і каніна ўся асталася ім.

— Якая там каніна... Адны косці. Да гэтага часу ўсёроўна не хапіла-б.

Хвілінку памаўчалі, узіраючыся навакол. Заўважылі яшчэ адну

крыгу, якая плыла збоку. Думалі з іхнімі рыбакамі. Колькі ні прыглядаліся — не ўбачылі на ёй нікога. Крыгу, відаць, таксама адарвала недзе ад берага. Вясна!

— Каб на сушы былі — іншая справа. Там у разведку можна пайсці, а тут — сядзі, чакай ратунку.

— Там не толькі ў разведку можна ісці, але наогул можна ісці ды ісці — усё нейкая мэта перад табою.

— Сеткі няма, можна было-б рыбу лавіць. І карысць была-б і разрывак. Вы ў шахматы ўмееце гуляць, Зміцер Сцяпанавіч? Не? Шкада, не ўзялі з сабою, я навучыў-бы вас. Цікавая гульня, — успамінае Васіль Міхайлавіч праіграную Мікалаю Цімохавічу апошнюю партыю і глыбока задумваецца. Потым дастае запісную кніжачку і штосьці запісвае.

— Доктар, зірніце, каторы дзень мы з дому?

— З Кургуня?

— Але.

— Трыццаць другі.

— Гэта ўжо трэці дзень, як мы нічога не елі.

— Так, апошні раз мы з'елі апошнюю сырую рыбіну дваццаць другога красавіка.

Зміцер падышоў бліжэй, прысеў на кукішкі, асцярожна падняў за падбародак васілёву галаву і ласкава зірнуў у твар. Вочы Васіля былі цьмяныя. Каб як-небудзь выклікаць на размову, адцягнуць ад надакучлівай думкі пра ежу, Зміцер зрабіў новы, зусім нечаканы ход.

— Вы здраджваеце сабе, Васіль Міхайлавіч. Прыпомніце абавязкі ўрача!..

Вочы Васіля загарэліся агеньчыкам, цьмяная смуга сышла. Вось ён зноў студэнт інстытута. У аўдыторыі ажыўлены гоман, шум. На кафедру ўзыходзіць прафесар, і адразу настае цішыня. «У цяжкія хвіліны ўрач павінен мець мужнасці, цярплівасці, вынослівасці больш за іншых. Нават пры адсутнасці лякарства ён можа ўнушыць хвораму ўпэўненасць у жыцці». Словы гэтыя Васіль чуў амаль шэсць гадоў назад, на першым курсе, а як запомніліся добра! Ён устае і цвёрдым, упэўненым голасам не гаворыць, а проста адчаканьвае:

— Так, мы павінны жыць! Не можа быць, каб гэтак недарэчна мы расквіталіся з жыццём. Наперадзе яшчэ шмат у нас працы.

— Доктар, — кажа Зміцер. — Мне падабаецца ваша ўпэўненасць. Іменна, не можа быць, каб мы загінулі. Надта шмат давялося перажыць нам, і я лічу....

— Хвіліначку, Зміцер Сцяпанавіч, — перапыняе Васіль. — Паглядзіце, здаецца, штосьці чарнее ўдалечы.

Зміцер Сцяпанавіч паварочваецца, становіцца на дыбачкі і аж ускрыквае ад радасці.

— Востраў! Васіль Міхайлавіч, зямля!

Яны абдымаюцца, трасуць адзін аднаму рукі. Гледзячы на чорную кропку, Васіль махае вушанкай, а Зміцер крычыць з усяе сілы, як-быццам могуць пачуць за дзесяткі кіламетраў яго голас.

— Эх, няма стрэльбы. Падплылі-б трохі бліжэй і далі-б знаць стрэламі.

— Як падплывем бліжэй, нас і так заўважаць, — запэўнівае Зміцер. — Цікава, які-ж гэта востраў: Курагал ці Адраджэнне, а можа Барса-Кельмес? Вы знаеце, што азначае Барса-Кельмес? Не. «Пойдзеш— не вернешся».

— Тады няхай гэта будзе не Барса-Кельмес, — кажа Васіль Міхайлавіч.

Яны ўзіраюцца доўга, пакуль не стамляюцца ад напружанасці вочы. Потым садзяцца на свае сеннікі і знарок не глядзяць у той бок. Хочацца адчуць поўную радасць — устаць на ногі і зблізку ўбачыць доўгачаканую зямлю. Каб скараталь маркотны час, Зміцер, не спяшаючыся, расказвае яшчэ адзін памятны эпізод з грамадзянскай вайны. Ранены, ён доўга праляжаў тады на полі бою без дапамогі, знайшлі яго пры пахаванні трупаў. На чацвёрты дзень толькі апрытомнеў ён, як расказвала потым медыцынская сястра.

— Бачыце, Васіль Міхайлавіч, гісторыі паўтараюцца. Тады санітары палічылі мяне ўжо за мёртвага. І цяпер на пасёлку нас лічаць, напэўна, загінуўшымі. А мы жывем сабе і будзем жыць. Вы трацілі, Васіль Міхайлавіч, надзею на ратунак, а тут — востраў, а на востраве людзі, заводзяць да сябе, частуюць, распытваюць...

— Зміцер Сцяпанавіч, толькі загадзя кажу, як урач, не накідвайцеся на ежу. Мы знясілены, і нам трэба асцерагацца самім... Дарэчы, зірніце, як блізка мы падплылі да вострава.

Зміцер Сцяпанавіч устае і, раней чым зірнуць сам, дапамагае ўстаць Васілю, каб і той адначасова з ім убачыў мару ў сапраўднасці. Некалькі секунд яны абводзяць вачыма ўсе чатыры бакі, і не вераць самі сабе: нідзе ніякай прыкметы зямлі. Праціраюць вочы, яшчэ раз пільна, як можа дастаць вока, азіраюць далеч.

— Даруйце, Зміцер Сцяпанавіч, вы ўпэўнены, што тады быў востраў?

Той моўчкі ківае галавой.

— Значыць, не галюцынацыя? Мне таксама здавалася, што востраў, але я ўжо не веру сабе: трэці дзень нічога не елі, ды і да гэтага не надта...

— Доктар, вы зноў пра ежу? — перапыняе Зміцер і запэўнівае Васіля: — Канешне, мы бачылі востраў, толькі плынь аднесла нас у другі бок.

Гаворка зноў спынілася. Падзьмуў вецер, мора захвалявалася, на воднай прасторы загойдаліся маленькія крыгі, паважна паплылі вялікія.

— Бачыце, колькі іх! Мы можам сустрэцца яшчэ з нашымі сябрамі па няшчасцю. З'явяцца раптам з якога-небудзь боку, паклонімся нізенька, спытаемся пра здароўечка, — падаў думку Зміцер Сцяпанавіч.

— Магчыма. Гэта-ж мора, а яно столькі хавае ў сабе нечаканага. Скажыце, мы рабілі сёння чарговую зарадку?

— Рабілі, Васіль Міхайлавіч, рабілі, раніцай.

— Тады можна прысесці, — і ён апусціўся на сяннік.

Зміцер Сцяпанавіч толькі падахвочваў свайго сябра, што можна пражыць дзесяць дзён без ежы, а сам на чацвёрты дзень (назаўтра пасля таго, як бачылі востраў) не вылез ужо са свайго мяшка. Пад поўдня Васіль сяк-так устаў яшчэ, памацаў пульс, пачаў раскатурхваць сябра:

— Уставайце, гляньце, які прыгожы веснавы дзень.

Той адказаў нешта невыразнае, цяжкія павекі яго так і не расплюшчыліся. Васіль патупаў па крызе і ці то ад самотнасці, ці ад голаду кінула яго ў дрыжыкі. Каб сагрэцца, ён таксама залез у сяннік, зашнураваўся і хутка адчуў прыемную, як пасля цяжкай фізічнай работы, млявасць.

Пад вечар скрозь дрымоту ён пачуў нейкі гул, і радасць на момант ахапіла яго. «Самалёт, мабыць. Нарэшце-такі адшукалі», — мільганула дзесьці ў глыбіні думка і пагасла. Нават здалося, нешта пляснула зусім блізка. Хацелася ўстаць, зірнуць што, але вырашыў зрабіць гэта пасля таго, як адпачне, як пройдзе трохі стомленасць. Ды так і не ўстаў.

Што было далей, ні Васіль, ні Зміцер не памяталі. Ужо ў бальніцы, калі апрытомнелі, Васіль па чыслах устанавіў разам з медсястрою, што на трыццаць трэці дзень іх выратавалі рыбакі. Самалёт скінуў на востраў запіску, і рыбакі разам з медсястрою паімчаліся на маторцы.

— Значыць, быў самалёт? Я скрозь сон чуў яго гул. А скажыце, вы не ведаеце, часам, нічога не было каля нас? Бо мне здалося — нешта пляснула.

— Была невялікая пасылачка. Лётчык скінуў вам перакусіць на першы пачатак.

— І гэта я памятаю яшчэ, — узрадаваўся Васіль. — А што з маімі нагамі?

— Прымарозілі трохі. Буркі былі мокрыя.

— Гэта я хадзіў па мокрай крызе і цешыўся прыгожым днём. Пад нагамі хлюпала, а я ўсёроўна тупаў, не зважаў ні на што. Думаў, апошні раз любуюся. Хацелася абняць увесь свет, налюбавацца яго харастввом. І любаваўся, пакуль не стала холадна. А холадна, відаць, стала таму, што намоклі валёнкі. Гэта цяпер я так разумею...

— Васіль Міхайлавіч, вам нельга шмат гаварыць, — перапыніла сястра, хоць самой надта хацелася даведацца яшчэ сёе-тое пра свайго калегу па працы.

## 6

Раніцай першага мая Васіль спаў моцным сном. Медыцынская сястра два разы падыходзіла да яго зрабіць перавязку абмарожаных ног ды так і не адважылася будзіць. Яна збіралася перайсці ў другую палату і зайсці сюды пад канец абхода, як пачуўся жаласны крык:

— Ніна-а, Ніна-а!

— Што з вамі? Прачніцеся, — узяла за руку Васіля медсястра.

— Ніначка! — схапіў за руку Васіль.

— Надзечка, а не Ніначка,— напомніла Васілю сваё імя медсястра.— Дарэчы, вы не пасылалі святочнай радыёграмы сваёй Ніне?

— Не.

— Пашліце зараз-жа.

— Што вы? Што вы, Надзежда Сяргееўна, — замахаў рукамі Васіль. — Яна праз тры дні была-б тут.

— І цудоўна.

— О не, не. Вы самі бачыце, які я. Шкілет проста... Да таго-ж з абмарожанымі нагамі. Тут ляманту, слёз не абярэшся.

— Глядзіце, вам відней. Толькі я, на вашым месцы, паведаміла-б,— параіла, адыходзячы, Надзя.

На двары, за бальнічнай агарожай, зайграла музыка. Гэта збіраліся на невялікую плошчу на першамайскі мітынг рыбакі. Хворыя, хто мог устаць, падышлі да акна, а Васіль, слухаючы бадзёрыя гукі марша,

успомніў, як летась у гэты час ён з Нінай крочыў у шарэнзе. Як добра было ім, як весела разам! Таксама, як і сёння, на небе ні аднае хмурынкі. Сонца, песні і радасць. Усё танула ў цёплым чырвоным колеры.

Васіль у думках павіншаваў Ніну з святам Першага мая.

## 7

Вярнуўся Васіль у Кургунь раніцай. На вуліцы яго сустрэлі тры жанчыны. Ён нізка пакланіўся, хоць і не быў знаёмы. Было радасна, што зноў сярод людзей дарагога пасёлка. Жанчыны адказалі яму і таемна пераглянуліся між сабой. Ім так хацелася загаварыць з Васілём, але той, заняты іншымі думкамі, не заўважыў гэтага. Калі-б Васіль не спяшаўся надта дахаты ды азірнуўся назад, то ўбачыў-бы спачувальны позірк жанчын, што глядзелі яму ўслед.

Дома Васіля сустрэла нініна маці. Як убачыла, задрыжала ўся, пабялела ў твары. Трымала ў руках венік — моўчкі выпусціла на падлогу. Не спадзявалася, што адна будзе ў хаце, як вернецца зяць, а ён зразумеў гэта, як узрушанасць Алены Пятроўны, загаварыў першы.

— Не чакалі, праўда?

— Вярнуўся?

— Вярнуўся, мама, вярнуўся,— і, не распранаючыся, ступіў наперад вітацца. Тады Алена Пятроўна пайшла насустрач, абняла за плечы і моцна пацалавала зяця ў шчаку. На яе вачах Васіль заўважыў слёзы. «Ад расчуленасці», — падумаў і ўголас спытаў:

— Як-жа хоць вы тут жывяце, расказвайце.

— Ды вось так, — развяла абедзвюма рукамі ў бакі Алена Пятроўна. — Як бачыш.

— Ніна і тата на рабоце.

— Але. Ты пачакай трошкі, Васілька, я клікну бацьку, — і ўвачавідкі знікла за дзвярыма. «Значыць, ён нічога не ведае? Божачка мой, што з ім будзе, як дазнаецца»,— думала Алена Пятроўна, спешна ідучы ў кантору па мужа.

Зайшоўшы ў свой пакой, Васіль радасным позіркам акінуў прадметы, абвёў сцены. Прайшло каля трох месяцаў, а нічога не змянілася. Нібы ўчора ён пайшоў адсюль. Відаць, Ніна не хацела парушыць парадку, які быў пры ім. Гэта спадабалася Васілю. «Чакала мяне»,— падумаў, і цёпла стала на сэрцы. Наогул прыемна, калі вяртаешся дахаты і заўважаеш, што цябе чакалі, рады твайму прыходу.

На туалетным століку ляжала пасланая ім тыдзень назад тэлеграма. «Чаму-ж яна не адказала?» Можа, затрымалася яго тэлеграма, ці адказ размінуўся ў дарозе з ім. Тут-жа ляжалі акуратна складзеныя ў стосік кнігі. «Пазнаю цябе, любая,— узрадаваўся Васіль,— такі-ж парадак, які быў калісьці ў студэнцкім пакоі». Паглядзеў, што за кнігі. Сярод медыцынскіх натрапіў на «Хаджэнне па пакутах» А. Талстога, «Мае ўніверсітэты» М. Горкага. «Чытала, відаць? Канешне, сумнавата адной»,— пацвердзіў сам сваё пытанне. Апошнім, пад нізам, на беленькім абрусе ляжаў агульны сшытак. «А тут што?» Адгарнуў вокладку, прачытаў «Мой друг», а пад назвай, у дужках, друкаванымі ад рукі літарамі: «Дзённік».

Сшытак асабліва зацікавіў Васіля. Ён ведаў з нініных слоў, што яна вяла дзённік яшчэ ў інстытуце.

Ён паспешліва перагарнуў лісток і прачытаў на трэцяй старонцы напісаныя ў слупок тры словы: «Думы. Мары. Жаданні». Перагарнуў яшчэ і ўверсе, у правым куточку, на пятай старонцы прачытаў:

«Дарагі дружа!

Я па-ранейшаму сумую. Тры дні не бачыла Васі. Як ён адчувае сябе? Ці жывы? Пошукі не даюць ніякіх вынікаў. Нізкая воблачнасць і туман закрываюць іх».

— Дзіўна, чаму яна пакінула дзённік на століку?— падумаў Васіль.— У інстытуце ўвесь час хавала ў чамаданчыку. Не спадзявалася, відаць, што сёння прыеду.— Яшчэ некалькі лісткоў перакінуў, хоць шмат чаго аддаў-бы, каб прачытаць іх.— 23 красавіка. Амаль месяц разлукі. Цікава, што яна піша тут?

«Дарагі дружа!

Як заўсёды, дзялюся з табою горам. Сем дзён асталося да першага мая. Сем дзён да нашага вяселля... Вася мой, любы мой, няўжо цябе няма жывога? І тата, і мама супакойваюць мяне, раяць забыцца на цябе. Кажуць, не лёс наш быць разам. Але занадта вялікая мая віна перад табою...»

— Дзіўная, яе сэрца ўсё яшчэ разрываецца, што я прыехаў сюды,— усклікнуў Васіль і з прагнасцю чытаў далей:

«...а яшчэ большае каханне да цябе, каб так лёгка можна было забыцца...»

Але ў гэты час у пярэднім пакоі пачуўся голас. Васіль, заняты думкамі, не чуў стуку дзвярэй у сенях, і цяпер спяшаўся прывесці ў ранейшы парадак кнігі. Так спяшаецца школьнік, які падглядваў адзнакі ў класным журнале на перапынку, каб замесці сляды свайго «злачынства», калі на калідоры з'яўляецца настаўнік. Гэта зайшла суседка Насця, жонка дзеда Апанаса.

Заўважыўшы праз акно, што вярнуўся зяць Рашоткіных, яна першая з'явілася праведаць.

— Ну, як-жа хоць вам паводзілася там?

— Усяго было, Насця Іванаўна.

— Дык яно-ж. Вядома, не на сушы. А тут лічылі, што вас даўно ўжо няма жывога. Як вярнуўся мой з другімі ды расказаў пра тое, як адарвала вас двух ад іх, дык усе аж ахнулі. Бедная ваша Ніна столькі ўпакутавала. Я дык яе ўсё развясельвала: жывы, кажу, а яна ўсё не хоча верыць... — здалёк вяла гаворку Насця. Яе цікавіла, ці ведае Васіль што-небудзь пра сваю жонку. Відаць, не. Бо не мог-бы так чалавек спакойна гаварыць сам і слухаць другіх, калі-б ведаў усё.

У пакой увайшлі Алена Пятроўна з мужам.

— Вярнуўся? — працягнуў руку Аляксандр Сямёнавіч і моцна, памужчынску пацалаваўся з зяцем.

— Як бачыце. Пасля доўгага плавання я зноў апынуўся пад вашым дахам.

— Ну і добра. А мы нават ужо страцілі надзею. Восемнаццаць разоў вылятаў самалёт...

— Мы часта чулі гул матора,— пацвердзіў Васіль.— Іншы раз зусім над галовамі, але ніяк нельга было даць знаць аб сабе.

— Так недарэчна ўсё выйшла, надта недарэчна,— глыбока ўздыхнуў Аляксандр Сямёнавіч і сказаў жонцы:— Прыгатуй там для сустрэчы госця.

Алена Пятроўна, а следам за ёю і суседка выйшлі на кухню.

— А дзе Ніна? На рабоце? У бальніцы?

— Але,— адказаў Аляксандр Сямёнавіч.

— Я схаджу па яе,— зняў Васіль шапку з вешалкі.

— Не клапаціся, сходзім яшчэ. Раней перакусім з дарогі. Я поўлітра прызапасіў. А пакуль маці збярэ на стол, раскажы, дарагі мой, пра сябе. Якім цудам удалося выратавацца?

— Не, не,— стаяў на сваім Васіль,— я павінен сходзіць па Ніну, і тады разам будзем адзначаць мой прыезд, радавацца такому шчасліваму канцу. Пакуль мама прыгатуе сёе-тое, сходзім разам.

— Можна,— згадзіўся Аляксандр Сямёнавіч і пайшоў на кухню сказаць штосьці жонцы.

Неўзабаве яны выйшлі. Пакінуўшы ў хаце Насцю Іванаўну, Алена Пятроўна дагнала іх. Ісці было не так далёка.

Па дарозе Васіль коратка расказваў пра сваё вандраванне. Яны слухалі з цікавасцю.

— Памятаю толькі, што калі ўставаў апошні раз даведацца, ці жывы яшчэ Зміцер Сцяпанавіч, крыга была ўжо зусім невялікая. Пра свайго спадарожніка скажу іншым разам. Цікавы чалавек, шмат можна расказваць. З бальніцы наважыў ехаць да жонкі. У яго-ж знаеце якая сямейная драма?

— Ведаю, ведаю. Няўдачнік. Ён-жа і ў рыбакі падаўся, каб толькі развеяць сваю тугу. З яго адукацыяй не такую пасаду можна было заняць, а ён простым рыбаком тут працаваў. Казаў, «аздаравіцца трэба».

— І добра зрабіў. Фізічная праца ў такіх выпадках — найлепшы лекар.

— Можа. Вам лепш ведаць. Вы-ж доктар.

Ісці ў бальніцу трэба было берагам. І чым бліжэй падыходзілі да мора, тым гутарка набывала іншы характар. Бацька і маці здалёк пачалі падрыхтоўваць зяця да незвычайнага. Калі-б Васілю не перашкодзілі азнаёміцца з дзённікам да канца, то не прышлося-б цяпер бацькам ламаць галаву, як прытупіць вастрыню падзеі.

— Набрала сабе ў галаву: «няма Васі жывога» і ўсё. Колькі ні ўгаворвалі, колькі ні даводзілі, не дапамагала. Я, як той дзяцел, адно дзяўбу: «На ўсё воля божая», а яна і слухаць не хоча. Прывезла, кажа, яго на згубу сюды. Сходзіць на службу, вернецца дахаты, зачыніцца ў сваім пакойчыку і маўчыць. Бачу — худзець пачала. Тут мы самі да смерці перапалохаліся. За кожным крокам яе сачыць сталі.

— Ну, і што далей, што? Перажывала, бедная... Я так і ведаў... — занепакоіўся Васіль.

— Раніцою Першага мая выйшла разам са мною на мітынг. На плошчы Ніну абкружылі сяброўкі, я пакінуў яе і праціснуўся бліжэй да трыбуны. А яна, пасля ўжо мне расказвалі, пастаяла крыху і давай увесь час адно і тое-ж гаварыць: «Васечка мой, дзе ты? Што з табою?..»

— Не цягніце вы, прашу вас, — перапыніў Васіль і загарадзіў дарогу. — Кажыце хутчэй, што здарылася? Загінула?

— Што ты, Васечка, не дай бог... Жывая... Яе ўзялі дзве медсястры, што стаялі побач, і завялі адразу ў бальніцу.

— Ой, ой!— успляснуў рукамі Васіль і спыніўся.— Няўжо яшчэ мала з мяне тых пакут, што перажыў?

Аляксандр Сямёнавіч палажыў руку на плячо зяця і, гледзячы ў яго поўныя жаху і роспачы вочы, пачаў ціха, па-бацькоўску, угаворваць:

— Ты шмат перажыў, дарагі мой, і тут павінен быць мужчынам. Ёй лепей цяпер, папраўляецца. Так што ўсё благое — і тваё і яе — асталося ззаду.

— А што такое з ёю? Што кажуць урачы?— тармасіў за плячо цесця Васіль.

— Ды як табе сказаць. З нервамі нешта не ў парадку. Узрушэнне, ці як яно па-вашаму называецца.

На момант Васіль Міхайлавіч задумаўся, нібы штосьці прыгадваў, прылажыўшы руку да ілба. Потым ціха неяк сказаў:

— Ідзіце дахаты, а я пайду пагавару з урачамі сам.

— І не думай гэтага рабіць, сынок. Я бываю ў яе кожны дзень, схаджу і цяпер. А ты не вытрываеш і захочаш пабачыцца, або яна, баранібожа, цябе заўважыць праз акно, — запярэчыла маці.

— Ты-ж доктар і не нам гаварыць, што можа быць, калі ты паявішся. Ніна цвёрда ўпэўнена — няма ўжо цябе жывога. Мы нават пра тваю тэлеграму змаўчалі. І як табе сказаць пра ўсё, не маглі розуму прылажыць.

— Ну што-ж, няхай будзе па-вашаму. Так сапраўды лепей. Ідзіце, мама, праведайце ды за адным заходам папярэдзьце Мікалая Цімохавіча, каб ніхто не гаварыў Ніне аб тым, што я вярнуўся. Скажыце, што я прасіў, каб ён пасля работы зайшоў да нас параіцца, як і што рабіць далей з Нінай.

Алена неўзаметкі мірганула мужу, каб застаўся з зяцем, і пайшла ў бальніцу, а Васіль прысеў на камені, узлакаціўся на калені, ашчарэпіў далонямі галаву і цяжка ўздыхнуў. Колькі разоў марыў ён на крызе, у шпіталі пра сустрэчу з Нінай! Колькі ласкавых слоў вынашана ім у сэрцы толькі для яе адной. І вось якая яна, тая доўгачаканая сустрэча.

Аляксандр Сямёнавіч стаяў побач і думаў: «Няхай трошкі пасмуткуе, перагарыць туга — лягчэй стане». Праз некаторы час ён асцярожненька крануў Васіля за плячо:

— Пойдзем, дарагі мой, дахаты.

Нібы прачнуўся Васіль пасля жудаснага сну, страсянуў галавою, здзіўлена зірнуў у вочы цесцю.

— Вы ідзіце, тата, я даганю вас.

— Не, Вася, не. Ніхто цябе аднаго тут не пакіне. Ты-ж яшчэ нічога не еў з дарогі. Хадзем перакусім, адпачнеш трошкі ды прыдзеш яшчэ, калі захочаш. Цяпер ужо няма чаго набіраць у галаву.

Васіль неахвотна падняўся з каменя.

— Вы баіцёся за мяне?— паглядзеў ён у твар цесцю.— Не бойцеся!

Дахаты ішлі павольна. Каб заняць увагу зяця, Аляксандр Сямёнавіч расказаў, якая ўдачная сёлета вясна для рыбной лоўлі, рыбакі не нарадуюцца проста. Васіль слухаў безуважна, яго думкі цяпер былі ў бальніцы. «Нават не ўяўляе сабе, любая мая, што паблізу, на сухім беразе, знаходзіцца яе муж».

У бальніцы, як толькі Алена сказала Мікалаю Цімохавічу, што прыйшоў зяць, той сабраў усіх медыцынскіх работнікаў і строга-на-строга загадаў не гаварыць пра гэта Ніне.

Калі-б Ніна хоць на момант дапусціла думку аб тым, што яе Васечка жывы, дык магла-б заўважыць у той дзень штосьці таемнае і разам з тым радаснае на тварах тых, хто заходзіў да яе ў палату. Да таго хацелася ўсім парадаваць Ніну незвычайнай весткай, да таго хацелася пера-

жыць разам з ёю шчаслівы міг, што стрымацца ад спакусы было нялёгка.

Мікалай Цімохавіч прышоў да Рашоткіных адразу-ж следам за Аленай. Ці-ж мог ён дачакацца канца работы, калі такая важная падзея выратавала лёс яго хворай ды і самога ўзрушыла страшэнна.

— З прыездам, Васіль Міхайлавіч! З прыездам! — схапіў дзвюма рукамі васілёву руку Мікалай Цімохавіч і, не даючы вымавіць слова, гаварыў далей:— Ды вы ні кропелькі не змяніліся за гэты час. Ніне прыемна будзе ўбачыць вас такім.

— Дзякую, дзякую і за прывітанне, і за камплімент,— змог нарэшце адказаць Васіль і спытаць пра тое, што хвалявала яго цяпер:— Чым парадуеце, калега?

— Радаснымі навінамі. З Нінай усё добра. Можна выпісваць, ды цяпер, відаць, прыдзецца адкласці на некаторы час. Трэба падрыхтаваць яе да сустрэчы з вамі, паракананаць, што вы жывы, каб не выклікаць новага ўзрушэння.

— Так, справа гэта надзвычай далікатная, і нам з вамі трэба памазгаваць, як лепей зрабіць.

...Праз некалькі дзён можна было назіраць на кургуньскай прыстані невялічкую грамадку людзей. Яны жартавалі між сабою, смяяліся, паглядаючы час-ад-часу ў той бок, адкуль павінен быў прыйсці невялікі пасажырскі параход.

Нікога з гэтых людзей не здзівіла, калі адразу-ж, як падышоў параход, з грамадкі адлучылася Ніна і кінулася насустрач чалавеку з маленькім чамаданам у руцэ. Усе, акрамя яе, ведалі, што сустрэчу наладзіў Мікалай Цімохавіч, яна была апошнім звяном падрыхтоўкі да незвычайнага.

Некаторы момант Ніна не магла вымавіць слова. Абняўшы Васіля, яна прыпала галавой да яго грудзей і маўчала. Потым ціха-ціха прашаптала:

— Васечка мой!.. Радасць мая!



**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

# АРЛЫ НА ЎЗЛЁЦЕ



Нізка хіліцца долу кавыль,
Ціха цягнуцца караваны.
То стагоддзяў далёкая быль,
Як цягучая песня чабана:

... Караван, караван мой стэповы,
Доля цяжкая, мой караван...
І няма каму вымавіць слова,
І ніхто не адкажа — аман *.

Толькі стэпы ды шум кавылёў,
Ды вярблюджы разгневаны роў.
Толькі сіняе неба кругом,
Ды арол б'е аб хмару крылом.

Толькі лівень ды гул навальніц,
Ды сляза, што упала з расніц.

Песня гэта ішла праз аул,
Але стэп не адгукваўся грозны...
Дзвесце вёрст да поўстанка адсюль—
Ні машын,
Ні гудка паравоза.

---

* Аман — добры дзень (па-казахску).

І слупоў верставых не відаць,
Што стаяць ля сібірскай дарогі.
Калі хочаш адлегласць ты знаць —
Запытай у ашуга старога.

Ён даўно землі гэтыя зведаў
І ў той песні прадказваў ім пуць.
А за песняй цягучаю следам
Караваны ідуць і ідуць.

Груз цяжкі на гарбах вярблюджых,
Дзень ідуць, і нібыта на месцы...
У нябёсах між хмарнай сцюжы,
Быццам вымыты, ходзіць месяц.

А зямля!
Дзе яшчэ такое
Можа быць для людзей раздолле!
Тут пшаніцам устаць сцяною
На ўрадлівым шырокім полі.

Добры дзень, цаліна дарагая,
Неабсяжныя далі палёў!
Мы прыйшлі з прыдняпроўскага
краю,
Ад палеткаў сваіх і лясоў.

Стэп наўкруг ляжыць,
Край нямераны.
Увесь век мы жыць
Тут намераны.

Не за доляю
Ішлі ў гэты кут.
З хлебам-соллю нас
Сустракаюць тут.

З Беларусі ідзем, з Украіны,
З Ленінграда і роднай Масквы.
Край пустэчы былой,
Край цаліны
Акіянам гамоніць жывым.

Нашы ў стэпе куткі
Навасельныя.
Запявай, дружбакі,
Ды вясельную.

Хлопец з дзеўчынай
Пажаніліся,

Каб жылося ім,
Ды дружылася.

Працавалася
Ў стэпе хораша,
Адгукалася
Даль, як мора шум.

Каб пшаніца тут
Налівалася,
І сям'я ў нас тут
Папаўнялася.

Песня чулася
Салаўіная.
Эх, зямля мая,
Ды цалінная!

Вачмі не акінеш далін,
Не пройдзеш за тыдзень...
Хіба толькі месяц адзін
За ноч іх абыйдзе.

На золку расу травы п'юць, —
Спеў чуцен птушыны...
Ідуць трактары і ідуць
Па стэпе арліным.

*

Ранак.
З небам зліўся шлях,
Роўнай стужкайззяе.
Неабдымная зямля —
Стэп за Кустанаем.

Даль пад сонцам раніцой
Нібы ў пазалоце,
І арлы махаюць ёй
Крыллямі на ўзлёце.

Хоць няма для іх тут гор,
Толькі стэп ды вецер, —
Для палётаў ім прастор
Самы вольны ў свеце.

Цягнікі адсюль ідуць
На усход і захад.
Вунь ужо сталёвы пуць
Скрыжаван са шляхам,

*

Поўстанак. Ззяе семафор
Агеньчыкам зялёным.
А з-за далёкіх рэк і гор
Прыходзяць эшалоны.

Раён. Даўно, гавораць, тут
Сем рэчак працякала.
Прайшлі стагоддзі, і ваду
Ўсю цаліна ўвабрала.

Таму цяпер няма ні рэк,
Ні рэчышчаў тых нават.
І выраслі з веку ў век
У стэпе гэтым травы.

На месцы даўніх хваль рачных —
Тут сем азёр салёных.
Дарогі ўсе ідуць ад іх
У горад наш раённы.

Легенда гэта з даўніх дзён
Жыла пад небам зорным.
Таму цяпер мы свой раён
Завем Сяміазёрным.

Далёка слава пра сяброў
Пайшла адсюль сягоння.
Сюды цяпер з усіх бакоў
Прыходзяць эшалоны.

Вунь колькі іх за ноч адну
Тут, цягнікоў, прабегла.
Платформы йдуць на цаліну,
Нагружаныя цэглай.

Мы ўсё гаворым — цаліна,
А паглядзі — якая!
Не кавылём шуміць яна,
А лепшым ураджаем.

Павіслі ўсюды правады,
Па іх святло пальецца, —
Ад цаліны толькі тады
Тут назва застанецца.

**Марына СЕРЭНІ**



# ДНІ НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Марына Серэні, жонка вядомага дзеяча Італьянскай Комуністычнай партыі Эміліо Серэні, якая нарадзілася ў Расіі, памерла ў 1952 годзе. Нядаўна ў Італіі былі выдадзены асобнай кніжкай яе запіскі і пісьмы да мужа і дзяцей. Кніга выйшла пад загалоўкам «Дні нашага жыцця».

Ніжэй друкуецца ўрывак з гэтай кнігі.

Мал. Л. Дубара.

Седзячы за кухонным сталом тварам да маці, Марына ледзь дакраналася да ежы. Яна адразу-ж заўважыла, што маці была нечым усхвалявана, нібы хацела расказаць ёй штосьці вельмі цікавае і ледзь стрымлівала сябе. Але Марына не адчувала ніякага жадання дазнацца, у чым справа: ужо даўно перастала яна цікавіцца матчынымі інтарэсамі. Больш за ўсё яе ўразіла тое, што маці, відавочна занятая сваімі клопатамі, забылася паўтараць ёй, як звычайна: «Вазьмі яшчэ кавалачак сыру! Чаму не ясі другое яйка?», ад чаго ў яе нарастала глухое раздражненне і знікаў апетыт.

Праглынуўшы апошні кавалачак і склаўшы сваю сурвэтку, яна адчула на сабе позірк маці, якая ўважліва, больш праніклівa, чым заўсёды, глядзела на яе.

— Мне было-б цікава ведаць,— сказала маці,— ці згадзілася-б ты выйсці замуж за Мімо.

Гэтыя словы так нечакана прагучалі ў цішыні, што ў той момант Марыне здалося, быццам яна іх не так пачула.

Потым яе захліснула хваля гневу. Яна злавала таму, што маці ўмешвалася ў яе справы, што не давала ёй жыць, як яна хацела.

— Мама, Мімо — адзіны чалавек, з якім я па-сапраўднаму сябрую. І вось цяпер ты ўсё сапсавала! — усклікнула яна раззлавана.

З ганарлівай самаўпэўненасцю сваіх восемнаццаці год Марына лічыла, што яна ўжо вызвалілася ад усялякіх ілюзій адносна мужчын, і была ўпэўнена, што ёй ужо даволі надакучыла жыццё; свае апошнія надзеі яна ўскладала на Сяброўства — з вялікай літары, такое сяброўства, якое, калі паслухаць людзей, не можа існаваць паміж мужчынай і жанчынай. Але гэта была няпраўда: Мімо не такі, як другія, ён яе сябар, сапраўдны сябар, і больш нічога. І вось мама ўсё сапсавала сваім недарэчным пытаннем.

— Ён на год маладзейшы за мяне,— дадала яна, парушыўшы кароткую хвіліну цяжкага маўчання.

Яна яшчэ больш узлавалася ад сваіх уласных слоў і ад таго, што ў вачах маці ўспыхнулі, як ёй здалося, насмешлівыя агеньчыкі. Яна ўжо хацела адразу ўстаць і вылезці з-за стала, як рабіла гэта заўсёды, калі не было іншага сродку праявіць свой дрэнны настрой, але маці сказала:

— Сёння раніцай прыходзіў Мімо... Ведаеш, ён быў вельмі ўсхваляваны. Такі ўсхваляваны, што адным духам выгаварыў сваю маленькую прамову перш, чым я паспела зачыніць уваходныя дзверы. Табе, можа, цікава ведаць, што ён мне сказаў? Ён сказаў, што няздатны заляцацца да маладых дзяўчат, што не ўмее гаварыць ім аб сваім каханні і што таму адзіным яго рашэннем было пайсці да мяне і папрасіць, каб я спыталася ў цябе, ці жадаеш ты выйсці за яго замуж. Вядома, я адказала яму, што, улічваючы ягоны ўзрост, мой абавязак — прапраўадзіць яго з лесвіцы. Аднак ты ведаеш, што я заўсёды мела слабасць да гэтага хлопца, і я абяцала яму, што перадам табе ягоныя словы. А цяпер разбірайцеся самі, я больш нічога не хачу пра гэта ведаць. І памятай, што я ніколі не дам сваёй афіцыяльнай згоды гэтаму хлапчуку, пакуль ён, прынамсі, не атрымае дыплома.

Яна зрабіла націск на слове «афіцыяльнай». Але Марына ўжо больш не чула яе. Яна разглядала алюмініевыя каструлі, што былі развешаны на сцяне, вялікія і маленькія, амаль усе пагнутыя, і не магла сабрацца з думкамі. У адной каструлі ручка была даўжэйшая. Хто ведае, навошта так зрабілі? Потым Марына заўважыла, што маці ўглядаецца ў яе твар, нібы хоча выведаць, што ў яе на душы. Марына не любіла, каб яе так вывучалі, і кінулася ў спальню, з грукатам зачыніўшы за сабою дзверы. І толькі тут яна заўважыла, што ў вачах яе слёзы.

Яна хуценька шмыгнула ў пасцель, а потым калі падышла маці, каб паправіць коўдру (навошта маці заўсёды так настойліва клапоціцца аб ёй, быццам яна яшчэ маленькая дзяўчынка?), Марына прыкінулася, што спіць. Калі да яе ясна данеслася спакойнае і роўнае дыханне маці з ложка ля процілеглай сцяны, яна адчула, што з яе сыйшло напружанне, і пачала пад коўдрай плакаць. Яна плача,— думала яна,— таму, што зусім-жа недарэчна, каб хлопец, якому ўсе людзі прыпісваюць самыя надзвычайныя якасці, мог палічыць яе не мізэрнай і нязначнай крупінкай у прасторы, а магчымай спадарожніцай свайго жыцця. Ёй здавалася, што плача яна таксама і таму, што баіцца, ці не памыліўся Мімо. Ну канешне, ён не зусім разумее, што яна — дзяўчына, якіх многа, без арыгінальных ідэй, без асаблівых якасцей, няздатная на вялікія справы ў жыцці. Як толькі Мімо гэта заўважыць, ён кіне яе. Як будзе яна тады пакутаваць. Ёй таксама здавалася, што яна аплаквае смерць свайго цудоўнага сяброўства, ад якога цяпер застаўся толькі салодкі ўспамін, і гэтае пачуццё, якое, па яе думцы, было варта гераінь самых лепшых раманаў, напоўніла яе гордасцю. Яна не прывыкла шчыра гаварыць сама з сабой і не заўважала, што плача толькі таму, што бязмежна шчаслівая.

Калі на другі дзень яны сустрэліся, падзеі разгортваліся не так, як малявала сабе Марына. Добрую частку ночы яна правяла, прыдумваючы прыгожыя фразы, якія яна яму скажа, і позы, якія прыме. Задача была не з лёгкіх, бо ў сапраўднасці ніводнай з яе любімых гераінь ніколі не прыходзілася быць у такім становішчы. Аднак, узяўшы патроху ад кожнай з іх, яна, як ёй здавалася, нарэшце стварыла якраз патрэбны ёй вобраз, такі, які зробіць на Мімо самае лепшае ўражанне.

Але на самай справе Мімо некалькімі простымі і яснымі фразамі раз-

бурыў яе пышны палац, прымусіўшы адказваць яму словам «але», якое належала толькі ёй і ніколі ні ў якім рамане не сустракалася. Яна адчувала сябе вельмі збянтэжанай, бо да гэтага часу лічыла, што нічога ў яе жыцці не мае ніякага значэння. (Гэта іншы раз наводзіла яе на думку, што лепш за ўсё памерці.) Аднак у той момант уся яе істота пацягнулася да Мімо з такою сілаю, якой яна ніколі ў сабе і не ўяўляла. Але яна не ведала, якімі словамі перадаць гэта, і, стоячы перад хлопцам, такім усхваляваным і ў той-жа час такім стрыманым, яна не знайшла нічога лепшага, як папрасіць у яго тры дні, каб абдумаць яго прапанову. Яна проста ўспомніла, што «так робяць», і была вельмі рада, што ёй удалося стаць у адну з тых самых гордых поз, якім яна навучылася з раманаў. Аднак Мімо знайшоў яе просьбу зусім апраўданай і сказаў, што прыдзе праз тры дні. Марына была крыху эгаісткай, і ёй нават і ў галаву не прыходзіла, што для яго гэтыя тры дні могуць быць пакутлівымі.

І для яе яны таксама былі бясконцыя. Ёй нічога не трэба было вырашаць: усё зрабілася само сабою ў той самы момант, калі яна адчула, што ўсё — маці, дом, кантора, усё, што раней існавала — раптам знікла ў шэраватай далечы, і толькі Мімо, яго сілуэт, яго голас запоўнілі ўсе куточкі яе істоты. Яна нават не падумала спытацца ў самой сябе, ці кахае яна Мімо,— магчыма таму, што не магла ўмясціць тое, што адчувала, ні ў якія з самых дарагіх яе сэрцу рамак, ні ў гэты свет, дзе ўсё ідзе сваім загадзя вызначаным парадкам сярод прыгожых фраз і ўзвышаных пачуццяў. Яе толькі час-ад-часу мучыла думка, што Мімо мог памыліцца і што немагчыма, каб ён быў у яе закаханы. Таму яна і баялася, старалася больш пра гэта не думаць.

Калі зноў прышоў Мімо, урачысты і бледны, ён без лішніх слоў усё зразумеў. Простымі, але глыбокімі фразамі сказаў ён пра іх будучы саюз, пра цяжкасці, што чакаюць Марыну, калі яна стане спадарожніцай яго жыцця. Ён сказаў таксама і пра іх каханне, якое павінна быць такім моцным, каб нішто на свеце не магло яго парушыць. І таму, што яго планы на будучае былі ясна акрэслены, ён гаварыў аб іх з упэўненасцю чалавека, які добра ведае сваё месца ў жыцці і барацьбе. Марына ўжо многае чула пра Мімо, але толькі цяпер яна правільна зразумела яго і адчувала сябе зусім маленькай побач з гэтым незвычайным юнаком, які з такой рашучасцю ўцягнуў яе ў сваё жыццё.

Яны вырашылі нікому нічога не гаварыць, бо пройдзе яшчэ нямала год перш, чым яны змогуць пажаніцца. А да таго часу яны не жадалі даваць падставу для непатрэбных размоў і дарэмных пярэчанняў. Але, магчыма, больш за ўсё яны не хацелі, каб чужыя вочы заглядалі ў іх душы, быццам баяліся за свае пачуцці: для абодвух гэта было самай дарагой у свеце рэччу, і яны жадалі беражліва яе ахоўваць.

Гэты першы год блізкага сяброўства з Мімо быў не лёгкім для Марыны. Ён заўсёды патрабаваў ад яе вялікай шчырасці і ставіўся да яе сурова, як і да самога сябе. Аднойчы ён сказаў, што яна нарадзілася, каб быць артысткай, таму што ёй вельмі добра ўдаюцца ўсе ролі, якія яна ўздумае іграць, нават перад самой сабою. Марына абурылася, але да гневу, як ёй хацелася, не дайшла, бо штосьці ў глыбіні свядомасці гаварыла ёй, што заўвага яго мае падставу.

Пачынаючы з гэтага дня, яна адчувала сябе так, быццам робіць вялікія намаганні, каб скінуць з сябе той цяжар памылковых уяўленняў, з якімі яна звыклася, як ні з чым іншым. Але тое, чаго патрабаваў Мімо, было вельмі цяжкім! Яна часта прыходзіла да адчаю: калі іншы раз

ёй здавалася, што яна ўжо, нарэшце, можа пранікнуць у яго пачуцці і думкі, дастаткова было Мімо сказаць некалькі слоў, каб Марына ўбачыла, як яшчэ далёка яна ад яго. Тады ёй вельмі хацелася крыкнуць яму: «Ты ўбачыш, я прыду да гэтага, я гэта адчуваю, бо ведаю, што іменна там ляжыць сапраўдны шлях. Трэба толькі, каб ты верыў мне, каб ты яшчэ трошкі пацярпеў!».

Аднак яна не адважвалася сказаць яму гэта — баялася, што ён заўважыць сваю «памылку», праўдзівей кажучы, тое, што Марына ўсё яшчэ ўпарта лічыла памылкай. Яна не разумела, што Мімо ведаў яе лепш, чым яна сама, і што зусім не было ніякай патрэбы выпрабоўваць яго цярпенне. Ён добра бачыў усе яе заганы і ведаў, што яна ўрэшце здолее пазбавіцца іх, бо тое, што ён знайшоў у ёй, было для яго самым каштоўным: ён цвёрда ведаў, што можа разлічваць на Марыну; што заўсёды, блізка ці далёка, яна будзе побач з ім, не як жанчына, што кахае яго, а як частка яго самога, якая ніколі не можа стаць яму чужой.

Такім чынам, і ў Марыны, як і ў яе сяброўак па канторы, быў свой «жаніх», які чакаў яе ля выхаду, схаваўшыся за выступ сцяны, бо гаспадар не хацеў бачыць маладых людзей паблізу ад дзвярэй свайго дома. Але праз акно, ля якога яна працавала, Марына адразу заўважыла яго, і ў яе моцна білася сэрца, пакуль яна чакала званка, які апавяшчаў аб скончэнні работы. Яе рукі нервова сціскалі сумачку ў шуфлядцы стала, і пры першых-жа гуках званка яна выбягала ў калідор, каб адной з першых папасці ў цесную гардэробную, дзе было цяжка павярнуцца, калі там усе стаўпляліся.

Яны доўга хадзілі па самых бязлюдных вуліцах з надзеяй, што ніколі не прыдзе тая гадзіна, калі ім трэба будзе разлучацца. Калі дні яшчэ больш падаўжэлі, яны даходзілі аж да самых садоў Пінчо і, цесна прытуліўшыся адно да аднаго, сядзелі там на самай далёкай лаўцы, у тым кутку парку, што выходзіў проста на сцяну Муро Торто. Там Мімо тлумачыў ёй некаторыя цяжкія для яе разумення рэчы: эксплуатацыя, дадатковая вартасць, марксізм, дыялектыка. У філасофіі яна была не вельмі моцная і адчувала нават некаторую непрыязнасць да ўсяго таго, у чым не бачыла непасрэднай сувязі з жыццём. Затое яна з задавальненнем сачыла за доказамі, якія Мімо выводзіў канцом трэсачкі на пяску алеі: яны былі ясныя, пераканаўчыя, і Марына іх ужо не забывала. Але яна заўважыла, што ў гэтых тэорыях раптоўна выяўляліся шматлікія незразумелыя месцы, як толькі справа даходзіла да выкарыстання іх на практыцы. І прыклад гэтага з'явіўся адразу ў той дзень, калі гутарка зайшла пра яе дырэктара.

— Вось глядзі,— сказаў Мімо, жадаючы праілюстраваць сваё нядаўняе тлумачэнне.— Сіньёр Марыо ўсіх вас эксплуатуе і атрымлівае ад працы кожнага з вас дадатковую вартасць, якая зараз і ёсць тое, што дазваляе яму багацець і быць капіталістам.

Марына ў абурэнні ўскочыла з месца. Гэтыя апошнія дні сіньёр Марыо быў з ёю такі ветлівы! Ён настойваў, каб яна не хадзіла ў сырую і цёмную гардэробную для работніц і больш не выходзіла на брудны завулак праз маленькія службовыя дзверы, а каб карысталася гардэробам для служачых і спускалася па вялікай мармуровай лесвіцы, што таксама вяла і ў пышныя пакоі сіньёра Марыо. Ён нават павялічыў ёй заработную плату на дваццаць пяць лір. Вядома, ёй прышлося прызнацца, што пры дзеючай сістэме зарплаты, калі цвёрдай лічыцца толькі трэцяя частка, а рэшта залежыць ад збыту, яна і не заўважыла гэтай прыбаўкі і нават выслухала заўвагу сіньёра Марыо за тое, што

забылася падзякаваць яму. Але ўсё-ж гэта была прыбаўка, і яна павінна ганарыцца тым, што зарабляе пяцьсот лір у месяц, у той час як іншыя навічкі атрымліваюць толькі сто дваццаць пяць, — гэта ёй усе гавораць. Праўда, гэтыя дзяўчаты скардзяцца, што не могуць купіць нават будніх панчох, а з яе пяцісот лір палова ідзе на кватэрную плату, але сіньёр Марыо не абавязаны ўсё гэта ведаць, і, што там ні гавары, ён зрабіў ёй палёгку.

— Чаму ты заступаешся за яго? — са смехам спытаўся Мімо.— Перш добра падумай, а пасля паглядзі, ці варта браць на сябе гэткі клопат.

Вечарам, перад тым, як заснуць, Марына яшчэ доўга думала пра ўсё гэта, і ад таго, што яна ўжо трохі прывучылася не ўхіляцца ад думак, якія спярша здаюцца вельмі непрыемнымі і здольнымі толькі растрывожыць чалавека, бо патрабуюць сур'ёзнага разважання, яна ўсё-ж вымушана была прызнаць, што ў словах Мімо ёсць доля праўды: з самых далёкіх куткоў сваёй памяці яна нарэшце вывудзіла адно здарэнне, якое пакінула ў ёй нейкае няяснае пачуццё агіды. Калі сіньёр Марыо абвясціў ёй аб пераводзе яе ў катэгорыю «служачых» з адпаведнымі прывілеямі—карыстанне гардэробам і парадным выхадам — ён дадаў:

— З гэтага дня я лічу вас зусім нібы членам нашай сям'і, сіньярына



Марына. Я цалкам давяраю вам і хацеў-бы, каб і вы, са свайго боку, давяралі мне.

— Ну вядома, сіньёр Марыо,— адказала Марына, усцешаная і ледзь не расчуленая.

— Тады абяцайце мне адно: быць са мною шчырай і ўсё мне расказваць.

— Якое можа быць сумненне, сіньёр Марыо, мне нават прыемна гутарыць з вамі так свабодна,— мармытала Марына, а сама ўжо думала, што ў яе ніколі не хопіць смеласці без усякіх цырымоній гутарыць са сваім дырэктарам.

— Тады дамовіліся: вы павінны ўсё мне расказваць, трымаць мяне ў курсе ўсяго, што адбываецца ў доме, але чаго мне нельга ўбачыць, і калі хто скажа пра мяне што-небудзь дрэннае ці зробіць якую памылку і ўтоіць яе, вы мне аб усім раскажаце. Ці не так?

Марына ўся аж скаланулася, так моцна і нечакана ўдарылі па ёй гэтыя словы, але, нягледзячы на ўсю сваю сарамлівасць, рашуча адказала:

— Я не шпіёнка, сіньёр Марыо!

Тут увайшлі людзі, і, выкарыстаўшы гэты момант, яна, страшэнна збянтэжаная, вярнулася ў кантору і нервова пачала круціць ручку сваёй лічыльнай машынкі.

Яна адчувала да свайго дырэктара вялікую павагу і пашану і таму неяк больш пра гэта і не думала. Але цяпер кожнае слова той гутаркі ўсплыло ў яе памяці і напоўнілася зусім другім сэнсам. Ёй прыпомніліся і другія дробныя факты, якія яна, сама не ведаючы чаму, звязвала з тым здарэннем: напрыклад, дзіўныя паводзіны старшага прыказчыка Джавані ў той дзень, калі ён узлаваўся, раскрыўшы свой канверт з зарплатай. Ён расхваляваўся, лаяўся і сказаў, што з яго даволі ўжо гэтага ашуканства, што ён стаіць ля канторкі і ведае, колькі грошай ідзе ў касу, што долю, якую сіньёр Марыо прызначае сваім служачым, ён вылічае заўсёды ў сваю карысць, і што пойдзе і скажа яму ўсю праўду, бо хоча атрымліваць тое, што яму належыць. Ён кінуўся ў кабінет сіньёра Марыо і доўга там заставаўся. Марыну сіньёр Марыо папрасіў не ўваходзіць. Яна думала, што Джавані раскажа ёй, што ў іх там адбылося, бо паміж ім і ёю былі вельмі прыязныя адносіны. Але калі Джавані выйшаў, ён ні з кім не пажадаў гаварыць, і выгляд у яго быў таямнічы і вельмі задаволены. Ён сказаў ёй толькі, што «вядома, сіньёр Марыо ацаніў у ім чалавека, якому можна давяраць, і даў яму даволі доказаў гэтага». Марыне хацелася выпытаць у яго, чым скончылася гэтая гісторыя з самавольным вылічэннем долі служачых, што вельмі цікавіла і ўсіх іншых, але Джавані не адказваў, намякнуўшы, што справа ідзе аб такой тэме, якую не належыць закранаць.

Марына ўспомніла, што ўсё, што датычылася заробку, лічылася нібы пад нейкім табу; так лічылі ўсе, пачынаючы з касіра, які не павінен быў гаварыць, колькі прышло ў касу, аж да апошняй машыністкі, якая не павінна была расказваць, колькі зарабляе. Калі, паступіўшы ў гэтую кантору і не ведаючы яшчэ пра такі звычай, яна спыталася ў адной дзяўчыны, колькі тая зарабляе, на яе паглядзелі, як на дзівачку, так што яшчэ і цяпер, больш як праз год пасля таго, яна не мела ніякага ўяўлення аб дакладнай лічбе яе заробку.

Яна зразумела, што спрытная тактыка яе дырэктара заключаецца ў тым, каб ліслівасцю і пагрозамі ўносіць разлад паміж тымі, хто пра-

цаваў у яго. Яна пачала шукаць прычыны гэтага і той-жа ноччу зразумела, што тое, што яна называла «тэорыямі» Мімо, з'яўляецца канкрэтнай рэальнасцю, штодзённым жыццём тых, хто жыве сваёй працай.

* * *

Мімо ўсё больш захапляўся палітычнай вучобай, і Марыне ўсё часцей і часцей даводзілася слухаць, як ён расказваў пра Маркса, Леніна, Сталіна. Ён гаварыў ёй таксама пра партыю, якая шэсць год назад была названа комуністычнай і якую Мусаліні распусціў, але не змог знішчыць. Аднак Марына не вельмі цікавілася ўсім гэтым, бо яшчэ не дасягнула таго, каб намаляваць у сваім уяўленні гэты прывід партыі. Дзе гэтая партыя? З каго яна складаецца? Марына была не такая, як Мімо, і не магла жыць абстракцыямі, ёй патрэбны былі канкрэтныя факты, і лепш за ўсё — факты, непасрэдна звязаныя з яе жыццём.

Аднойчы вечарам, калі, як звычайна, па яе да канторы прышоў Мімо, яна ўбачыла, што на ягоным твары ззяе шырокая ўсмешка.

— Ведаеш, я знайшоў «кантакт»,— прашаптаў ён і пільна паглядзеў на яе вялікімі, бліскучымі вачыма, быццам яна добра разумела, пра што ён гаворыць. Але яна не разумела.— Дык адгадай! Я знайшоў тое, чаго жадаў больш за ўсё на свеце.

Марына падумала, што ён знайшоў нейкі спосаб зараз-жа пажаніцца з ёю, бо гэта якраз і складала шчасце іх абодвух. Але пры чым тут гэты «кантакт»?

— Як, ты не разумееш? «Кантакт» — гэта сувязь з Партыяй. Я бачыў таварыша, прысланага Цэнтрам. Заўтра мы з ім сустрэнемся, і, калі хочаш, ты можаш пайсці са мною. З дзяўчынай менш небяспекі прыцягнуць да сябе ўвагу.

Да гэтага часу «Партыя» была для Марыны нечым туманным і далёкім. І раптам яна ўбачыла, што партыя складаецца з жывых людзей, якія прызначаюць сустрэчы, размаўляюць з такімі, як яна і Мімо, з людзей якіх можна арыштаваць і на многія гады пасадзіць у турму. Яна адчула сябе шчаслівай, што ўсё зразумела, бо гэта было новым звяном, якое еднала яе з Мімо.

Яна не ведала, што іменна тады пачалося яе сапраўднае жыццё.

На другі дзень пасля абеду яна не пайшла ў сваю кантору, бо ёй трэба было сустрэцца з Мімо і разам з ім пайсці ў кафэ на вуліцы Валтурно, дзе была прызначана сустрэча.

У гэты час кафэ было поўна людзей; уваходзячы і выходзячы, яны безупынна стукалі дзвярыма. Марыне здалося, што ўсе глядзяць на яе, што кожны разумее, чаго яна сюды прышла. Першы раз у жыцці яна адчула, хваравіта і горача, жахлівы страх за Мімо. Але той падштурхоўваў яе, ідучы паміж маленькіх круглых столікаў, у самы канец залы.

Там яна ўбачыла маладога чалавека ў акулярах, які сядзеў за столікам і спакойна піў са свайго кубка каву. Яна раптам заўважыла, што сядзіць побач з ім, а Мімо і ён аб нечым ужо ціха гавораць. Яна потым так і не магла ўспомніць, як гэта адбылося і аб чым яны гаварылі. Усведамленне рэальнага вярнулася да яе тады, калі яны былі ўжо далёка ад кафэ і ішлі па дарозе дадому. І толькі тут яна адчула, што гэтая сустрэча пакінула ў яе сэрцы вельмі глыбокі след, але ёй здавалася, што, калі расказаць пра свае думкі Мімо, то ён будзе не вельмі задаволены. Аднак Мімо быў шчаслівы, бо ўпэўніўся, што хутка наладзіць сувязь, і

самую рэгулярную, з Цэнтрам Партыі, і яму хацелася, каб і яна таксама сказала яму тое-ж і расказала ўсё, што пра гэта думае.

Так, Марына была вельмі рада, бо тое, чаго Мімо так доўга чакаў, нарэшце, здзейснілася. Усяго толькі некалькі дзён назад гэта здавалася яшчэ немагчымым, і вось цяпер усё ажыццявілася так проста і нечакана.

— Не так ужо і проста! — заўважыў Мімо.

Ён убачыў, што Марына задумалася, і зразумеў, што яна не ўсё яму сказала. Марына ведала, што бескарысна супраціўляцца, калі яму чаго-небудзь па-сапраўднаму захочацца; да таго-ж перад ім не цяжка выказаць тое, што ў яе на сэрцы. Безумоўна, ніхто не гаворыць,— гэты малады чалавек вельмі сімпатычны, ідаць таксама, што ён разумны, але... На гэтым месцы Марына адчула сябе так няёмка, як ніколі. Але... ён зусім падобны да любога маладога чалавека — у сваім элегантным касцюме і з гэтым залатым пярсцёнкам на мезенцы.

Яна вельмі здзівілася, калі замест таго, каб раззлавацца на яе недарэчныя заўвагі, Мімо гучна зарагатаў.

— Можа, табе хацелася-б, каб камуністы па-геройску расхаджвалі ў вялікіх чорных гальштуках і шырокаполых капелюшах, каб зараз-жа быць арыштаванымі і вызваліць паліцыю ад цяжкіх пошукаў? Канешне, гэта больш рамантычна, але было-б абураючай лёгкадумнасцю. Гэтак цяпер не засталося-б нават і ўспаміну пра Комуністычную партыю. Што датычыцца залатога пярсцёнка...— ён жартаўліва ўсміхнуўся,— я разумею, што ты хочаш сказаць. Ты хацела-б, каб твой герой не толькі насіў прышпілены каўнерык, чорны гальштук і капялюш з шырокімі палямі, але каб ён быў яшчэ і ідэальнай істотай, без усякіх асаблівасцей і недахопаў, якія ўласцівы жывому чалавеку.

Марына ўважліва слухала, жадаючы ўсё зразумець. Мімо меў рацыю: ёй прышлося прызнаць, што ў глыбіні яе свядомасці былі іменна такія думкі.

Наадварот, Партыя пабудавана з жывых людзей, з іх страсцямі, іх добрымі якасцямі і недахопамі. І сіла Партыі якраз у тым, што яна робіць іх, такіх, як яны ёсць, барацьбітамі, гатовымі аддаць сваё жыццё справе, што іх еднае.

Яна вельмі памылялася, калі мела такія ўяўленні, цяпер яна сама гатова пацяшацца над сабою.

— А мы абое, нарэшце, хто мы? Ці не з'яўляемся і мы самі з сённяшняга дня двума членамі Партыі? Аднак гэта не перашкаджае нам кахаць адно аднаго, табе — па-ранейшаму любіць новыя сукенкі, а мне — новыя кнігі, таксама, як і гэтаму таварышу насіць залаты пярсцёнак на сваім мезеным пальцы.

Марына мацней прытулілася да яго пляча ў нястрымным жаданні быць бліжэй да яго.

Так пачалося іх жыццё «таварышаў», жыццё, поўнае трывог і небяспекі.

Пераклаў з італьянскай мовы С. ДОРСКІ.

Мікола **ХВЕДАРОВІЧ**

# БАЛАДА АБ ЮНАЦТВЕ



Прадвесне дваццатага года,
Юнацтва трывожныя дні.
Дарогі суровых паходаў,
Прывалаў далёкіх агні.

Сяброўскае слова і жарты
Адгоняць і смутак, і жаль.
Сяброўства, з'еднанае гартам,
Мацней за жалеза і сталь.

Будзёнаўка слаўнага ЧОНА,
Чырвонагвардзейскі атрад.
Ішоў я вятрамі перонаў
На грозны мяцежны Кранштадт.

Магутнае Леніна слова
Вяло і еднала ў той год.
Гарматны агонь наш сурова
Шпурляў белых гадаў пад лёд.

Прарваўшы франты агнявыя,
Сустрэў нас пякельна Сіваш.
Мы ў полымя лезлі жывыя,
Каб Крым назаўсёды быў наш.

Хоць сэнс друкаваных дэкрэтаў
Не кожны тады разумеў,
Ды Ленін з газетных партрэтаў
На нас па-бацькоўску глядзеў.

Штыком і гранатай блакаду
Атрад наш тады разламаў.
І рукі галоднае здрады
Ад шыі свае адарваў.

Насуперак лютай напасці
Мы ведалі — ў гэтым жыцці
На долю нам выпала шчасце
Па ленінскіх сцежках ісці.

Цяпер маладому паэту
Пісаць летапісу тамы...
Гісторыі новага свету
Усё-ж зачынальнікі мы.

Пажоўклыя часу старонкі
Напісаны нашым пяром
Пра першыя забастоўкі,
Пра грозны Аўроры гром.

Будзёнаўка слаўнага ЧОНА,
Ты мне аднагодак і брат.
Ты помніш прастуду перонаў
І грозны, суровы Кранштадт.



# ПЯСНЯР МАЛАДОСЦІ

**Да 50-годдзя з дня нараджэння Рамана Сабаленкі**

У 1927 годзе на старонках «Маладняка» невядомы датуль паэт надрукаваў верш, які адразу звярнуў на сябе ўвагу чытачоў. Так пачалося літаратурнае жыццё пісьменніка Рамана Карпавіча Сабаленкі, пяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння якога нядаўна адзначала грамадскасць рэспублікі.

Раман Сабаленка належыць да таго пакалення, юнацтва якога праходзіла ў суровыя гады бітваў за перамогу соцыялізма. Гэта быў час індустрыялізацыі, калектывізацыі, карэннай ломкі псіхалогіі людзей, жорсткай барацьбы з усім старым, аджыўшым, што тармазіла паступальны рух наперад. Усюды ўзводзіліся новыя гмахі фабрык і заводаў, руйнаваліся палыновыя межы на сялянскіх гонях, асушаліся непралазныя балоты, пракладваліся магістралі і дарогі. Першыя трактары пракладвалі першыя барозны, першыя электрычныя лямпачкі разганялі спрадвечную цемрадзь, што стагоддзямі панавала над краінай. У барацьбе са старым нараджаўся новы, савецкі чалавек, які крыху пазней, у гады Вялікай Айчыннай вайны, паказаў свае высокія маральныя якасці.

Пісьменнік Раман Сабаленка заўсёды ў самай гушчы гэтых падзей, на перадавой лініі барацьбы за соцыялізм. Гэта і наклала адбітак на ўсю яго творчасць.

У сваіх вершах, прачулых і шчырых, Раман Сабаленка апявае родную Беларусь, пераможны поступ савецкіх людзей, іх натхнёную працу на карысць Айчыны. Герой яго вершаў — гэта новы, савецкі чалавек, моцны духам, неспакойны, няўрымслівы, заўсёды жыццерадасны, бясконца зразумелы і блізкі.

У час Айчыннай вайны паэт Раман Сабаленка са зброяй у руках адстойвае чэсць і незалежнасць Радзімы. Вярнуўшыся да мірнай працы, ён зноў пачынае сваю творчую дзейнасць. Доўгі час Раман Сабаленка працуе ў баранавіцкай абласной газеце, актыўна ўдзельнічае ў перабу-

дове аднаасобнай вёскі. Гэта была нібы вернутая маладосць, гэтак добра знаёмая па трыццатых гадах на Гомельшчыне. І зноў гучыць бадзёры, заклікаючы голас паэта. Вершамі Раман Сабаленка дапамагае селяніну знайсці правільны шлях, той, па якому ідуць браты ва ўсходніх абласцях рэспублікі, — шлях калектыўнага вядзення гаспадаркі.

У 1953 годзе Раман Сабаленка прыязджае на пастаяннае жыхарства ў Мінск. Спачатку ён працуе ў газеце «Калгасная праўда», потым у часопісе «Маладосць». Іменна ў гэтыя гады пачынаецца другі перыяд у творчасці пісьменніка. Мноства назіранняў, глыбокае веданне жыцця народа даюць яму магчымасць пашырыць свой творчы дыяпазон. Раман Сабаленка піша шэраг апавяданняў, нарысаў, якія прыхільна былі сустрэты чытачом. Частка з іх надрукавана ў зборніку «Жменя зярнят». У часопісе «Полымя» друкуецца яго аповесць «Юнацтва ў дарозе». Пісьменнік узрушана расказвае пра юнацтва сваіх аднагодкаў, пра іх барацьбу за шчасце, за соцыялізм.

Адначасова пісьменнік многа і плённа працуе над перакладамі п'ес для тэатраў Беларусі і ў першую чаргу для Тэатра юнага гледача.

Цяпер Раман Сабаленка працуе ў газеце «Літаратура і мастацтва». Ён поўны новых задум і планаў. Няма сумнення, што з-пад пяра пісьменніка яшчэ з'явяцца нямала жаданых высокамастацкіх твораў.

Ніл ГІЛЕВІЧ

# ТРУДНАЯ РАДАСЦЬ

## Нарыс

### «Вазьму, што прапануюць»

Ніна і сама не магла-б сказаць, чаму ў такі незвычайны дзень ёй захацелася раптам пабыць адной, зусім адной. Непрыкметна выслізнуўшы з пакоя інтэрната, яна збегла па лесвіцы і накіравалася дарожкай да скверу, але падумала, што там яе абавязкова напаткаюць знаёмыя, прыпынілася і падалася ў процілеглы бок. Перайшла трамвайную лінію і скіравала ў зялёную цяністую алею, што цягнулася ўздоўж вуліцы. Тут звычайна народу бывае мала, і можна колькі часу пабыць сам-насам са сваімі думкамі, са сваім клопатам. А думкі сёння такія неспакойныя... «Куды прасіцца?.. Дзе лепш?.. Пра Барысаўскі або Пухавіцкі раёны і думаць нечага, іх «расхапаюць» тыя, што зойдуць першымі... Можа не «забяруць» Лагойска? Але дзе там! Гэта-ж таксама амаль пад бокам, усяго сорак кіламетраў ад Мінска. Відаць, бліжэй, чым на Халопенічы, не разлічвай...» Нечакана для сябе Ніна адчула, як на сэрцы заварушылася балючая крыўда.

Ніне было гадоў каля дзесяці, калі памерла маці. На дзіцячыя плечы лёг непасільны цяжар, які не паменшыўся і тады, калі бацька абзавёўся новай сям'ёй. Догляд за меншымі братам і сястрой стаў яе непадзельным клопатам. Дзяўчынка рана звыклася з думкай, што ў жыцці радасць даецца нялёгка і што ўсюды і скрозь трэба разлічваць перш за ўсё на свае сілы. І было амаль незразумела суседзям, як гэта «аляксандрава большая», вечна занятая хатняю работаю, ухітрылася закончыць школу з залатым медалем.

Універсітэт, куды паступіла Ніна пасля дзесяцігодкі, таксама з'явіўся выпрабаваннем яе настойлівасці і жыццездольнасці. Пяць год пражыць на адной стыпендыі — мала хто разумее, што гэта значыць. Але Ніна нікому не скардзілася, што ёй цяжка. Нараўне з другімі яна не прапускала ніводнага новага кінофільма, набывала сёе-тое самае неабходнае з літаратуры.

І як-бы ні было цяжка, пяць год, праведзеныя ва ўніверсітэце, — гэта пакуль што найлепшыя гады нінінага жыцця, і самыя светлыя ўспаміны застануцца менавіта аб гэтым часе. Мабыць таму сёння, у дзень размеркавання на працу, калі жаданая будучыня, што так моцна вабіла і ў той-жа час палохала сваёй невядомасцю, наблізілася ўшчыльную, сэрца дзяўчыны не змагло стрымаць

раптоўнага наплыву самых рознастайных пачуццяў...

Прыпыніўшыся каля высокай ралаватай ліпы, Ніна правяла хусцінкай ля пераносся і весела ўсміхалася: «Во, дурная: ледзь не расплакалася. Ну, якая розніца, дзе працаваць? Не на бязлюдны-ж востраў пашлюць. Людзі скрозь роўныя, будзь толькі сама добрай. Вазьму, што прапануюць».

З гэтымі думкамі яна і прышла ва ўніверсітэт.

Па-святочнаму апранутыя хлопцы і дзяўчаты тоўпіліся групкамі каля вокан або прахаджваліся тут-жа ўзад і ўперад па калідоры. Гэта ўсё былі аднакурснікі, выпускнікі філалагічнага факультэта.

— Дзе гэта ты прападаеш? — накінуліся на Ніну сяброўкі Лена Гарбатоўская і Клара Шчарбакова. — Можна падумаць, што хадзіла да якой-небудзь уплывовай асобы, каб тая слова закінула перад камісіяй...

— А што-ж вы думалі! — засмяялася Ніна, беручы дзяўчат пад рукі. — Мая траюрадная цётка даводзіцца залоўкай стрыечнай сястры міністра асветы...

Агульная ўзрушанасць і хвалянне панавалі каля прыёмнай рэктара. Студэнты распытвалі адзін другога, што хто ведае пра той ці іншы раён, ці далёка гэта і як туды дабірацца — чыгункаю ці аўтобусам. Тут-жа хадзіла па руках невялікіх памераў карта адміністрацыйна-палітычнага дзялення БССР.

Трымаліся выпускнікі па-рознаму. Адны стараліся захаваць спакой, другім гэта не ўдавалася, некаторыя-ж — гэта датычыла дзяўчат — і зусім адчувалі сябе няважна. Стуліўшыся за плячыма сяброўак, стаяла ў самым кутку баязлівая, нерашучая Шура Бусел, тая самая Шура Бусел, якую кожны раз у час сесіі таварышы сілком упіхалі ў пакой да экзамінатара. Неўгамонны жартаўнік і весяльчак Валодзя Лазоўскі не мог прапусціць такі зручны выпадак пацешыць сяброў.

— Ну вось, Шура, — прамовіў ён журботна і цяжка ўздыхнуў, — пяць год я маліў цябе выйсці за мяне замуж. Не захацела — цяпер кайся. Мяне-ж пакідаюць у Мінску пры акадэміі. Жыла-б сабе у сталіцы, гора не знаючы, а так — хто ведае, дзе апынешся...

Найболей-жа храбра трымаўся між аднакурснікаў рослы чарнявы хлопец з пранізлівымі вачыма Янка Чысценькі. «Куды хочуць хай пасылаюць. Згодзен на ўсё», — паўтараў ён раз за разам. Наўрад ці хто са студэнтаў здагадваўся ў той дзень аб сапраўдных вытоках янкавага аптымізму, наўрад ці знаў хто, што хлопец ужо зрабіў надзейныя захады, каб застацца ў Мінску, і толькі для адводу людскіх вачэй прышоў сюды па прызначэнне...

Ніну выклікалі ўслед за Лазоўскім — іх прозвішчы суседзіліся ў спісу. Хвілін праз пяць яна выйшла з кволай усмешкай на губах. Адразу-ж яе абступілі дзяўчаты і хлопцы. Дзесяткі вачэй упіліся ў яе пабялелы твар, дзесяткі позіркаў выказвалі адно нямое пытанне: «куды?»

— Глыбоцкі раён, — сказала Ніна і, абвёўшы сяброў вачыма, папрасіла: — У каго карта? Дайце паглядзець.

### Першыя сустрэчы

У Глыбокае Ніна прыехала позна вечарам. Начавала ў гасцініцы. Назаўтра-ж а дзевятай гадзіне яна ўжо была ў памяшканні раённага аддзела народнай асветы.

— Ну што-ж , — сказаў загадчык, пазнаёміўшыся з накіраваннем маладой настаўніцы, — можам прапанаваць вам толькі адно

месца — Удзела. Выбару ў нас няма, школы ўкамплектаваны.

«І тут без выбару... што засталося», — падумала Ніна з горыччу. Але пратэставаць яна не збіралася. Запытала толькі:

— А дзе гэта? Далёка?

— Вёрст дванаццаць, можа крыху болей. Школа там някепская, дырэктар вопытны — Халодная Вольга Рыгораўна... Едзьце, не бойцеся.

Да Удзела можна дабрацца толькі на спадарожнай машыне — аб гэтым таксама Ніну папярэдзілі ў Р'айана. Забраўшы з гасцініцы два невялікія чамаданы — адзін з кнігамі, другі з небагатым студэнцкім скарбам — дзяўчына накіравалася да паваротки на Удзела. Гадзіны дзве стаяла на развілку вуліц, а машын усё не было. Ішоў дробны, але спорны дождж. Ад таго што надакучыла стаяць, і ад таго што суkенка прамокла, настрой дзяўчыны псаваўся ўсё больш і больш. «Калі гэтак трэба будзе чакаць транспарту кожны раз, тады справы мае зусім дрэнь. Нікуды не выберашся».

Было ўжо нешта каля паўдня, калі з-за дому вынырнуў стары, абшарпаны газік з бразгатлівым кузавам. Настаўніца «прагаласавала». Машына ішла да самага Удзела. У кузаве падняўся невысокі, аброслы чорнай шчацінай чалавек і дапамог дзяўчыне паставіць багаж...

Дырэктара Халодную Ніна не застала на месцы — яна была недзе ў ад'ездзе. Сустрэла яе на школьным ганку высокая тонкая дзяўчына, такога-ж узросту, як і Ніна.

— Вы, напэўна, да нас на працу?

— Так.

Дзяўчына ветліва ўсміхнулася і працягнула Ніне руку.

— То будзем знаёмы: Эма Канстанцінаўна, выкладчыца рускай мовы і літаратуры...

Шмат пазней, калі дзяўчаты моцна здружыліся, Ніна прызнавалася сяброўцы: «А ты мне тады адразу спадабалася, з першага позірку. І як-жа я была ўдзячна табе!..»

Эма Канстанцінаўна паведаміла Ніне, што тут, ва Удзела, кватэру знайсці нельга, хіба што якую благую, бо ўсе ніштаватыя пазайманы. Таму лепш зняць кватэру ў Яркаўцах — гэта суседняя вёска, прыкладна за кілометр ад школы.

Накіраваліся ў Яркаўцы. Эма Канстанцінаўна ведала ўжо, у каго з гаспадароў кватаравалі настаўнікі ў мінулым годзе, і таму першы-ж адрас аказаўся надзейным.

Гаспадыня, цётка Петрунэля, акінуўшы цікаўным позіркам незнаёмую настаўніцу, прагаварыла суха:

— Хай паглядзяць. Калі спадабаецца, то чаму-ж не, усёроўна пустуе...

Кватэра Ніне спадабалася: прасторная, чыстая, з вазонамі на падаконніках і высокіх услонах.

У той-жа вечар уся вёска знала: у Петрунэлі Яркавец стала на кватэру новая настаўніца. Час-адчасу, як-бы па справе, заходзілі ў хату суседкі, якім карцела пабачыць петрунэліну кватарантку. Вычакаўшы колькі хвілін для тактоўнасці, звярталіся да Ніны з адным і тым-жа роспытам:

— Мусібыць, самі аднекуль здалёку?

— Мусібыць, аж з-за Мінска?

— З-пад Бабруйска. А вучылася ў Мінску.

— Бацькі-ж, можа, жывыя-здаровыя?

І далей — як па спецыяльнай анкеце жаночай цікаўнасці.

**Знаёмства працягваецца**

Адлятаюць лісткі календара. Вось ужо другі тыдзень, як Ніна Аляксандраўна Манько выкла-




**У Сенніцкай хаце-чытальні ля тэлевізара.**
Фото А. Дзітлава.



Адна з лепшых даярак рэспублікі комсамолка Раіса Сцелькіна (калгас «Комінтэрн» Магілёўскай вобласці).
Фото А. Дзітлава.



**Канец гэтага года азнаменаваўся шматлікімі наваселлямі. Пераехала ў новую кватэру і маладая сям'я Вахурыных з Мінскага завода трактарных запасных частак. Падрыхтавацца да сустрэчы першых гасцей Канстанціну Вахурыну і яго жонцы Нэле дапамагала суседка па кватэры работніца таго-ж завода Ліля Курыліна** (крайняя справа).

Фото А. Дзітлава.



**Старшы майстар першага механічнага цэха Мінскага завода цяжкіх станкоў імя Варашылава Уладзімір Вайцахоўскі, які сваю выдатную работу паспяхова сумяшчае з вучобай на завочным аддзяленні Беларускага політэхнічнага інстытута.**

Фота А. Дзітлава.

дае ва Удзелаўскай СШ беларускую мову і літаратуру.

Ніколі ў жыцці не забудзе яна верасня 1956 года!

Колькі нахвалявалася, як перакалацілася, калі ў першы-ж дзень на яе ўрок у X класе прышла дырэктар школы Вольга Рыгораўна Халодная. Шэсць разоў за тыдзень прысутнічала Вольга Рыгораўна на ўроках маладой настаўніцы. А заўваг не зрабіла. Хоцьбы што сказала — ці блага, ці добра, а то — нічога. Можа ёй не падабаецца? А можа выкажа потым, усё адразу?

Пазнаёмілася Ніна Аляксандраўна — з большага, вядома, — з заведзенымі ў школе парадкамі, крыху асвойталася ў калектыве выкладчыкаў, зрабіла ўжо сякія-такія назіранні над вучнямі.

Прыглядаецца патроху маладая настаўніца і да мясцовых жыхароў, вяскоўцаў. Наогул, людзі ёй падабаюцца — сціплыя, прыветлівыя. Нездарма яшчэ пяць год назад калгас «За Радзіму» мільянерам стаў. Але шмат чаго ёсць і такога ў жыцці і побыце гэтых людзей, з чым Ніна Аляксандраўна ніколі не змірыцца. Яшчэ моцна трымаюцца забабоны; яшчэ некаторыя маладыя хлопцы і дзяўчаты, не кажучы пра дзядоў і бабуль, ходзяць у касцёл на малебен; яшчэ сустракаюцца праявы бескультур'я; яшчэ сям-там жыве недавер і недружалюбнасць паміж людзьмі.

І з усім гэтым трэба змагацца, усё гэта трэба бязлітасна выкарчоўваць. Трэба вызваляць чалавека з духоўнага палону, ачышчаць яго душу ад бруднага накіпу і рабіць яе прыгожай, светлай, крылатай. Трэба адкрываць чалавеку вочы на вялікі сэнс і сапраўдную радасць жыцця, трэба накіроўваць яго сілы і здольнасці ў тое рэчышча, якое ўліваецца ў бязмежны і бурлівы акіян калектыўнай соцыялістычнай творчасці; трэба навучыць яго паважаць у сабе і ў другіх тое лепшае, што сапраўды варта павагі.

Гэта вельмі цяжка, але гэта — неабходна. На грамадзянскім сумленні настаўніка — быць або не быць галоўнай ударнай сілай у гэтай барацьбе.

Асабліва непрыемна і цяжка слухаць маладой настаўніцы «модлы». Кожны вечар, калі яна рыхтуе планы або правярае сшыткі, з суседняга «пакоя», адгароджанага шырокай шафай, даносіцца нуднае мармытанне. Гэта Франук, семнаццацігадовы сын гаспадыні. Стаўшы на калені і абапёршыся локцямі аб ложак, ён замольвае перад богам грахі, якіх яшчэ не паспеў нарабіць, і просіць прасвятую дзеву Марыю заступіцца за яго на тым свеце, да якога яму яшчэ так далёка. Іншы раз, найчасцей у нядзелю, моляцца ўсе трое разам: бабка, маці і ўнук. Глядзіць настаўніца на сімпатычнага бязвусага юнака і ёй робіцца прыкра.

«Франук, Франук! Што-ж гэта з табою рабіць? Як пачаць мне з табою размову?»

А ўчора на перапынку Ніна Аляксандраўна пачула ненарокам, як худзенькая русагаловая пяцікласніца нагаворвала сваёй сяброўцы: «Аленка, не дружы з Валяй, бо зробіш грэх: яна-ж перад сном не хрысціцца!» Пасля ўрокаў настаўніца пакінула маленькую «багамолку» ў класе. Старалася гаварыць ласкава, мякка, каб выклікаць у дзіцяці давер і прыязнасць.

— А ты паспрабуй хоць адзін раз легчы спаць, не перахрысціўшыся, хоць адзін раз!

Дзяўчынка пакруціла галавой.

— Тады я ўсю ноч не засну, будуць страшныя сны сніцца.

— Хто гэта табе сказаў?

— Мама. І цётка Надзя.

— Ну, а ты ўсё-такі паспрабуй, паспрабуй. Я-ж вось не малюся, а вельмі добра сплю заўсёды і нічога страшнага не сасніла ні разу. Ты-ж верыш мне?

Дзяўчынка маўчала. Настаўніца адпусціла яе, так і не дабіўшыся згоды.

«Трэба вырываць дзяцей з-пад улады бацькоў, якія прымушаюць іх верыць ва ўсякае глупства. Ды і з бацькамі трэба часцей гутарыць».

У канцы верасня Ніна Аляксандраўна, параіўшыся з дырэктарам школы і сакратаром мясцовай партарганізацыі, рашыла прачытаць у клубе лекцыю аб маральным абліччы маладога савецкага чалавека. Падрыхтавалася як след, нават падабрала для ілюстрацыі некаторыя мясцовыя факты. У назначаны дзень з самай раніцы на сцяне клуба вісела аб'ява. І ўсё-ж народу сабралася небагата. Стоячы на сцэне за кафедрай, змайстраванай са стала і скрынкі, Ніна Аляксандраўна бачыла, што на двары, пад вокнамі, тоўпіцца шмат моладзі.

«Чаму яны не заходзяць? Чаго яны стаяць там?» — з недаўменнем перапытвала сябе раз за разам настаўніца. Разгадка прышла пазней. Людзі, аказваецца, чакалі танцаў, якімі, па ўстаноўленаму звычаю, заканчваецца ў клубе любое мерапрыемства.

І ўсё-ж лекцыя была прачытана. Той, хто быў у зале, слухаў маладую настаўніцу з цікавасцю. Нешматлікія, але дружныя апладысменты былі прыемнай узнагародай лектару за яе турботы і хваляванне.

## Удар за ўдарам

Актыўнасць і старанне новай настаўніцы было заўважана і ацэнена хутка: у пачатку кастрычніка яна была выбрана сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса. Работы прыбавілася.

На першым-жа паседжанні бюро Ніна Аляксандраўна ўнесла прапанову неадкладна ўзнавіць гурткі мастацкай самадзейнасці, каб з іх дапамогай групаваць калгасную моладзь вакол камсамольскай ячэйкі. Прапанова была горача падтрымана.

Былая ўдзельніца харавога калектыву БДУ, Ніна Аляксандраўна разам з загадчыцай клуба камсамолкай Ленай Каспіровіч прыступіла да арганізацыі хору. Лена някепска разбіралася ў нотных запісах, мела выдатны музыкальны слых, і гэта значна аблягчала справу: як-ні-як, а мастацкі кіраўнік і дырыжор — свой.

Услед за хорам арганізаваўся драматычны гурток. Былі выяўлены таксама неблагія спевакі-салісты і чытальнікі-дэкламатары.

У клубе пачаліся рэпетыцыі. Да Кастрычніцкай гадавіны патрэбна было падрыхтаваць вялікую святочную праграму.

І менавіта ў гэты час, калі Ніне Аляксандраўне пачало здавацца, што яна трывала ўваходзіць у новую каляіну жыцця, непрадбачаныя няўдачы і непрыемнасці моцна пахіснулі яе ўпэўненасць і надоўга прывялі ў невясёлы настрой.

Перш за ўсё — «вячэрнікі». Ніна Аляксандраўна шмат разоў чула, што працаваць у вячэрняй школе рабочай моладзі — гэта адно гора. І ўсё-такі ўяўляла яна гора гэтае вельмі дрэнна: тое, што яна ўяўляла, аказалася ўсяго маленькім горачкам. З сапраўдным-жа горам яна сутыкнулася ў першы-ж вечар на першым уроку. Больш дваццаці дарослых дзецюкоў — чамусьці адны хлопцы — сядзелі як папала, калі Ніна Аляксандраўна ўвайшла ў клас: хто на акне, хто на стале, а хто верхам на парце.

— Добры вечар, таварышы! —

назнарок гучна і весела прывіталася настаўніца.

І скрозь нястройны хор маладых басоў пачула нейчы прарэзлівы піскдявы голас:

— Прывет, ненаглядная!

Некалькі секунд Ніна Аляксандраўна стаяла атаропеўшы, а потым, калі заціх рогат, сказала, не зводзячы злоснага пранізлівага позірку з насмешніка:

— А вы яшчэ паспееце наглядзецца. У нас-жа цэлы год вучобы ўперадзе...

Зноў пракаціўся смех. Грукаючы партамі, кідаючы на падлогу і прытоптваючы нагамі недакуркі, рассядаліся «вячэрнікі».

Калі была закончана пераклічка і Ніна Аляксандраўна паднялася, каб пачаць гутарку, зноў раздаўся голас, поўны непадробнага здзіўлення:

— Ці не збіраецеся вы ўсур'ёз вучыць нас? Ну, што вы! Хочаце, дык пасядзіце, а мы раскажам вам пару анекдотаў. А пасля я правяду вас дадому...

І зноў настаўніца перачакала, пакуль заціх грамавы рогат.

— Вучыць можна толькі ўсур'ёз. Анекдоты-ж, калі яны не пахабныя, можна расказаць пасля заняткаў.

— А вы ведаеце, што гэтыя заняткі нам зусім не патрэбны? І калі мы будзем хадзіць сюды, дык вы дзякуйце нам: як-ні-як, а вам лішняя капейка...

Як варам абдалі настаўніцу гэтыя словы.

— Вы так думаеце... — пачала яна глухім ад хвалявання голасам. Ад нечуванай крыўды перахапіла дыханне. — Дык слухайце: хто не хоча вучыцца і прышоў, каб перашкаджаць мне, — зараз-жа пакіньце клас! Можаце ўсе пайсці, калі сярод вас няма ні аднаго з розумам хлопца. І можаце больш зусім не прыходзіць. Я ішла сюды з чыстым сумленнем, з адзіным жаданнем — дапамагчы вам. Ну, а калі так — то ў чымжа справа? Я вас не трымаю.

У класе наступіла цішыня. Нагнуўшы вінавата галовы, нерухома сядзелі «вячэрнікі». Потым шырокаплечы рослы дзяцюк з пярэдняй парты павярнуўся да гаварлівага і прагудзеў:

— Ну, ты, суслік, прышчамі язык, а то з'ясі...

Яшчэ ніколі Ніна Аляксандраўна не вярталася дадому ў такім дрэнным настроі.

А ўранку настаўніцу чакала новая непрыемнасць: ёй паведамілі, што адна з яе вучаніц пакінула школу. Дачакаўшыся «фортачкі» (свабоднай паміж двума ўрокамі гадзіны), Ніна Аляксандраўна пайшла да яе. Сорак мінут размовы не далі ніякага выніку. Было бачна, што дзяўчынка выканала волю бацькоў. У адказ на гарачы пратэст настаўніцы маці сказала: «Такой бяды. Павучылася трохі і досыць. Няма-ж каму дома рабіць».

Цэлы тыдзень не магла супакоіцца Ніна Аляксандраўна. Непрыемнае пачуццё ці то крыўды, ці то сораму неадступна следавала за ёю: «Як-жа гэта? Чалавек перастаў вучыцца, чалавек перастаў расці, і я нічога не магу зрабіць, каб вярнуць яго назад у школу!..»

Каб крыху развеяць гора, Ніна Аляксандраўна рашыла выбрацца на пару дзён у Мінск. Праўда, была і другая прычына: настаўніца хадзіла ў лёгенькім летнім паліто, а тым часам набліжаліся халады. Вольга Рыгораўна, выслухаўшы просьбу дзяўчыны, не пярэчыла.

Вярталася Ніна Аляксандраўна з Мінска прыцемкам. Паездку яна лічыла няўдалай, бо ні паліто не купіла, ні сяброў не пабачыла. Усяго і карыснага, што ў Купалаўскі тэатр схадзіла.

Цётка Петрунэля спаткала кватарантку непрыязным, падазроным позіркам. Настаўніца збянтэжылася:

— Я чым-небудзь пакрыўдзіла вас?

Гаспадыня маўчала і насцярожана паглядала на дзверы, як-бы чакаючы, што ўслед за настаўніцай павінен яшчэ нехта зайсці. Не любячы «гуляць у хованкі» і прывыкшы размаўляць начыстую, Ніна Аляксандраўна запытала зноў:

— Скажыце, калі ласка, у чым справа? Што здарылася?

І тады, прыбіраючы са стала астаткі вячэры, гаспадыня прагаварыла:

— Я то нічога... Мне што... Я ад людзей чула. Казалі, што ў вас у Мінску застаўся сын і што вы паехалі па сына...

— У мяне? Сын?

Ніна Аляксандраўна перапытала гэта такім голасам, што падазрэнне гаспадыні развеялася ўмомант.

— У сяле гавораць аб гэтым. Я дык не надта і паверыла...

Нічога не кажучы, настаўніца выйшла ў свой пакой, апусцілася ўпоцемку на крэсла каля стала, палажыла галаву на рукі і горка заплакала. Хвілін праз дзесяць яна пачула, як бразнула клямка дзвярэй і бадзёры знаёмы голас сказаў:

— Добры вечар, Петрунэля Адамаўна. А настаўніца прыехала, ці не?

— Там, — адказала гаспадыня і кіўнула галавой у бок квяцістай шырмачкі.

— Вы тут часам не крыўдзіце яе?

— От-жа скажаце, Ляксей Макаравіч. Чаго мне крыўдзіць? От толькі людзі плявузгаюць усякае, гаручка іх ведае, гэтак-гэтак...

Ніна Аляксандраўна пазнала: гэта быў сакратар партарганізацыі, заатэхнік Аляксей Макаравіч Цыбуля. Ён пастукаў у сценку шафы, шагнуў за шырмачку і сардэчна прывітаўся.

— Даўно хацеў зайсці да вас, але ўсё неяк не выпадала, — пачаў ён проста і шчыра. — А што-ж гэта вы нечым засмучаны, ці мне здалося? Кіньце, Аляксандраўна, кіньце! Нам з вамі сумаваць нельга. Сумуе той, хто нічога не робіць...

Не паспелі разгаварыцца, як зноў раздаўся стук у шафу, і ў «пакой» настаўніцы зайшоў завуч школы Гарасім Фёдаравіч Андросенка.

— Чую, гамоніць хтосьці, думаю — дай зайду, можа Ніна Аляксандраўна цікавыя навіны прывезла.

— Сядайце, Гарасім Фёдаравіч, — прапанавала настаўніца госцю масіўную зялёную табурэтку.

— Завуч, а мусіць першы раз наведаўся, — паглядзеў на яго строга Цыбуля.

— Так, як і парторг, — не застаўся ў даўгу Андросенка.

Ніна Аляксандраўна і раней адчувала, што гэтыя людзі адносяцца да яе з павагай, стараюцца пры выпадку дапамагчы. Але сёння яна пранікілася да іх асаблівай удзячнасцю. Простыя, чулыя, шчырыя, яныператварылі ў сэрцы дзяўчыны цёмную-асеннюю ноч у ясны вясновы ранак, крыўду і горыч — у радасць, сумненне і страх — у веру.

Ярка гарэла ў гэты вечар святло ў доме цёткі Петрунэлі. «Дарагія, залатыя людзі» — хацелася гаварыць настаўніцы ўголас, калі мужчыны разышліся. — А шчырыя, нават прыкінуцца не ўмеюць. Адразу-ж бачна было, што прышлі, каб падтрымаць мяне ў цяжкую мінуту. Мабыць, пачулі пра тую агідную плётку»...

Ніна Аляксандраўна выйшла з-за шырмы і, падсеўшы да старой Мальвіны, якая абірала бульбу на вячэру, весела прапанавала:

— Давайце, бабуля, я вам дапамагу.

### «Праваднік»

Асеннія дні кароткія: абы з паўдня — і цямнее. У гэтую пару ўрокі другой змены ўжо заканчваюцца пры электрычным святле.

Пасля апошняга ўрока ў сёмым класе Ніна Аляксандраўна запыніла Петрыка Раманчука і сказала:

— Я пайду з табою, Петрык, хачу паглядзець, як ты жывеш.

Гэта быў той самы Петрык Раманчук, які нядаўна прыбягаў у настаўніцкую з «Канстытуцыяй СССР», каб даказаць, што па закону ў нас свабода веравызнання, і таму ў дзень рэлігійнага свята ён мае права пайсці ў касцёл (а значыць, не пайсці ў школу).

Ужо колькі часу валаводзяцца настаўнікі з гэтым Петрыкам: не хоча вучыцца хлопец дый годзе! Выклічаш да дошкі, а ён стаіць, панурыўшы белую ўскалмачаную галаву, пазірае з-пад ілба, як ваўчанё, і маўчыць — ні слова. Наважыла настаўніца схадзіць да яго бацькоў, пагутарыць з імі, даведацца, што яму перашкаджае вучыцца.

На двары — гразь і вецер, а да петрыкава хутара — кілометры са два. Зашпіліўшы паліто на самы верхні гузік і засунуўшы рукі ў рукавы, крочыць Ніна Аляксандраўна па коўзкай дарозе. Побач — Петрык, у доўгай, напэўна бацькавай сцёганцы і маленькай круглай кепцы з паламаным брылем.

Што крок — цямнее. За гарбатым драўляным мастком настаўніца і Петрык сышлі з дарогі на звычайную палявую сцежку. Неўзабаве наперадзе заблішчаў аганёк, пачуўся брэх сабакі. «Напэўна гэта і ёсць іх хутар», — падумала настаўніца. Але Петрык ішоў моўчкі далей. Нарэшце завярнуў на новую сцежку, і аганёк застаўся ўбаку, ззаду. Прайшлі паўз хмызняк, абагнулі нейкае балотца.

— Далёка яшчэ? — запыталася настаўніца.

— Яшчэ, — буркнуў хлопчык.

— А ты часам не заблудзіўся? — Ніне Аляксандраўне здалося, што яны адмералі ўжо больш, чым два кілометры.

— Не.

Вецер улёгся. Наперадзе ледзь прыкметна вырысоўвалася цёмная сцяна лесу. Ідзе настаўніца, задумаўшыся, і не чуе, што петрыкавы крокі заціхлі. А калі спахапілася, азірнулася — хлапчук як скрозь зямлю праваліўся.

— Петрык! — паклікала яна ціха. Не адзываецца.

— Петрык!

Ні гуку.

— Петрык! — крыкнула Ніна Аляксандраўна на ўвесь голас.

І зноў — цішыня.

Настаўніца спалохалася: што з ім? Дзе ён дзеўся? Паклікала яшчэ некалькі разоў і кінулася бягом наперад. Зноў заблішчалі непадалёк асветленыя вокны хутара. Ніна Аляксандраўна моцна пастукала ў высокія вароты. Загрымеў ланцугом і падаў голас сабака. Праз хвіліну выйшаў гаспадар.

— Не, — адказаў ён на пытанне настаўніцы. — Раманчукоў хутар вы даўно прамінулі, уга, які круг зрабілі, цэлую вярсту лішнюю...

І расказаў, як туды лепш прайсці.

Настаўніца падзякавала і пайшла.

У думках заварушылася падазрэнне: «Значыць, ён знарок завёў мяне сюды і кінуў». Але ад страху перад невядомасцю сціснула ў грудзях. «А што, як з ім што-небудзь здарылася?»

Калі настаўніца пераступіла парог хаты, Петрык сядзеў за сталом у кругу сям'і і хукаў на гарачую бульбіну.

— Скажыце, ваш Петрык прышоў са школы? — запытала настаўніца. І тут-жа ўбачыла яго

сама. — Ах, вось ён! — крыкнула радасна. — Значыць, ты дома, а я так напалохалася, так напалохалася! Думала, дзе ты дзеўся? Звала, звала цябе — няма. Аж ты ўжо, аказваецца, дома. Во, малайчына! Ну, сілкуйся, не саромся, нябось, прагаладаўся.

Гаворыць Ніна Аляксандраўна гэтак, паглядае з добрай вясёлай усмешкай на Петрыка, а на душы ў самой — жывы боль варочаецца. «І хто-ж гэта цябе, Петрык, вучыць пачынаць жыццё з маленькіх подласцей? Хто хоча зрабіць з цябе не чалавека, а чэрствага, дзікага нелюдзіма? Я знаю хто: гэта хутар з яго воўчымі законамі. Ну што-ж, мы яшчэ за цябе паваюем, Петрык. За цябе і за такіх, як ты».

### Галасы сяброў

Чым больш нарастала клопату ў Ніны Аляксандраўны, тым часцей пераносіліся думкі ў недалёкае мінулае, у Мінск, дзе яна рассталася з сябрамі.

«Дзе яны зараз, мае дарагія, родныя дзяўчаткі? Ці ўспамінаюць яны пра мяне, ці думаюць? Калі-б хоць адна з іх была тут цяпер са мною!»

Незадоўга да кастрычніцкага свята Ніне Аляксандраўне пашанцавала: яна адразу атрымала ад дзяўчат тры лісты — з розных куткоў Беларусі. Галоўнае месца ў кожным пісьме займала абурэнне ўчынкам Янкі Чысценькага. Чысценькі надрукаваў у газеце артыкул, у якім хваліў сваіх аднакурснікаў за высокароднае рашэнне паехаць на працу ў самыя глыбінныя раёны. А сам... Як змовіўшыся, пісалі дзяўчаты амаль аднымі і тымі-ж словамі: «У кожным радку пазнаю Чысценькага, таго самага Чысценькага, які не аднойчы выклікаў наша абурэнне. Якое ён мае права пісаць пра нас, калі сам аціраўся ў Мінску па ўсіх кутках, пакуль не ўбіўся ў нейкую шчыліну... Сіл няма спакойна пісаць аб гэтым. Ці, можа, ён спадзяецца гэтым загладзіць хоць крыху сваю віну? Але наўрад ці ён наогул над гэтым задумваецца. Першае маё жаданне было — напісаць гнеўны ліст у рэдакцыю аб такіх людзях, як ён. Але пасля адумалася: каб не палічылі часам за асабістыя разлікі. Хай лепш гэта будзе на яго сумленні».

Ніна Аляксандраўна была цалкам салідарна з сяброўкамі. Хто-хто, а яна добра ведае, як даводзіцца маладой настаўніцы пачынаць першыя крокі самастойнага жыцця і з якой агідай мусіць глядзець яна на розных прыстасаванцаў, што шукаюць цёплага месца.

Пісьмы дзяўчатам прыдзецца напісаць пасля свята ўжо, зараз няма і хвіліны вольнага часу. Вось трэба зайсці да Букаў, пацікавіцца, што з Аркадзем, кажуць, захварэў.

Аркадзь Бука — адзін з лепшых вучняў яе класа. Пяць дзён ужо, як ён не ходзіць у школу. За нядоўгі час настаўніца вельмі ўпадабала гэтага старанната, дапытлівага і разумнага хлапчука. «Не дзіця, а золата» — часта гаварыла яна сабе, назіраючы за вучнем.

Аркадзь быў дома адзін. Ён выйшаў насустрач Ніне Аляксандраўне, такі нясмелы, ціхі.

— Добры дзень! — сказаў, як толькі настаўніца пераступіла парог.

Ніна Аляксандраўна прывіталася.

— Ну, што-ж ты, Аркадзь, забаставаў? Як пачуваешся? Не засумаваў па школе? А мы па табе — ой як засумавалі!

Хлапчук паглядзеў доўгім-доўгім пакутлівым позіркам — не ў вочы, а проста ў душу настаўніцы. Ніколі не забудзе яна гэтых засмучаных вачэй. Як цяжка было

яму ў тую хвіліну! Здавалася, ён казаў: «Што-ж вы пытаецеся, Ніна Аляксандраўна? Хіба вы не бачыце, як я хачу вучыцца!..»

Прышла маці Аркадзя — вельмі добрая, чулая жанчына. Сказала, што заўтра сына будуць класці ў бальніцу. Школу прыдзецца пакінуць да выздараўлення. Доўга ўгаворвала Ніну Аляксандраўну застацца паабедаць разам. А пасля правяла настаўніцу аж на дарогу, сказала на развітанне:

— Дзякуй табе, дачушка, што ты так клапоцішся пра нашых дзяцей. За такую даль прышла! І холадна табе, і мокра...

Выйшла Ніна Аляксандраўна на дарогу і пакрочыла ў бок Удзела. Яшчэ ніколі, здалося настаўніцы, не сустракалася яна з такімі шчырымі, сардэчнымі людзьмі, яшчэ ніколі сэрца не было напоўнена такім харошым пачуццём. Дзякуй ім, гэтым людзям, за тое, што яны ёсць! Іх простыя, ласкавыя словы — найдаражэйшая ўзнагарода.

## Франук задумаўся

Падрыхтоўка мастацкай самадзейнасці ішла поўным ходам: да кастрычніцкага свята заставаліся лічаныя дні. Хор, у які спачатку ўваходзілі толькі вучні старэйшых класаў ды самі настаўнікі, разросся — у яго ўлілося многа аматараў паспяваць з ліку калгаснай моладзі. Асабліва выдзяляліся сваёй актыўнасцю камсамолкі Яніна Шымко, Даната Брэхун, Зоня Раманчук. Яны былі як-бы першымі памочнікамі кіраўнікоў.

У суботу вечарам, у час перадапошняй рэпетыцыі, у клуб заваліўся, хістаючыся, высокі, досыць прыгожы здаравяк і адразу-ж накіраваўся да музыканта, што сядзеў на сцэне.

— Рэж польку! І толькі мне! Я тут камандую! А гэтых дармаедаў, — ён паказаў рукой на настаўніц, — вон!

І асыпаў іх градам самай бруднай лаянкі.

Такой абразы Ніна Аляксандраўна не чула ніколі. Спачатку яна нават разгубілася і нейкі час стаяла, як аглушаная. Потым схамянулася і спытала:

— Хто гэта?

— Гэта Адмэнд, з хутароў, — адказала ёй Эма Канстанцінаўна.

Ніна Аляксандраўна павярнулася да хлопцаў-харыстаў. Ад гневу і абурэння дзяўчыну аж калаціла.

— Ну што, будзем любавацца гэтым хуліганам?

Камсамольцы Алег Раманчук, Юстын Лось, Вінусь Лось, Зенька Брэхун схапілі падгуляўшага Адмэнда вышэй локцяў і, не сказаць, каб далікатна, выправадзілі за дзверы.

А шостага вечарам у калгасным клубе адбыўся вялікі святочны канцэрт. Народу было многа, і таму некаторыя стаялі ў калідорчыку, каля расчыненых дзвярэй. «Артысты» карысталіся нязменным поспехам. Многія нумары праграмы былі выкананы двойчы, а гледачы ўсё не сунімаліся і гарачымі апладысментамі прасілі выступаць яшчэ і яшчэ.

Калі-ж заслона закрылася ў апошні раз і ў сэрцах «артыстаў» трывожнае хваляванне змянілася простай радаснай узрушанасцю, Ніна Аляксандраўна і Эма Канстанцінаўна кінуліся адна да другой на шыю і моцна пацалаваліся. Сюды-ж падняліся Вольга Рыгораўна Халодная, Аляксей Макаравіч Цыбуля, старшыня калгаса Васіль Мікітавіч Гірс. Шчыра, ад душы віншавалі яны настаўніц, горача паціскаючы ім рукі. Нечакана старшыня прапанаваў:

— Ніна Аляксандраўна, машына стаіць каля ганку. Калі не

супраць — падвязу вас да самай хаты.

Настаўніца з удзячнасцю адмовілася.

Па дарозе дадому Ніну Аляксандраўну дагнаў сын гаспадыні Франук.

—Ніна Аляксандраўна, — сказаў ён, параўняўшыся. — А цікава сёння было ў клубе, праўда?

— Табе спадабалася?

— Дык дзіва! Усім спадабалася.

— А чаму ты не хочаш удзельнічаць у самадзейнасці? — запытала настаўніца. — У цябе-ж добры голас.

Франук памаўчаў, уздыхнуў і сумна прамовіў:

— Які з мяне спявак. Ды і мама не дазволіць.

— Дазволіць. Спачатку крыху пакрычыць дый змірыцца.

Хоць хлопец нічога не сказаў на гэта, настаўніца бачыла, што ў яго душы ідзе барацьба.

У гэтым яна канчаткова пераканалася тыдні праз два. У нядзелю раніцой, вышаўшы на кухню, Ніна Аляксандраўна заўважыла, што цётка Петрунэля чагосьці нервуецца. Тут-жа быў Франук. Ён корпаўся ў нейкіх рызманах і таксама быў не ў гуморы

— Ці ты, хлопец, сёння выберашся да касцёлу, ці не? Што ты ўсё шнырыш? Чаго ты шукаеш?

Франук буркнуў нешта незразумелае і перайшоў у другі кут. Праз поўгадзіны ён быў нарэшце гатовы ў дарогу.

— Бяжы-ж ты, ды хутчэй. Людзі вунь калі пайшлі, — ужо лагаднейшым тонам прагаварыла маці.

Аднак не прайшло і трох хвілін, як Франук вярнуўся.

— Насоўку не ўзяў, — сказаў ён вінаватым голасам.

Маці толькі паглядзела незадаволена.

Выняўшы з шафы чыстую хусцінку, Франук сунуў яе ў кішэню і выйшаў на вуліцу. На вуліцы ён прыпыніўся, пастаяў трошкі, як-бы ў роздуме, і... зноў павярнуў на двор. Маці сустрэла яго на парозе.

— Што, яшчэ не ўсё? — запытала яна нецярпліва.

— Яшчэ адну рэч забыў, — спакойна адказаў Франук. Ён сцягнуў з шастка свае старыя штаны і пачаў корпацца ў кішэнях. Знайшоў якуюсьці дробязь, пераклаў у кішэню пінжака і выйшаў з хаты.

Але не паспела цётка Петрунэля адыйсці ад акна да печы, як дзверы зноў адчыніліся і на парозе паявіўся Франук! Гэта ўжо было падобна на нядобрую гульню.

— Франук! — крыкнула разлютаваная маці. — Ці будзе сёння гэтаму канец?

— А чаго ты на мяне крычыш? Захачу, дык зусім не пайду ў твой касцёл.

— Што? Што ты сказаў? У касцёл не пойдзеш? Дык можа ты лепей у клуб пойдзеш?

— Пайду.

— Можа ты і ў комсамол запішашся?

— І ў комсамол запішуся.

Тут цярпенне цёткі Петрунэлі лопнула. Схапіўшы ў качарэжніку чапялу, яна кінулася да сына.

Франук шмыгнуў за дзверы, выбег на вуліцу, азірнуўся разы са два і паплёўся ціха ў канец сяла.

## Трудная радасць

На двары — холад, дзьме злосны сівер і сыпле ў вочы калючым снегам. А ў хаце — утульна, прыемна, цёпла. Сядзяць у хаце кабеты і абменьваюцца навінамі. Пільнай работы няма зараз, да таго-ж сёння — нядзеля, і таму можна крыху забавіцца. Вось і яшчэ адна суседка забегла, упусціўшы ў

хату вялізны клуб белай марознай пары.

— Ой, бабачкі, які холад! Як гэта петрунэліна настаўніца церпіць — дзіўлюся. Спаткала цяпер на вуліцы — дык уся ў снезе, бедненькая. Мусіць, зноў на хутары хадзіла да сваіх вучняў. От дзе ўжо даў бог сэрца чалавеку. Другая маці аб сваіх дзецях так не дбае, як яна аб чужых...

— Што праўда, то праўда. Была і ў мяне на тым тыдні, дык аб усім распытала: і як есць Войцэх, і дзе ён спіць, і дзе ён урокі вучыць, і якія дзеці да яго прыходзяць. Усё-ўсё выпытала. А сама такая простая, гаваркая...

— А як захварэла хлапчанё ў Букаў, дык кожны дзень праўлялася ў сястры пра яго здароўе. Ядзя мая казала, яна разам з Букавай-большай вучыцца...

— А папрасі што-небудзь — апошнім падзеліцца. Прывезла была вялізную пачку кавы з Мінска, дык палавіну аддала за нішто той другой, высокай. Я сама хадзіла да Петрунэлі пытацца, ці праўда...

— І пачаставаць любіць. Неяк раз дзве вучаніцы зайшлі па яе, каб на рэпетыцыю паклікаць. Дык яна сілком пасадзіла іх за стол і дала есці. Знала, што яны не абедалі...

— А той Адмэнд толькі гразіўся тады, што галовы зніме настаўніцам, а цяпер вунь які смірны, так раскланьваецца з імі...

І яшчэ многа добрых, цёплых слоў было сказана ў той дзень пра маладую настаўніцу. Але Ніна Аляксандраўна не чула іх. Яна сядзела ў гэты час у сваім «пакоіку» і пісала ліст сяброўцы на Віцебшчыну.

«Любая мая, дарагая!

На новым месцы я прыжылася моцна. З педкалектывам здружылася так, як калісьці ва ўніверсітэце. Адносінамі да мяне вельмі задаволена. Найболей-жа ўдзячна дырэктару Вользе Рыгораўне (я табе пісала аб ёй) і завучу. Колькі яны дапамагаюць мне! Асабліва ў сэнсе методыкі і выпрацоўкі навыкаў. Ты-ж знаеш, як мала ўвагі звярталі на гэта ва ўніверсітэце.

Часам я перажываю сапраўдныя хвіліны радасці. І ўсё — ад чалавечай цеплыні, прастаты, жадання дапамагчы адзін другому. Гэта бывае найчасцей тады, калі бачыш перад сабою дзесяткі вачэй, дапытлівых, шчырых, якія чакаюць ад цябе чагосьці харошага, вялікага, цікавага. У такія хвіліны ўсе твае няўдачы здаюцца зусім мізэрнымі, а пра некаторыя свае ранейшыя думкі і ўспамінаць сорамна.

І так добра жыць! І так хочацца яшчэ больш працаваць, працаваць і працаваць! «Сейце разумнае, добрае, вечнае!» — як гэта выдатна сказана!

Трудная наша радасць, затое — сапраўдная!

Аднак-жа, пара паставіць кропку. Стог сшыткаў чакае мяне, трэба праверыць да заўтра.

Пішы мне, калі ласка. Хоць гэтулькі, як я табе.

Да хуткай сустрэчы ў Мінску, на канікулах!

Моцна цалую цябе — Ніна».

Мікола МАРУШКЕВІЧ

# БУДНІ КОМСАМОЛЬСКІЯ

## Навічок

Выдаўся ціхі, цёплы восеньскі надвячорак. Па алеі, што пралегла ад фабрыкі аж да самага рабочага пасёлка, Леанід Бялоў ішоў павольна, прыслухоўваючыся ў задуменны шэпт тапаляў, якія ранялі долу сваё ўбранне.

«От, збярэмся ўсе разам, параімся і неяк зрушым справу з месца. Не можа так быць, каб не зрушылі. З такімі хлопцамі, як нашы, можна ўсё зрабіць!» — разважаў сам з сабою Леанід. Яго выбралі комсоргам у цэху, і цяпер усе думкі хлопца былі скіраваны на тое, як арганізаваць работу з моладдзю. Леанід ужо меў сякі-такі вопыт: ён выконваў комсамольскія даручэнні, а ў апошні час быў членам цэхавага бюро...

Здавалася, усё зразумела, толькі бярыся ды рабі. Так думаў Леанід учора. Але тое, што ўчора здавалася такім простым і ясным, сёння зноў стала для Леаніда цьмяным, незразумелым. Раніцою яму паведамілі з камітэта комсамола, што Віктар Радоўскі, які нядаўна паступіў у механічны цэх вучнем, комсамолец, але ў яго не абменены комсамольскі білет. У абедзенны перапынак Леанід падышоў да навічка:

— Віктар, ты — комсамолец, а мы і не ведаем гэтага.

— Гы-гы-гы... Ну, дык і што, — неяк недарэчна рагатнуўшы, азваўся той.

Леанід недаўменна паглядзеў на хлопца, але змаўчаў.

— Трэба, браце, абмяняць комсамольскі білет, — сказаў Леанід. — Нашы ўсе ўжо даўно абмянялі. Рыхтуй фотакарткі, мы дамовімся ў гаркоме, калі табе трэба прыйсці.

— А можа я не хачу, — адказаў Віктар, пазіраючы некуды ўбок.

Калі-б гэта сказаў хто-небудзь са сваіх комсамольцаў, Леанід знайшоў-бы, што яму адказаць. А што сказаць чалавеку, якога зусім яшчэ не ведаеш? І ўсё-ж пасля двух-трох такіх размоў Леанід не вытрымаў:

— Хопіць прыкідвацца. Ёсць комсамольская дысцыпліна і, будзь ласкавы, падпарадкоўвайся. Для цябе статута асобнага не будзе!..

— Можа яшчэ лепш працаваць загадаеце? — спрабаваў «жартаваць» Віктар.

— А ты як думаў? Трэба будзе, дык і загадаем!..

Радоўскі гаварыў яшчэ нейкую бязглуздзіцу, і Леанід раззлаваўся не на жарты. Падышлі комсамольцы, што працавалі побач. Было відаць, што і яны асуджаюць Віктара, але-ж, напэўна, ім

не хацелася распальваць сварку. Адзін з іх сказаў, звяртаючыся да Леаніда:

— Ды годзе вам спрачацца.

— Хіба-ж не раззлуешся, калі чалавек такое глупства гаворыць...

— Нічога, абаб'еццца, — уставіў нехта з хлопцаў і дадаў: — А не, дык мы яго паставім на месца.

А ўвечары здарылася новая непрыемнасць. Комсорга запрасіў да сябе начальнік цэха. Ён расказаў, што Радоўскі часта ўвільвае ад работы, не выконвае заданняў і што трэба нешта зрабіць. Леанід моўчкі слухаў начальніка цэха, у знак згоды ківаў галавою: добра, маўляў, будзем прымаць меры, а ў самога на душы станавілася вельмі прыкра.

Вяртаючыся дамоў па той-жа самай алеі, такім-жа, а можа і яшчэ прыгажэйшым надвячоркам, Леанід цяпер ужо не захапляўся харастовм асенняй прыроды. Злосны, ён усё прыбаўляў кроку. Злаваўся не столькі на Радоўскага, колькі на сябе самога: «З адным чалавекам не справіўся, а яшчэ збіраўся нейкую цікавую работу разгарнуць... Дзеяч знайшоўся!..».

І тут-жа імкнуўся знайсці сабе нейкае апраўданне:

«Такіх людзей, як гэты Радоўскі, трэба проста выключаць з комсамола»...

Але аднекуль украдвалася і непакоіла іншая думка: «Ты-ж комсорг, выхавацель. Дык пазмагайся-ж за чалавека, разбярыся, чаму ён такі! Радоўскаму ўсяго семнаццаць год, і ты абавязаны паставіць яго на правільны шлях».

Праз некалькі дзён аб Радоўскім зайшла размова на пасяджэнні цэхавага комсамольскага бюро. Розныя былі выказаны думкі і меркаванні, але ўсе пагадзіліся на тым, што трэба неяк уздзейнічаць на навічка. Членам бюро Аляксандру Прылепаву і Альберту Анегданку было даручана бліжэй пазнаёміцца з ім, пагутарыць, бо самому Леаніду ўмешвацца ў справу пакуль што не з рукі.

Аляксандр і Альберт шчыра пагаварылі з Віктарам Радоўскім. Віктар паабяцаў пайсці ў гарком абмяніць білет і наогул выправіцца. Але гэтага абяцання хапіла ненадоўга.

На фабрыцы Віктар ні з кім не сябраваў. Затое амаль кожны дзень яшчэ за некалькі мінут да заканчэння змены ён знікаў з цэха. Куды-ж спяшаўся? Хлопцы прасачылі за ім. Убачылі яны свайго падапечнага ў нядобрай кампаніі. Чацвёра славутых на ўвесь горад абібокаў бадзяліся па парку. З імі ў зашмальцаванай вопратцы быў і ён, Віктар Радоўскі. Ён-жа і частаваў іх у піўной...

Вось, аказваецца, адкуль цягнулася нітка, вось што рабіла Віктара грубіянам! Зноў аб ім гаварылі на пасяджэнні бюро. Адны прапанавалі «выцягнуць» Радоўскага на сход і ўсыпаць яму, як належыць, а калі спатрэбіцца, дык і з комсамола выключыць. Не шкодзіла-б, гаварылі прыхільнікі яшчэ больш крутых мер, ад такога зусім пазбавіцца. Іншыя раілі пакуль што ўстрымацца ад выкліку на сход і ад накладвання спагнання. Яны прапанавалі: «Пакрытыкуем яго ў фабрычным «Акне сатыры» і на сходзе!» Што-ж датычыцца Леаніда, то яму больш за ўсё спадабалася думка таварыша Гальдо, намесніка парторга цэха, які сказаў:

— Ці не занадта мы спяшаемся, сябры? Каб зрабіць пэўныя вывады, трэба ўсё ўзважыць. Апошнія два-тры дні Радоўскі працуе лепш. Мне здаецца, што ў нас у цэху ёсць людзі, якія могуць аказаць добры ўплыў на Віктара. З таго часу, як вярнуўся з адпачынку Віктар Лашкевіч, яго

напарнік і, можна сказаць, настаўнік па рабоце, Радоўскі крыху падцягнуўся.

— Гэта-ж на рабоце, таварыш Гальдо, — запярэчыў нехта з членаў бюро, здаецца, Мікалай Вераб'ёў, — а тут пытанне комсамольскай дысцыпліны...

— А ці не згодзішся ты, хлопча, з тым, што іменна работа можа чалавека на правільны шлях паставіць? Зразумела, калі і вы не будзеце паглядваць на гэтую справу збоку, пасіўна... — заўважыў намеснік парторга.

Рашэння на бюро ніякага не прымалі, бо пытанне аб Радоўскім спецыяльна не абмяркоўвалася. Ды і ці варта было заводзіць на гэта розныя паперы? Можа і не ўсе згадзіліся з думкай намесніка парторга, толькі яна ўжо не давала спакою Леаніду Бялову. І каб не адна акалічнасць, то ён адразу пайшоў-бы гутарыць з напарнікам Радоўскага — Віктарам Лашкевічам. Акалічнасць-жа гэта была такая: Лашкевіч не комсамолец і не член партыі. Праўда, ён — адзін з лепшых рабочых у цэху, але-ж ці правільна будзе, што чалавек беспартыйны будзе выхоўваць комсамольца? Адчуваў Леанід, што ў гэтым нічога кепскага няма, але ўсё-ж вырашыў параіцца з парторгам цэха Радзівонам Сямёнавічам Івановым.

— Што-ж, невялікі грэх, калі беспартыйны чалавек дапаможа выручыць юнака з бяды. Ды Лашкевіч-жа, здаецца, яшчэ нядаўна быў комсамольцам. Ён што, выбыў з комсамола па ўзросту? Ну, дык не бяда...

Да просьбы членаў комсамольскага бюро Віктар Лашкевіч паставіўся сур'ёзна. Ён ведаў слабінку ў характары Радоўскага: той вельмі хацеў хутчэй стаць самастойным стругальшчыкам. Часта Лашкевіч наглядаў, як Радоўскі з замілаваннем глядзеў на яго работу, потым браўся сам і хацеў усё рабіць з такім-жа спрытам, але яму не ўдавалася. Тады ён, кусаючы губы, адыходзіў убок, са злосцю падфутбольваючы нагамі ўсё, што траплялася на дарозе. Лашкевіч папракаў юнака за гарачлівасць і цярпліва вучыў яго. Аднак да свайго адпачынку ён не паспеў навучыць хлопца працаваць самастойна, і той, застаўшыся без настаўніка, відаць, засумаваў па «сапраўднай» рабоце. А тут яшчэ і такая кампанія падвярнулася. Цяпер-жа Радоўскі зноў захапіўся работай. А што юнак рабіў, вышаўшы з цэха, Лашкевіч не ведаў.

— Паспрабуем, — адказаў ён на просьбу актывістаў. — Але будзем дзейнічаць разам.

Лашкевіч здолеў уцягнуць Радоўскага ў работу, як кажуць, з галавой і калі-ні-калі запрашаў яго разам прайсціся дадому. Пра што гаварылі настаўнік і вучань, сказаць цяжка, але Радоўскі не цураўся Лашкевіча. Ды і комсамольцы не давалі яму спакою. Хлопцы звалі яго на стадыён, у кіно, у клуб, куды-небудзь на прагулку. Здаралася, што Радоўскі ўпіраўся, напэўна, цягнула яго яшчэ іншы раз да «прыяцеляў». Але ў такіх выпадках усё вырашаў Лашкевіч.

— Ідзі з хлопцамі, чаго ўпіраешся, — настойліва гаварыў ён Радоўскаму.

І той ішоў, куды яго клікалі хлопцы. Аднойчы Радоўскі прышоў у клуб к канцу вечара, калі ўжо танцавалі. Ён, відаць, да гэтага прыклаўся да куфля піва, бо галава яго была ўскудлачана, сарочка расхрыстана. Лашкевіч паклікаў яго да сябе:

— Ты што гэта, з чупрынніка ідзеш, ці што?

Надзьмуўшыся, той маўчаў. А яго «дружбакі» заўзята падавалі яму ад парога знакі: «хадзем, маўляў, адсюль». Толькі не ўда-

лося ім забраць з сабой Радоўскага, іх ветліва выправадзілі з клуба.

Так новыя сябры не давалі Радоўскаму апынуцца ля чужога берага. Здаралася яшчэ, што ён зрываўся, але хлопцы ўсё з большай настойлівасцю стараліся падаць яму таварыскую руку. Першая няўдача, а таксама парады старэйшых таварышаў-комуністаў навучылі комсамольскіх актывістаў дзейнічаць асцярожна і ўдумліва.

Вось Віктар Радоўскі разам з сябрамі пайшоў на стадыён. І ён быў ужо не абыякавым гледачом, а разам з усімі шчыра радаваўся перамозе заводскай каманды, у якой палова футбалістаў з іхняга, механічнага цэха. Новыя сябры праводзілі яго дадому, каб яму выпадкова не перагарадзілі дарогу тыя, каго ён пабойваўся з-за разрыву «дружбы». А вось ён разам з комсамольцамі цэха ўдзельнічае ў нядзельніку. Здаецца, сёння-ж ён першы раз павітаўся за руку з Леанідам Бяловым, адкрыта паглядзеў яму ў вочы. А калі ішлі дадому, Віктар ішоў поруч з Леанідам, слухаў, пра што гавораць хлопцы, смяяўся разам з імі. Затым пры развітанні крыху затрымаў леанідаву руку ў сваёй.

— Леанід, ты на мяне ўсё злуеш?

— Ніколькі.

— Прабач, дурнем быў...

## Сябры-суседзі

От-жа яшчэ задача: знайсці баяніста! Леанід абышоў свой цэх, перапытаў можа з сотню знаёмых хлопцаў з іншых цэхаў, але дарэмна: ніхто іграць на баяне не мог.

Навошта-ж спатрэбіўся комсоргу музыкант? Можа ён, як жартавалі старыя рабочыя, надумаўся замест вытворчай зарадкі калектыўныя танцы наладжваць? Не. Справа тут надзвычай сур'ёзная, і Леаніду не да жартаў. З тыдзень таму назад на сходзе, абмяркоўваючы пытанне аб падрыхтоўцы да заводскага фестывалю, комсамольцы вырашылі падрыхтаваць сваю самадзейнасць, для пачатку стварыць хоць-бы харавы гурток.

— Хай сабе будзе і мужчынскі хор (бо дзяўчат у цэху няма), але-ж выйдзем на фестываль як належыць, з песняй, — падтрымалі комсамольцы леанідаву прапанову.

Тут-жа, на сходзе, у гурток запісалася пятнаццаць чалавек. Дні праз тры сабраліся. І тут выявілася, што без кіраўніка спяваць хлопцы не могуць. Але дзе знайсці чалавека, які добра ўмеў-бы спяваць і мог навучыць іншых?

— Без баяніста нам не абысціся, — загаварыў найпершы ахвотнік да песень Аляксандр Інукоў. — Лепш, як музыкант, ніхто мелодый не ведае, ды пад музыку і спяваць зручней!

На тым і пагадзіліся, што трэба абавязкова знайсці баяніста, і даручылі гэтую справу Леаніду. Але знайсці баяніста не лёгка, хоць адмаўляйся ад сваёй задумы. І хлопцы пачалі ўжо адгаворваць:

— Кінь, Леанід, — гаварылі яны. — Хіба ў нас няма чаго на фестывалі паказаць, акрамя песень? Валейбольная каманда ёсць? Ёсць. Першае месца забяспечана. Футбольная каманда таксама будзе бадай самай лепшай!

Але ніякія довады не супакойвалі Леаніда. Не супакойвала яго нават тое, што моладзь цэха падрыхтавала да фестывалю добры працоўны падарунак. Тут комсамольцы пастараліся. Ніякія клопаты не засланілі сабой асноўнага, да чаго імкнулася бюро. А яно настойліва дабівалася, каб у цэху не

было адстаючых. Прышлося, праўда, пазмагацца не толькі за Віктара Радоўскага, а заняцца яшчэ такімі хлопцамі, як Алег Камкоў і Пятро Марчанка. Актывісты дамагліся, што ў цэху ўсе маладыя рабочыя перавыконвалі вытворчыя планы. У цэху нарадзілася і пашырылася на астатнія цэхі каштоўная ініцыятыва. Камсамольцы прапанавалі правесці рэйды па сумежных цэхах і выпусціць спецыяльныя бюлетэні. Нават дырэкцыя фабрыкі адзначыла гэты каштоўны пачын. Камсамольцы выявілі шмат дробных непаладкаў, якія затрымлівалі рост прадукцыйнасці працы.

— Не. Усё-ж добра было-б, каб і хор у нас быў, — разважае Леанід, прыкідваючы ў думках усё, што зроблена, і рашуча адчыняе дзверы пакоя камітэта камсамола фабрыкі.

— Дапамажыце, таварышы, — звярнуўся ён да сакратара камітэта і расказаў, у чым справа.

Насустрач Леаніду з шырокай усмешкай падымаецца дзяўчына. Леанід крыху ведае яе. Гэта Марыя Журава, намеснік сакратара комсамольскага бюро другога сартавальнага цэха.

— Ёсць ідэя, хлопцы! Запрашаем вашых харыстаў да нас. У нас адны дзяўчаты, а ў вас адны хлопцы... Баяніста разам знойдзем. Я ведаю аднаго хлопца. Ну як, згода?

— Добра, але-ж вы да нас прыходзьце, — адказаў Леанід.

У той-жа дзень знайшлі баяніста. Згадзіўся дапамагчы хору Уладзімір Леонцьеў, слесар з другога рамонтна-механічнага цэха. Што-ж датычыцца комсамольцаў з механічнага, то знаходка Леаніда спадабалася ўсім. Хлопцы-харысты да заняткаў гуртка рыхтаваліся з асаблівай стараннасцю. Прыбралі ў чырвоным кутку, самі пераапрануліся, сталі чакаць. Дзяўчаты-ж, відаць знарок, крышачку затрымаліся... Але вось яны ўрачыста паявіліся на парозе чырвонага кутка механічнага цэха.

— Добры вечар. Будзем знаёміцца, — жартаўліва загаварыла тая-ж самая Марыя Журава. — Мы — з сартыроўкі нумар два!

Доўга «знаёміліся», смяяліся і між тым абмеркавалі рэпертуар. Потым спявалі. Куды цікавей было спяваць разам і пад акампанемент баяна. Дадому ішлі таксама разам і таксама з песняй.

Так пачалася дружба комсамольцаў механічнага з дзяўчатамі другога сартавальнага цэха. Забягаючы крыху наперад, скажам, што гэтая дружба не разладзілася і сёння. Наадварот, яна ўзмацнела. Што-б ні задумалі хлопцы, яны запрашаюць да сябе дзяўчат, а дзяўчаты — хлопцаў. Выезд на масоўку — разам, калектыўны паход у тэатр — таксама разам, ідзе маладзёжны вечар — спявае аб'еднаны хор моладзі механічнага і сартавальнага цэхаў. Дружба комсамольцаў двух цэхаў прынесла з сабой здаровы дух спаборніцтва.

На чарговым фабрычным вечары комсамольцы з механічнага цэха паказалі, чаго яны варты. Чаго толькі варты аб'еднаны хор, які пачаў сваё выступленне песняй «Марш совецкіх патрыётаў». Пасля кожнага выступлення доўга моладзь выклікала на сцэну спевакоў. На сцэну зноў і зноў выклікалі салістаў Анатоля Патапава, Пятра Гайса, Валянціна Крукоўскага. Выклікалі ўсіх харыстаў.

Не ўпусцілі першынства хлопцы з механічнага цэха і ў спартыўных гульнях. Потым паказалі і сваё рабочае майстэрства: слесар Аляксандр Бобрыкаў зрабіў набор інструменту, які ўмяшчаецца ў карабку, не большым ад запалак. (Гэты сувенір потым падаравалі

венгерскаму сябру на VI Сусветным фестывалі ў Маскве).

У падрыхтоўцы да VI Сусветнага фестывалю комсамольцы механічнага цэха занялі першае месца. Яны атрымалі тады падарунак — камплект струнных інструментаў, фотаапарат і пуцёўку на фестываль у Маскву.

### Хутка навaселле

Месяцы за два да кастрычніцкіх свят, калі абмяркоўваліся новыя сацыялістычныя абавязацельствы ў гонар 40-годдзя Савецкай улады, моладзь з механічнага цэха прапанавала — будзем змагацца за выкананне гадавой праграмы да 7 лістапада!

У той час на фабрыцы можна было пачуць такія галасы:

— Занадта высока бяруць у механічным!

Але хутка малаверы змоўклі. У механічным якраз такія хлопцы, што калі скажуць, дык абавязкова зробяць. Агонь спаборніцтва, запалены комсамольцамі, разгараўся з кожным днём. Неўзабаве ўжо не адзінкі, а дзесяткі людзей перавыконвалі нормы ў паўтара-два разы. Можна назваць зараз дзесяткі імён, якія вызначыліся ў тыя дні. Гэта ў першую чаргу актывісты, комсамольцы — Леанід Бялоў, Альберт Анегданка, Аляксандр Прылепаў, Мікалай Вераб'ёў, Аляксандр Маркоўскі, Анатоль Патапаў, Аляксандр Бобрыкаў, Валянцін Крукоўскі і дзесяткі іншых. Нават Віктар Радоўскі не адстазаў, крочыў у шарэнзе першых.

Неўзабаве прышоў час, калі трэба было дакладваць комсамольцам, як працавала бюро. Справаздачу рабіў Леанід. І хоць было аб чым гаварыць на справаздачна-выбарчым сходзе, ён хваляваўся: «Ці правільна мы будуем сваю работу? Ці правільна, што менш, як калісьці, засядаем, радзей збіраем сходы, а больш возімся з рознымі пачынаннямі.

Комсамольцы ўхвалілі работу бюро, пахвалілі актывістаў за тое, што яны здолелі арганізаваць шмат цікавага. Але-ж разам з тым, яны і крытыкавалі сваіх арганізатараў і, у прыватнасці, яго, Леаніда. Занадта многа ўзвальвае ён на сябе абавязкаў, нярэдка члены бюро застаюцца ў баку ад таго, што робіцца ў арганізацыі. Мала даручэнняў даецца і радавым комсамольцам.

Было і яшчэ некалькі слушных заўваг, прапаноў. І Леанід, якога зноў абралі комсоргам, пасля сходу склікаў членаў бюро, каб усё ўзважыць, абмеркаваць заўвагі таварышаў. Новы калектыў дружна ўзяўся за работу.

Справаздачна-выбарчы сход праходзіў якраз напярэдадні свята Вялікага Кастрычніка. Падводзілі вынікі спаборніцтва, рыхтавалі мастацкую самадзейнасць, упрыгожвалі цэх, хадзілі на нядзельнікі па добраўпарадкаванню тэрыторыі фабрыкі. І колькі было радасці, калі ў дні вялікага свята ўсіх савецкіх людзей віншавалі іх, комсамольцаў механічнага цэха! Гэта-ж па іх пачыну цэх змагаўся за выкананне гадавога задання і з гонарам стрымаў сваё слова.

Хутка будзе яшчэ адзін радасны дзень і ў самога Леаніда, і ва ўсіх комсамольцаў цэха. Надыйдзе час, калі можна будзе з задавальненнем адзначыць яшчэ адну перамогу, здабытую маладзёжным калектывам. У той час, напярэдадні кастрычніцкага свята, якраз была абвешчана пастанова партыі і ўрада аб пашырэнні жыллёвага будаўніцтва. Калектывы многіх цэхаў абавязаліся сваімі сіламі будаваць жылыя дамы. А якую-ж дапамогу старэйшым маглі аказаць комсамольцы? У механічным доўга не задумваліся.

— Збудаваць сваім лепшым маладым рабочым дом! — унёс хтосьці прапанову.

Яго падтрымалі. У заводскім пасёлку побач з іншымі навабудоўлямі ўжо ўзвышаецца ў рыштаваннях чатырохкватэрны дом. Яго будуе моладзь. Разам з іншымі сюды прыходзяць хлопцы з механічнага цэха. Прыходзяць амаль што ўсе, бо як-жа не дапамагчы сваім таварышам! Шмат чаго хлопцы рабіць не ўмеюць, але вучацца і будуюць.

Нядоўга засталося чакаць, калі з комсамольскай будоўлі будуць зняты рыштаванні. І тады хлопцы павіншуюць сваіх сяброў Бобрыкава, Прылепава, Пракопава і Сталярова з новаселлем.

## Прашу прыняць у комсамол

І ўсё-такі комсоргам працаваць цяжка. Нават і тады, калі ты дагэтуль быў актывістам, ведаў, што і як робіцца, даводзіцца часам нялёгка. Можна, зразумела, ісці па пратаптанай сцежцы, але тады не пазбегнеш шаблону. А шаблон бадай што самае горшае ў комсамольскай рабоце.

Усе члены комсамольскага бюро заклапочаны такою акалічнасцю: у цэху ёсць хлопцы, што працуюць добра, а калі пачнеш з імі гутарку аб уступленні ў комсамол, маўчаць, ухіляюцца ад размовы. Вось узяць-бы хоць Уладзіміра Косціна. Хлопец працуе добра, ад грамадскіх даручэнняў не ўхіляецца, а калі яму прапанавалі ўступіць у комсамол, дык ён паціснуў плячыма:

— Пачакаю яшчэ крыху...

Што стрымлівае чалавека? Паспрабавалі выклікаць юнака на шчырую размову. Пагаварылі раз, другі. Удалося. Уладзімір быў і не супраць стаць комсамольцам, толькі сумняваўся, што яшчэ не падрыхтаваны.

— Статута добра не ведаю яшчэ. А комсамолец-жа павінен быць перадавым чалавекам ва ўсім...

Правільна разважае хлопец! І комсамольцам-актывістам прыйшлося пераглядаць свае планы, уключыць туды побач з іншымі надзвычай цікавымі мерапрыемствамі самыя звычайныя: гутаркі з моладдзю аб комсамоле. Партыйная арганізацыя вылучыла для правядзення гутарак комуністаў. Няхай і нямнога людзей прыходзіла на гэтыя гутаркі, тут яшчэ не шкодзіць падумаць, як лепш іх арганізаваць, але-ж зрух ёсць. Першым падаў заяву аб прыёме ў рады ВЛКСМ Уладзімір Косцін. Потым падалі заявы яшчэ сем чалавек. Расце, мацнее комсамольская сям'я...

Выпадак з Косціным навёў Леаніда і іншых членаў бюро яшчэ на адну думку. Трэба, каб уся моладзь вучылася. А як было раней? Кожны раз перад пачаткам навучальнага года ў сетцы палітасветы і ў вячэрніх школах комсорг ці хто-небудзь з актыву абыходзіў цэх, апытваў рабочых, хто дзе жадае вучыцца. Нярэдка і гэтага не рабілася, а проста адвольна складаліся спісы гурткоў... Як толькі пачынаўся навучальны год, пачыналася і беганіна. Адны не хацелі займацца у тых гуртках, куды іх залічылі, другія пасля некалькіх заняткаў «адсейваліся». Некаторыя баяліся цяжкасці вучобы ў вячэрняй школе. Таму нешта трэба зрабіць, каб вучылася ўся моладзь, каб ішла на заняткі з ахвотай.

Пра вучобу загаварылі на адкрытым комсамольскім сходзе. Не проста «заклікалі» вучыцца, а зрабілі інакш. Міхаіл Цыкуноў, які нядаўна закончыў вячэрнюю школу, устаў і расказаў аб тым, як вучыўся, якія цяжкасці сустра-

каліся, якая дапамога патрэбна тым, хто пойдзе ў школу. Сёлета ў школу з цэха паступіла ўжо не два чалавекі, як у мінулым годзе, а дзесяць.

Лепш парупіліся і пра палітвучобу. Гурткі стварылі цяпер па прапановах саміх-жа камсамольцаў. Кожны выбраў сабе тое, што яму больш падыходзіць. Цяжка наперад сказаць, як будзе ісці вучоба, але-ж цяпер заняткі наведваюць усе. Працуе палітшкола, гурток па вывучэнню гісторыі КПСС. І калі справа будзе добра кантралявацца, калі цэхавае бюро будзе і ў далейшым праяўляць настойлівасць, то ў дружнай камсамольскай сям'і будзе крынічыць жыццё.

Мы ўжо доўга гутарым з Леанідам Бяловым. Ён расказвае аб сваёй рабоце, аб сваіх радасцях і цяжкасцях. Ён не выхваляецца, не пачуеш ад яго ганарлівага «я». Позірк у юнака адкрыты, шчыры. Толькі недзе ў самых кутках яго вясёлых вачэй часам загараецца задорная іскрынка. Не, гэты юнак не спасуе перад цяжкасцямі, настойліва будзе ісці да пастаўленай мэты і весці за сабою моладзь.

Фабрычныя карпусы паволі раствараюцца ў вячэрнім змроку. Вось-вось запаляцца ліхтары, асветляць наваколле. У чырвоны куток прыдуць комсамольцы з механічнага цэха, заглянуць дзяўчаты з сартавальнага. Сёння-ж рэпетыцыя аб'еднанага хору. Моладзь рыхтуецца да Новага года. Пальецца песня аб маладосці, аб тым, што так хораша, калі адчуваеш сябе бадзёра, калі ведаеш, што ты сам гаспадар свайго жыцця.

**Магілёў.**
**Шаўковая фабрыка**
**імя Куйбышэва.**

*Размова аб майстэрстве*

Алесь АДАМОВІЧ

# ЧАЛАВЕК І СВЕТ ПРЫРОДЫ

У адной размове, дзе было ўжыта слова «біялагічнае» ў адносінах да чалавека, малады выкладчык грамадскіх навук усклікнуў амаль спалохана: «Што вы, таварыш Н., чалавек-жа прадукт грамадскага развіцця!»

Ён, безумоўна, быў правы ў асноўнай думцы. Але трэба было чуць, як думка гэтая была выказана, якім тонам: адчувалася, што паняцце біялагічнага для гэтага чалавека — «табу», небяспечнае слова, якое не растлумачваюць, аб якім проста патрэбна маўчаць.

Сапраўды, чалавек стаў тым, кім ён з'яўляецца, у працэсе грамадскага развіцця. Аднак развіццё гэтае праходзіла ў свеце прыроды, праз падпарадкоўванне сіл прыроды грамадству, чалавеку. І яна, прырода, не толькі вакол нас, яна і ў самім чалавеку: «біялогія», прырода, не знікла ў грамадскім чалавеку, яна толькі «ачалавечылася».

Праўда, жывая прырода «знікла» з некаторых літаратурных твораў, у якіх замест жывых людзей дзейнічаюць носьбіты пэўных «грамадскіх функцый». Але лепшым доказам аднабаковасці такога погляду на чалавека з'яўляюцца самі гэтыя творы — безжыццёвыя, пазбаўленыя сапраўднай глыбіні і праўды.

Творы мастацтва, якія захапляюць нас паўнатой жыццёвай праўды, псіхалагічным багаццем і пластычнасцю вобразаў, пры ўсім іх канкрэтным адрозненні маюць адну агульную асаблівасць: чалавек у іх — часцінка грамадства, але разам з тым і часцінка складанейшага ў сваіх формах свету прыроды. Гэта правільна ў адносінах Леанарда да Вінчы і Рубенса, Шэкспіра і Пушкіна, Талстога і Чайкоўскага. Правільным гэта застаецца і ў адносінах мастацтва сацыялістычнага рэалізма, бо ў гэтым сама спецыфіка мастацкага асэнсавання свету.

Сапраўды, прадметам мастацтва з'яўляецца не чалавек абстрактны, а той, што жыве ў грамадстве і ў свеце прыроды. Іменна ў чалавеку, і выключна ў ім і праз яго, рэалізуецца сувязь паміж грамадствам і прыродай. Толькі мастацтва здольна ўбачыць і паказаць чалавека ва ўсім багацці яго сувязі са светам.

Указваючы на функцыі прыроды, пейзажа ў творах вялікіх мастакоў слова, мы вельмі часта спрашчаем праблему. Бясконца чуеш, што пейзаж нешта «падкрэслівае», «адцяняе» і г. д.

А між тым пейзаж у творах мастацтва можа і не выконваць такой вузка службовай функцыі.

Пейзаж — гэта свет прыроды, у якім чалавек жыве, з якім ён арганічна звязаны. Грамадскі чалавек — часцінка гэтага свету. Іменна ў чалавеку прырода праяўляе сябе ў найвышэйшай ступені, з найвялікшай сілай і прыгажосцю. І магчыма, ніхто з мастакоў не ўмеў лепш бачыць і разумець гэтую ісціну, пераконваць у ёй чытача, умацоўваючы ў ім гордасць за «чалавечае званне», чым Максім Горкі.

Грамадства, прырода, чалавек — паняцці неразздзельныя для сапраўднага мастака.

Грамадскі, духоўны, маральны пачатак аўтар «Вайны і міру» і «Анны Карэнінай» заўсёды ставіў на першы план. З амаль хрысціянскай нянавісцю выпісвае ён асляпляльныя плечы бяздушнай Элен Курагінай. Аднак ён іх малюе таму, што ён мастак і павінен прымусіць другіх убачыць тое, аб чым ён гаворыць.

Выключная здольнасць гаварыць усю бязлітасную праўду аб чалавеку, бачыць і паказваць не толькі адваротны бок грамадскіх з'яў, але і непрыкрытую «жывую прыроду», «жывое жыццё» — гэта і надае вобразам і карцінам Льва Талстога ні з чым непараўнальную мастацкую сілу.

І колькі сапраўднай, адухоўленай паэзіі ў «жывым жыцці», якое так смела ўзнаўляе гэты мастак у сваіх творах: у дзікім віску Наташы Растовай, з якім яна сустракае брата-гусара, у непрыгожым твары Марыі Балконскай, у сцэне родаў і г. д.

Маральны, духоўны пачатак для Льва Талстога — галоўнае ў чалавеку. Але як умее ён прасвятліць знутры, духоўным святлом «прыродную абалонку», з якой настойлівасцю імкнецца ён зрабіць бачнай гэтую «абалонку»!

Вялікія грамадскія сілы і страсці сутыкаюцца ў рамане Міхаіла Шолахава «Ціхі Дон». Але героі «Ціхага Дона» — не абстрактныя «соцыяльныя сутнасці», а жывыя людзі. І таму так няпроста вырашаюцца ў рамане Шолахава канфлікты — грамадскія, класавыя, гістарычныя.

Ускладняюцца гэтыя канфлікты і пачуццём любасці герояў да «данской зямлі», на якую, па думцы многіх казакаў, замахваюцца «мужыкі», і саяцкімі пачуццямі, і звычайнымі чалавечымі слабасцямі, страсцямі і г. д.

Пісьменнік бачыць і паказвае вялікую праваату комуніста Міхаіла Кашавога перад сваімі аднахутаранцамі. І тым не менш пісьменнік з душэўнай чалавечай павагай да мацярынскага гора Ільінічны апавядае аб тым, як нялёгка прымірэецца сэрца маці з тым, што «забойца» яе сына Пятра Міхаіл Кашавой уваходзіць у яе дом зяцем.

З «талстоўскай» праматой і бязлітаснасцю малюе Міхаіл Шолахаў вайну і чалавека на вайне, тое, як «страшэнна проста» паміраюць людзі, мінуту да таго поўныя надзей. Ён не баіцца паказаць, як страх перад смерцю спалучаецца ў прыбыўшых на фронт казакаў з палахлівай цікаўнасцю да яе ахвяр. Мелехаў Грыгорый — гэты смелы «чарцяка», дзёрзкі «турка», калі яго ўпершыню паранілі, паўзе сярод трупаў і плача, як дзіця...

У «Ціхім Доне» жывыя людзі пакутуюць, любяць, ненавідзяць і дзейнічаюць у рэальным свеце. І таму ўсё так няпроста і неаднапланава ў гэтым рамане. Міхаіл Шолахаў умее зберагчы і перадаць тую «несіметрычнасць» з'яў, якая, па словах Льва Талстога, ёсць першая адзнака рэальнага жыцця.

Але рэалізм М. Шолахава на гэтым не канчаецца. Соцыялістычны рэаліст Міхаіл Шолахаў па-майстэрску паказвае, як скрозь награмаджэнне чалавечых лёсаў і

страсцей, выпадковасцей і бытавых з'яў непераадольна цвёрда прабіваецца гістарычная неабходнасць, вышэйшая рэвалюцыйная справядлівасць.

Тыя-ж прынцыпы мастацкай танізацыі і ў «Паднятай цаліне», і ў апавяданні М. Шолахава «Лёс чалавека».

Чытаючы «Лёс чалавека» — невялікае апавяданне аб падзвіжніцкі цяжкім жыцці простага рускага чалавека, міжволі ўспамінаеш «Ціхі Дон». Адчуваецца, што тут Міхаіл Шолахаў зноў закрануў тое, што ёсць у кожнага сапраўднага мастака — сваю самую запаветную тэму. Імкненне перадаць драматычную складанасць жыцця — вось што збліжае невялікае апавяданне «Лёс чалавека» з шолахаўскай эпапеяй «Ціхі Дон».

Магчыма, гэта вельмі суб'ектыўна, але чамусьці верыцца, што іменна гэтае апавяданне — ключ да доўгачаканай шолахаўскай эпапеі аб вялікім подзвігу совецкага чалавека ў Айчыннай вайне.

Велізарнае гэта майстэрства — маляваць чалавека, не вырываючы яго з багацейшых сувязей са светам, — як з грамадствам, так і з прыродай. Толькі тады прыходзіць тая поўнакроўнасць і цэласнасць карцін жыцця, якая так зачароўвае нас у творах Міхаіла Шолахава.

Выдатны прыклад такога-ж усебаковага, поўнага ахопу жыцця чалавека — «Рускі лес» Леаніда Леонава.

Праз адносіны да прыроды, якая з'яўляецца часткай паняцця Радзімы, пісьменнік змог паўней раскрыць грамадзянскае аблічча ідэйных праціўнікаў Віхрова і Грацыянскага. Цудоўны вобраз Полі ўвесь вырастае з уласцівых яе ўзросту страшэнна непасрэдных адносін да таго, што яе акружае: да людзей, рэчаў, лесу, сонца... Свет вачыма Полі адкрываецца як-бы **нанава,** ён малюецца пісьменнікам быццам-бы адсвечаным у здзіўлена, шырока раскрытых, чыстых і непрымірыма сумленных вачах дзяўчыны-падлетка.

Прырода — добры і надзейны сябар Полі. У тылу ворага яна не адчувае сябе адарванай ад таго свету, што ўзрасціў і выхаваў яе, бо навокал — родная прырода. А прырода-ж для Полі — частка паняцця Радзімы.

«И, словно предвидя состояние девочки, посланной на святое и опасное дело, вся тамошняя природа заторопилась ей навстречу. Она понавесила снежную муть по всей Емге, выслала тугой, с морозцем ветерок и волчью позёмку, она подкинула под ноги Поле полуприметную колею крестьянских саней и настрого наказала лесу не сбивать её с дороги».

А калі затрыманую немцамі Полю вядуць у зямлянку да афіцэра на мучэнні і, магчыма, на смерць, дзяўчынка бярэ «снежок в горстку», каб не быць адной перад ворагамі.

Такая тонкасць псіхалагічных дэталей у Л. Леонава спалучаецца са здзіўляючай пластычнасцю вобразаў, жывапіснасцю карцін.

У таго, хто прачытаў «Рускі лес», доўга будзе «стаяць у вачах» не толькі жывое аблічча Віхрова, Полі, Грацыянскага, але і «вобраз» (іменна вобраз!) той «прамой, як прамень» сасны, якую губіць купец Кнышаў.

Тое, што ад размовы аб прыродзе мы прама перайшлі да размовы аб пластычнасці вобразаў, жывапіснасці карцін, не з'яўляецца адступленнем ад тэмы, бо ўсё гэта адна праблема. Толькі той мастак, які ўмее цаніць «жывую прыроду», «натуру», здольны ствараць вобразы, якія можна **бачыць,** вобразы сапраўды пластычныя.

Існуюць бясконца рознастайныя

формы і прыёмы стварэння «выпуклых», пластычных, «бачных» вобразаў і карцін. У гэтых выпадках звычайна гавораць аб «адчуванні слова». Аднак і само «адчуванне слова» прыходзіць да мастака ў адпаведнасці з тым, як ён авалодвае майстэрствам бачыць і цаніць багацце і сакавітасць фарбаў «жывога жыцця». Без гэтага майстэрства ўсе прыёмы і ўсе словы — мёртвыя.

Аўтару гэтага артыкула неяк прышлося чытаць апавяданне, у якім пісьменнік спрабуе выкарыстаць талстоўскі прыём «прыставання» да чытача з адной рысай партрэта. Зноў і зноў напамінае пісьменнік, што ў яго гераіні «пульхныя губы». Але паколькі талстоўскі партрэтны прыём выкарыстаны чыста знешне і няма за ім адчування жывога чалавека, відовішча атрымліваецца даволі непрыемнае: на плоскім твары манекена наклеены «пульхныя губы».

Пра многіх літаратурных герояў мы гаворым: «Як жывы!» І гэта ў поўным сэнсе вышэйшая ацэнка майстэрства мастака. Намаляваць чалавека, каб ён быў «як жывы», можа толькі той пісьменнік, які добра ўлоўлівае і перадае ўзаемазалежнасць душэўнага руху і «жэста», умее бачыць чалавека як жывое, цякучае адзінства «ўнутранага» і «знешняга». Надзвычай смела і праўдзіва адкрывае ўзаемазалежнасць «унутранага» і «знешняга» ў чалавеку Аляксей Талстой. У рамане «Хаджэнне па пакутах» ёсць такая дэталь: прыгнечаны падзеямі, у якіх ён не можа разабрацца, брудны, заросшы, Вадзім Рошчын ідзе па вуліцы, думаючы аб самагубстве. У такім стане ён выпадкова зайшоў у цырульню, пабрыўся, выйшаў на сонечную вуліцу — і вось ён ужо са здзіўленнем успамінае аб нядаўніх змрочных думках і намерах. І верыш-жа мастаку, што такая здавалася-б дробязь — адчуў сябе чалавек маладзейшым, прыгажэйшым, проста чысцейшым — змяніла ўвесь ход думак і жаданняў Вадзіма Рошчына.

Адчуванне чалавекам самога сябе, сваёй знешнасці, погляд на сябе збоку ў літаратуры вельмі часта служыць як-бы вуглом гледжання на душэўнае жыццё чалавека. Гэта, зразумела, не адзіны, але вельмі пладатворны прыём лепкі «выпуклых», пластычных вобразаў.

Як жывая, прадстае перад намі Наташа Ростова ў сцэне, якая дазваляе чытачу адначасова бачыць і знешнасць гераіні, і даверліва раскрытую яе душу:

«Окончив первый урок, она остановилась на середине залы и повторила одну музыкальную фразу, особенно понравившуюся ей. Она прислушалась радостно к той (как будто неожиданной для неё) прелести, с которой эти звуки переливаясь наполнили всю пустоту залы, и медленно замерли, и ей вдруг стало весело. «Что об этом думать много, и так хорошо», сказала она себе и стала взад и вперёд ходить по зале, ступая простыми шагами по звонкому паркету, но на всяком шагу переступая с каблучка (на ней были новые, любимые башмаки) на носок, и так же радостно, как и к звукам своего голоса, прислушиваясь к этому мерному топоту каблучка и поскрипыванию носка. Проходя мимо зеркала, она заглянула в него. — «Вот она я!» как будто говорило выражение её лица при виде себя. — «Ну и хорошо. И никого мне не нужно».

Лакей хотел войти, чтобы убрать что-то в зале, но она не пустила его, опять затворив за ним дверь, и продолжала свою прогулку. Она возвратилась в это утро опять к своему любимому состоянию любви к себе и восхищения перед собою. — «Что за

прелесть эта Наташа!» сказала она опять про себя словами какого-то третьего, собирательного мужского лица. — «Хороша, голос, молода и никому она не мешает, оставьте только её в покое». Но сколько бы ни оставляли её в покое, она уже не могла быть покойна и тотчас же почувствовала это».

Уменне бачыць складаную сувязь «знешняга» і «ўнутранага» ў чалавеку адрознівала выдатнага беларускага празаіка К. Чорнага, пісьменніка-псіхолага. У аповесці «Люба Лук'янская» ёсць такое месца. Дробны і хітры драпежнік Ян Стафанковіч пад старасць нечакана, твар у твар, сутыкнуўся з уласнай жыццёвай філасофіяй, якую пераняў ад Стафанковіча яго-ж сын Сашка. Сашка, лоўкасцю і бессардэчнасцю якога Стафанковіч калісьці захапляўся («урвіцель, падла, эйш, які спрытны, па мне пайшоў!»), адмаўляецца ад бацькі, калі яму пашчасціла «выбіцца ў людзі». Стары Стафанковіч вымушаны шукаць Любу і ўнука, ад якіх ён калісьці хаваў свайго «ўрвіцеля»-сына, Стафанковіч сам ніколі нікому не паспачуваў і не дапамог у бядзе, але цяпер, калі прышла старасць, калі яго так пакрыўдзіў уласны сын, гэтаму чалавеку хочацца верыць, што ён варты спачування, заслугоўвае ласкі і ўвагі. А як-жа, ён такі стары і хворы! Усё яшчэ моцны, «жылісты», Стафанковіч у гэты момант хацеў-бы адчуваць сябе і хворым і слабым.

«Ён пачаў прыслухоўвацца, ці не ные бок і ці не дранцвее нага. Як-быццам бы і ныла і дранцвела». І вось ён ужо ледзьве ногі валачэ, ідзе, «грабучы нагамі па тратуары», нават пакульгваць пачаў. І тое, што ён «грабе нагамі» і «пакульгвае» выклікала ў ім яшчэ большы жаль да самога сябе, ён ужо зусім паверыў, што Люба павінна прыняць яго, даць яму вугал, зрабіць старасць яго цёплай і забяспечанай.

«Покуль ён дайшоў, куды яму трэба было, то ўжо быў упэўнены ў тым, што ў яго мноства хвароб. Яму пачало нядобрыцца: то ў спіне кальне, то ў сярэдзіне заные, то ў галаву стукне. Ён прыслухоўваўся: баліць ці не? Прыслухаўшыся, то яно сапраўды баліць, і яшчэ як моцна. Тады ён прыслухоўванне сваё даводзіў да найвышэйшай ступені і меў задавальненне: баліць, на яго выйшла».

Сама паходка героя ў гэтай карціне неяк звязана з яго ўнутраным псіхалагічным станам. Пры гэтым пісьменнік паказвае не толькі тое, як паходка, знешні выгляд героя абумоўлены псіхалагічным станам, перажываннямі яго, але і адваротную сувязь устанаўлівае ён: пачаў Стафанковіч «грабсці нагамі», і гэта дало новы ход яго настрою, яго думкам. Знешняе і ўнутранае ў гэтым чалавеку для чытача настолькі зліліся адно з другім, што ў тыя хвіліны, калі Ян Стафанковіч расплачваецца за ўсё сваё жыццё, калі душа яго сціснулася ад прадчування апошняга ўдару, пачынае здавацца, што ён увесь неяк «сціснуўся», нават ростам паменшаў.

І душу, і знешняе аблічча гэтага чалавека мы бачым адначасова, таму такі адчувальны, жывы гэты вобраз у нашым уяўленні.

У творах пісьменнікаў, здольных бачыць і цаніць «жывое жыццё», чалавек, грамадства і свет прыроды выступаюць ні ў чым не збедненымі. Няма ў такіх творах нуднай дазіроўкі становучага і адмоўнага, святла і цені, а ёсць само жыццё ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці. Гэта добра даюць адчуць і творы сучасных беларускіх пісьменнікаў. У беларускую прозу ўвайшлі і сталі ў шэрагу лепшых яе дасягненняў апавяданні і аповесці Янкі Брыля, якія

валодае талентам жыццелюбівым і багатым. Творы Янкі Брыля знаёмяць чытача з самымі living rознастайнымі бакамі жыцця: мастак апавядае і аб радасным і аб сумным, і пра тое, што нам дорага, блізка, і пра тое, што выклікае горыч, крыўду, нянавісць. Але аб чым-бы ні гаварыў ён: аб сірочым хлебе пастушка («Сірочы хлеб»), аб сямейным жыцці маладой сялянкі, якое склалася няўдала («Галя»), аб пабегу з страшнага нямецкага палону («Сонечны зайчык»), аб бяздушшы бюракрата («Прывал»), у творах яго побач з ценем столькі святла, радасці, жыцця, што ўсё дрэннае і горкае ніколі не засціць сабой шчасця жыць, змагацца за ўсё лепшае, шчасця бачыць вакол сябе цікавых і яркіх людзей, быць сярод іх, жыць радасцямі і бедамі, думкамі і пачуццямі свайго народа. Грамадскі пафас твораў Янкі Брыля ўзмацняецца тым, што чалавек у яго «правяраецца» і «ацэньваецца» не толькі нормамі нашай маралі, але і з пункту гледжання ўсяго прыгожага, што ёсць у свеце прыроды.

Паліцай Капейка («У Забалоцці днее»), чынуша Фамут («Прывал»), спекулянт Мякіш («На Быстранцы») для Янкі Брыля несумяшчальны не толькі з нашым грамадскім жыццём, але і з жыццём наогул: з сонцам, зелянінай, дзіцячым смехам.

І дарэчы, ёсць прамая заканамернасць у тым, што пісьменнік, які ведае прыроду, у кім, кажучы словамі Міхаіла Прышвіна, ёсць «страснае пачуцце прыроды», такі пісьменнік звычайна добра разумее і дзіцячую псіхалогію, бо дзеці — гэта тое, што ў найбольшай ступені звязвае чалавека са светам прыроды, з жыццём. У Янкі Брыля дзеці з прыродай жывуць «запраста», «па-сяброўску».

«Сонца хоча, каб хлопчык устаў, і яно прыпякае яго. «Чыхнеш, чыхнеш усё-ж такі», — смяецца сонца. І праўда, Анатоль не вытрымаў, чыхнуў».

Там, дзе дзеці («Ліпка і клёнік», «Сірочы хлеб» і г. д.), прырода ў Янкі Брыля «размаўляе» з героямі і чытачамі ўсім багаццем гукаў, фарбаў, светаценяў.

Жыццелюбства і народнасць — якасці нераздзельныя. У гэтым пераконвае нас творчасць усіх вялікіх мастакоў. Народ — аптыміст па свайму светаадчуванню. Імення ў народзе чэрпала мастацтва ва ўсе часы аптымізм і жыццелюбства.

Размову аб тым, што нельга чалавека вырываць з акружаючай яго прыроды, мы ніяк не хацелі-б зводзіць да папулярызацыі таго прасталінейнага і павярхоўнага «біялагізма», якім перахварэла наша літаратура яшчэ ў 20-я гады.

Не, ігнараваць біялагічнае ў чалавеку зусім не значыць рабіць «біялогію» пунктам гледжання на чалавека, зыходным пунктам для разумення паводзін чалавека.

Усякі акцэнт на «біялогіі» — таксама аднабаковасць.

У першым нумары альманаха «Наш современник» за 1957 г. надрукавана аповесць Станіслава Мелешына «Таежны стрэл». На плытах, якія гоняць сярод таежных сібірскіх паселішчаў, сабраліся людзі вельмі розныя: «шырокая душа» Васька Дубін, які стаў плытагонам, каб зарабіць грошай на вяселле, асеўшы ў Сібіры ўкраінец Грыгор'еў, чалавек цяжкі ў рухах і думках, «паляўнічы за рублямі» Жвакін, абрусеўшы мансі Саміндалаў, добры і шчыры, закаханыя Нікалай і Антаніна, якія «збеглі ў жыццё» ад бацькоў. Ва ўсіх гэтых людзей свая мара аб удачы, шчасці, будучыні. У Жвакіна мара гэтая звязана выключна з грашыма, у другіх — з думкай аб каханай, ці той, якую прыдзецца пакахаць. Шчаслівы сваім каханнем да раскошна прыгожай Глафіры, Васька

Дубін з усіх сіл стараецца, каб і другія былі ў гэтым удачлівымі: ён дапамагае Саміндалаву выкрасці ў радні Майру, перажывае за Грыгор'ева, які з нялёгкай душой стараецца наладзіць сваё шчасце з чужой жонкай, з «гладкатварай і румянай» Аўдоцццяй. Вакол гэтага і верціцца ўсё ў аповесці.

«Гэта значыць — людзі любяць адзін другога і «на ўсіх сонца адно», як сказаў добры і ціхі, самы ласкавы чалавек з іх — мансі Саміндалаў Сцяпан. І гэта самае лепшае, што робіць людзей таварышамі, а не праца, няшчасце ці свята».

Было-б несумленнасцю зводзіць ідэйны змест аповесці Станіслава Мелешына да гэтага даволі спрэчнага аўтарскага абагульнення. Філасофія твора Мелешына і шырэй і багацей гэтага абагульнення: у падтэксце аповесці прабіваецца думка аб тым, што ёсць дзесьці, зусім недалёка, жыццё больш змястоўнае і больш насычанае грамадскімі інтарэсамі. Туга па гэтаму жыццю хваляй находзіць на Ваську Дубіна і нават на Грыгор'ева.

Нельга не лічыць вартасцю аповесці Мелешына выразнасць і сакавітасць чалавечых характараў, выпісаных з любоўю, каларытнасць карцін таежнага жыцця. На прыкладзе гэтага твора можна нават бачыць, як ярка піша мастак, які смела звяртаецца да сакавітых фарбаў «жывога жыцця», не баіцца «біялогіі».

І ўсё-ж у падыходзе аўтара да жыцця ёсць нешта такое, што вельмі шкодзіць твору і можа яшчэ больш нашкодзіць пісьменніку ў будучым, калі яно ўмацуецца, стане тэндэнцыяй. У карцінным і, так сказаць, «нацюрмортным» награмаджэнні страсцей і каханняў, характэрным для «Таежнага стрэла», заўважаецца пэўная штучнасць, знарочыстасць, якая збядняе жыццё. Людзі ўзяты ў заведама збедненых сувязях з грамадскім жыццём, і гэтае іх існаванне адзін-на-адзін з прыродай і сваімі страсцямі распісана такімі падкрэслена сакавітымі фарбамі і «кіпучымі» інтанацыямі, што туга Ваські па нейкаму другому, больш змястоўнаму жыццю, здаецца мала апраўданай.

Прырода, «біялогія» таржаствуюць у аповесці перамогу над усім астатнім, нягледзячы на ўсе старанні аўтара надаць твору больш грамадскае гучанне.

Уменне бачыць і паказваць у чалавеку і тое, што звязвае яго з грамадствам, і тое, што робіць яго часткай свету прыроды, надзвычай патрэбна для мастака. Аднабаковы погляд на чалавека, на жыццё збядняе мастацтва, пазбаўляе яго сапраўднай ідэйна-мастацкай і выхаваўчай сілы.

## Старонкі гісторыі

**В. А. СЫТЫ,**
**член КПСС з 1925 года.**

# ВОГНЕННЫМ ШЛЯХАМ

1

У часы грамадзянскай вайны мая сям'я знаходзілася ў Орэнбургу ў эвакуацыі. Там я вучыўся ў вышэйшым пачатковым вучылішчы. Часта з групай «чырвоных» я нападаў на чыноўніцкіх сынкоў, «белых», і сам насіў ад іх сінякі.

Скончылася вайна. Мы вярнуліся на Скідзельшчыну ў родную вёску Бондары. Мой бацька меў сваю гаспадарку, якая пэўным чынам забяспечвала і маю будучыню. Але не да гэтага імкнулася мая душа. У мяне з'явілася жаданне змагацца за лепшую будучыню ўсяго народа, і я стаў на цяжкую, поўную нягод дарогу падпольшчыка - рэвалюцыянера. Пачалося гэта так.

У нашу вёску вярнуўся чырвонаармеец Міхаіл Пік. Неўзабаве ён арганізаваў падпольную комуністычную ячэйку, у якую ў 1925 годзе ўступіў і я.

Міхаіл Пік сказаў мне аднойчы:

— Ты добра ведаеш Любу Зорку. Дай ёй заданне і правер. Калі гэта смелая дзяўчына — прымем і яе ў партыю...

І вось некалькі месяцаў ноч у ноч дачка нашага суседа-бедняка Люба хадзіла ў незнаёмую вёску, насіла падпольную літаратуру і ў поўнач на могільніку перадавала яе незнаёмым людзям. Калі скончыўся выпрабавальны тэрмін, я сказаў сваім таварышам-комуністам:

— Люба Зорка — адважная дзяўчына. Ёй можна даручаць любыя заданні!..

З цягам часу, калі я набыў вопыт падпольнай работы, мяне выбралі сакратаром райкома.

Набліжаўся дзень выбараў у панскі сейм, і комуністычная партыя разгарнула агітацыю за кандыдатаў з народа. Па Скідзельскай выбарчай акрузе мы падтрымлівалі кандыдатуру беспартыйнага гарбара Верабейчыка, які балаціраваўся пад нумарам 13.

Гэта было ў 1927 годзе. Амаль усе вёскі навокал Скідзеля былі



В. А. Сыты і яго жонка Люба ў сваім садзе.

пад нашым уплывам. Выбары былі назначаны на 4 сакавіка. У гэты дзень з самага ранку людзі паваліліі да выбарчых участкаў, несучы транспаранты з лічбай 13. Але польскія паны ведалі, што ад сялян і рабочых не чакай для сябе дабра, і вакол участкаў паставілі моцныя патрулі паліцыі. Паліцыянты ўпускалі для галасавання па спісках толькі тых, каму верылі, што ён прагаласуе за кандыдата-пілсудчыка. Час ішоў. Народ прыбываў і прыбываў. Нарастала хваляванне. У самы напружаны момант нехта закрычаў:

— Па якому праву яны пазбаўляюць нас голасу? Да ўрнаў, таварышы!

І сотні людзей уварваліся на ўчастак.

Але праз некалькі мінут па шашы з Гродна прымчаліся машыны з падмогай. З машын выскачылі «балахоўцы», «стшэльцы», новыя атрады паліцыі і пачалі збіваць бяззбройны народ.

— Бяры калы, дзяры каменні, браткі! — закрычала моладзь.

У момант пайшоў у справу брук, затрашчалі скідзельскія парканы. Пілсудчыкі адкрылі страляніну. Вось упаў акрываўлены Фёдар Бубен, за ім Ілья Машка, потым яшчэ чацвёра. Супраць вінтовак мы былі бяссільныя. Прышлося ўзяць акрываўленых таварышаў і адступіць. Паліцыянты пачалі хапаць каго папала і кідаць у машыны.

2

Ішлі дні напружанай падпольнай барацьбы. Я па-ранейшаму быў сакратаром райкома, Люба Зорка ўзначальвала арганізацыю МОПРа. Раптам аднаго за другім пачалі арыштоўваць нашых падпольшчыкаў. Стала зразумела, што сярод нас ёсць здраднік. Трэба было тэрмінова прымаць нейкія меры, інакш паліцыя перасаджае ўсіх комуністаў. Але як выявіць правакатара? Дапамог выпадак..

Аднойчы я з двума чамаданамі, поўнымі яек і грошай, сабраных мопраўцамі для палітзняволеных, прыехаў у Гродна. Праходзячы па вуліцы, я ўбачыў члена комуністычнай ячэйкі з суседняй вёскі — Мірука. Ён ішоў побач з сышчыкам і нешта нашэптваў яму. Дык вось хто наш вораг!..

Неўзабаве на рагу вуліц цяперашняй Ожэшковай і Савецкай удзень да Мірука падышоў невядомы і выстралам ва ўпор забіў здрадніка.

Пасля забойства Мірука арышты сярод падпольшчыкаў спыніліся. Аднак перад смерцю здраднік паспеў выдаць мяне, назваўшы сышчыкам маё прозвішча. Неўзабаве мяне арыштавалі і асудзілі на 5 год. Расстаючыся, Люба мне шапнула:

— Буду чакаць, колькі-б цябе не трымалі... Я падмяню цябе!..

І сапраўды Люба не раз праяўляла здзіўляючую кемлівасць. Вось некалькі прыкладаў.

Падпольны райком рашыў, каб Скідзельскі гурток самадзейнасці паставіў у гарадскім клубе адну рэвалюцыйную п'есу. Скідзельскім артыстам гэтая п'еса вельмі спадабалася. Ашукаць цэнзара даручылі Любе. Яна прышла да жанчыны-цэнзара і так яе загаварыла, што тая, прачытаўшы толькі некалькі радкоў п'есы, дазволіла яе паставіць. І п'есу, з яўным заклікам да рэвалюцыі, у Скідзелі паставілі. За яе Люба потым трапіла ў турму.

Другі раз Люба папала ў турму так. Аднойчы яе схапілі з білетамі МОПРа. Дзяўчына прыкінулася, што білеты гэтыя падняла на базары, падумаўшы, што гэта грошы. У часе допыту Любе засаджвалі пад ногці іголкі, прышчамлялі дзвярыма пальцы, лілі ў нос воцат. Аднак, нічога не дабіўшыся, вымушаны былі выпусціць дзяўчыну. Люба выйшла на свабоду ўзмужнелая, яшчэ больш загартаваная. Потым яе паслалі ў Вільню, у падпольную друкарню. Там Любу западозрыў паліцыянт і затрымаў. Каб пераканацца, што яна сапраўды віленская жыхарка, ён загадаў Любе паказаць, дзе яе дом. Дзяўчына доўга вадзіла «пана паліцыянта» па зусім невядомаму гораду, выбіраючы зручнейшае месца, каб уцячы. А вечарам у поездзе, які ішоў з Вільні ў Гродна, да Любы прычапіўся сышчык. Дзяўчына схапіла свае рэчы і на поўным ходу выскачыла з поезда.

У 1933 годзе мяне выпусцілі з турмы. Прыехаў я ў сваю вёску, сустрэўся з Любай, і мы пачалі рыхтавацца да вяселля. Пажаніліся мы грамадзянскім шлюбам, а вяселле згулялі без гарэлкі — тады падпольшчыкі байкатавалі алкагольныя напіткі. На другі дзень мы былі ўжо арыштаваны.

— Чаму ў царкве не вянчаліся? Чаму на вяселлі не пілі гарэлку? — люта дапытвалі нас у паліцыі.

Некалькі месяцаў нас трымалі ў астрозе, усяляк стараючыся прымусіць павянчацца. Нарэшце, выпусцілі. Ну, думаем, пакінулі нас паны ў спакоі. Але яны задумалі каварны і агідны ўчынак. Панам трэба было ў што-б там ні стала зламаць нас маральна. Я завёз цяжарную Любу ў гродзенскую бальніцу. Там яна нарадзіла блізнят. Праз некалькі дзён адна бальнічная нянька, падкупленая паліцыяй, замучыла ні ў чым не вінаватых дзяцей...

Перажыўшы ўтрату, мы з Любай зразумелі, што нам сямейнага шчасця не бачыць да тае пары, пакуль на нашай зямлі стаіць нага фашыста Пілсудскага. І яшчэ з большай энергіяй узяліся за справу.

### 3

... Ішлі першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Пад Мінскам са свежых акопаў выйшаў на шашу стомлены палкоўнік і затрымаў фурманку.

— Вы хто будзеце? — спытаў ён у мужчын і жанчын, якія сядзелі на возе.

— Былыя скідзельскія падпольшчыкі, — адказалі тыя. — Адступаем, каб ваяваць з фашыстамі...

Падумаўшы, палкоўнік сказаў:

— Вяртайцеся, дарагія таварышы, назад. У сваіх вёсках вы прынясеце больш карысці. Арганізоўвайце там народ, узнімайце яго...

Фурманка павярнула назад. У

ёй, сярод другіх таварышаў, знясіленых бяссонніцай, голадам і бамбёжкамі, сядзелі і мы з Любай.

І вось, за тысячу кілометраў ад лініі фронта, у глыбокім тылу ў ворага, у скідзельскіх лясах загарэліся першыя партызанскія вогнішчы. Касцяком партызанскіх груп сталі загартаваныя ў падпольнай барацьбе ў часы панскай Польшчы старыя комуністы. Цяпер нас было многа: у лес прышла моладзь. У партызанах мы з Любай былі ўдзельнікамі і невялікіх сутычак і такога бою, які разгарэўся паміж партызанскім злучэннем Капусты і некалькімі тысячамі немцаў і паліцаяў каля вёскі Шкленск увосень 1943 года.

Скідзельскія комсамольцы 13 верасня 1942 года, ступаючы на падмосткі шыбеніц на гарадской плошчы, смела кідалі ў твар ворагу:

— Усіх нас не перавешаеце. Няхай жыве Радзіма!

Мы з Любай ганарыліся, што ў выхаванні гэтых бясстрашных герояў была часцінка і нашай душы...

Аб дзейнасці скідзельскіх патрыётаў у час Айчыннай вайны падрабязна расказваць не бяруся. Аб іх можна было-б напісаць вялікую і цікавую кнігу.

**г. Скідзель.**

Барыс КЛЕЙН

# ГАРТАВАННЕ

## З гісторыі рэвалюцыйнага падполля Заходняй Беларусі

### 1

Чатыры ваяводствы — Віленскае, Навагрудскае, Палескае і Беластоцкае (у яго ўваходзілі Гродна і Ваўкавыск). У кожным пасаджаны сатрап — пан ваявода. Ніжэй яго, у павеце, — стараста. Яшчэ ніжэй, у гміне, — войт. Далей, у вёсцы, — солтыс. Такая іерархічная лесвіца панскай улады.

Сотні чыноўнікаў у шматлікіх «ужондах» улічваюць і падлічваюць народнае дабро, размяркоўваюць, што ўзяць сабе, што аддаць у казну...

Пяць тысяч шэсцьсот памешчыкаў сядзяць на землях плошчай звыш трох з палавінай тысяч мільёнаў гектараў. Сядзець зручна, хоць і неспакойна: хлопы чымсьці незадаволены, бунтуюць. Сыты галоднага не разумее. Затое галодны сытага вельмі добра разумее. Звыш 400 тысяч бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак валодаюць менш чым трыма мільёнамі гектараў зямлі. Дзесяткі тысяч гаспадарак зусім пазбаўлены зямлі, або маюць мізэрныя надзелы ў 1—2 гектары — з іх не пражывеш. Панскія халуі пратрубілі ім вушы, што трэба дзякаваць «айца нябеснага» за збавенне ад «жахаў большэвізма»... Але сяляне глухія да гэтых угавораў. Яны ведаюць: там, на ўсходзе, зямлю аддалі сялянам, а ўлада належыць народу. Там — беларускія школы, Акадэмія навук, універсітэт. Тут-жа моладзь праходзіць іншыя «ўніверсітэты»: настаўнік — бізун, школа — турэмная камера...

Буржуазныя эканамісты падлічылі, што на працягу 1921 — 1925 гадоў самы нізкі ўраджай збожжавых і самую меншую колькасць галоў буйнай рагатай жывёлы з усіх ваяводстваў мела Віленскае.

Становішча рабочых тут не лепшае, чым у сялян. У пачатку 1925 года ў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах, паводле афіцыйных даных, налічвалася пяць з паловай тысяч беспрацоўных. Ці многа гэта? Многа. У тых-жа ваяводствах на буйных і сярэдніх прадпрыемствах працавала 5 774 рабочых. Такім чынам, беспрацоўных столькі-ж, колькі і рабочых.

Цікава заўважыць, што паліцэйскіх у гэтых ваяводствах налічвалася 12 049. На кожнага рабочага, на кожнага беспрацоўнага — па аднаму паліцэйскаму! Гэткая прапорцыя задавальняла акупантаў.

## 2

Вільна. Старажытны горад.

Тут у XVI стагоддзі ўбачылі свет першыя друкаваныя літоўскія кнігі асветніка Даукша і першыя беларускія кнігі Скарыны. Горад уступае ў XIX стагоддзе не толькі як буйны прамысловы і культурны цэнтр, але і як цэнтр рэвалюцыйнага руху прынёманскага краю. Сюды прышоў з Навагрудка вучыцца Адам Міцкевіч, тут ён уславіў свабоду. У Вільні знаходзіўся штаб сялянскага паўстання на Беларусі і Літве ў 1863 годзе. У гэтым горадзе на Лукішскай плошчы адбылося пакаранне смерцю рэвалюцыянераў Кастуся Каліноўскага і Сігізмунда Серакоўскага. Сюды ў 1895 годзе прыязджаў В. І. Ленін, каб наладзіць сувязь з мясцовымі соцыял-дэмакратамі.

Вялікай дарогай рэвалюцый ішоў віленскі пралетарыят. У першыя гады дваццатага стагоддзя адбыліся першыя сутыкненні рабочых з паліцыяй. Класавыя баі віленскіх рабочых у 1902 годзе, а потым у гады першай рускай рэвалюцыі выклікалі гарачае спачуванне і падтрымку рабочага класа Расіі. Гораду не давялося ўдзельнічаць у трыумфальным шэсці савецкай улады: з 1915 па 1918 год ён знаходзіўся пад нямецкай акупацыяй.

Але горад упарта змагаўся. У 1918 годзе тут адбыўся I з'езд Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі.

Ішлі гады грамадзянскай вайны. Чырвоная Армія двойчы вызваляла Вільна, але абодва разы яго ізноў захоплівалі белапольскія акупанты.

Апошні раз гэта здарылася 9 кастрычніка 1920 года. Камуністы і камсамольцы Віленшчыны пайшлі ў падполле. Але не дзеля таго, каб чакаць, пакуль наступіць дзень. Яны ўзмацнялі і памнажалі ячэйкі, наладжвалі сувязі з масамі, узнімалі іх супраць захопнікаў. Тут, як і ў ячэйках Камуністычнай партыі, якія дзейнічалі на Беласточчыне, закладваўся фундамент для ўтварэння адзінай арганізацыі заходнебеларускіх камуністаў. І калі ў 1923 годзе ўзнікла Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, камуністы Віленшчыны ўліліся ў яе. Гэткі-ж шлях, разам з старэйшымі таварышамі, прайшлі камсамольцы.

... Вось радкі з верша, якога, мабыць, няма ні ў адным паэтычным зборніку:

Мы цепи пролетарской звенья,
Мы жизни новые листы,
Мы символ вечного движенья,
Заря грядущей красоты.
Уж грянул гром над старой
ложью,
Весь мир воспрянул ото сна.
Идёт с рабочей молодежью
Земли вселенская весна.

Верш называецца «Інтэрнацыянал моладзі» (гімн юных). Яго мы знайшлі ў крымінальнай справе пад архіўным абазначэннем: фонд 31, опіс 13, адзінка захоўвання 202. Справа — пухлая, звыш 450 лістоў. Апошнія нумары пастаўлены на канвертах, у якіх захоўваюцца дакументы. Гэтыя канверты запячатаны трыццаць год таму назад, але клей яшчэ трымаецца.

У канверце пад нумарам 449 аказалася газета невялікага фар-

мату, з пажоўклымі старонкамі. У ёй і змешчаны гэты верш. Верш служыў доказам абвінавачвання. Людзей аддалі пад суд таму, у прыватнасці, што змест гэтых радкоў быў прызнаны злачынным.

Адкрыем першыя старонкі «крымінальнай» справы.

... Вясной 1921 года на Віленшчыне комуністы праводзілі ўзмоцненую агітацыю сярод насельніцтва. Таму польская ахранка накіравала ў Вільна агента пад нумарам 38. Пазнаёміўшыся з рабочым Юзэфам Пецюконісам, членам профсаюза металістаў, агент здолеў пранікнуць у саюз. Неўзабаве ён пераканаўся, што Пецюконіс блізкі да комуністаў. Пасля настойлівых просьбаў апошні пазнаёміў яго з двума комсамольцамі, сувязнымі — «Віктарам» і «Лявонам».

Так завязалася сетка правакацыі. Праз некаторы час шпіку ўдалося трапіць на кватэру, дзе ён убачыў высокага, стрыманага маладога чалавека. Гэта быў Ян Бучук.

Тут нумар 38 назірае, як прыязджаюць кур'еры з розных гарадоў і вёсак. Бучук інструктуе іх і забяспечвае літаратурай. Агент адзначае, што гэта чалавек асцярожны. «Сямён» (такая была ў Бучука партыйная клічка) рашэнні прымае няспешліва, да канца пераканаўшыся ў іх правільнасці. Напрыклад, ён не спяшаецца з арганізацыяй ячэйкі ў Новай Вілейцы: асновай моцнай арганізацыі павінна быць апора на людзей надзейных. Лепш мець аднаго праверанага, чым групу невядомых.

Агент разважае: вось чалавек, які, безумоўна, адыгрывае кіруючую ролю сярод комуністаў. Трэба часцей бываць у гэтай кватэры, спадабацца гэтаму «Сямёну», і тады...

Але тут перад прагным зрокам правакатара апусцілася непранікальная заслона: Бучук не любіў дакучлівых і цікаўных. Ён пачаў прыглядацца да навічка.

У ахранцы забілі трывогу. Па следу пусцілі другога шпіка, потым трэцяга... Але ўсе намаганні агентаў былі дарэмныя: яны разбіваліся аб пільнасць Бучука і яго сяброў-комсамольцаў.

Ашалелая ад няўдалых спроб здабыць звесткі аб дзейнасці падпольшчыкаў, паліцыя 6 жніўня 1921 года пачала масавыя вобыскі і арышты.

... Ян Бучук, ураджэнец горада Гродна, прафесія — настаўнік. На ўсіх допытах катэгарычна адмаўляе прыналежнасць да партыі комуністаў.

Яго прыводзяць на спатканне з правакатарам. Бучук паціскае плячамі. Перад ім ставяць арыштаванага комсамольца.

— Гэтага хлопца бачу першы раз,— цвёрда сказаў «Сямён».

— Чаго-ж тады ты прыехаў у Вільна?

— З адзінай мэтай паступіць на работу.

Усе спосабы «допыту», на якія толькі здатна дэфензіва, былі выпрабаваны на захопленых ахвярах.

Бучук маўчаў. Ён ведаў, што павінен служыць прыкладам для другіх, асабліва для моладзі. Усімі сваімі паводзінамі на вочных стаўках ён заклікае: трымацца!

Асабліва шмат пакут выпала на долю Давіда Розеншэйна, аб якім у матэрыялах следства гаварылася, як аб «самым здольным» і давераным памочніку Бучука. У той час Розеншэйну было толькі 16 год.

Пазней на судзе ён заявіў: «Мяне білі да страты прытомнасці, таўклі галавой аб сцяну, ад чаго паявіліся раны... Гэта працягвалася пяць дзён. Потым мяне прывялі ў турму на Лукішках...

У гэты час у турме была галадоўка. Пяць дзён мы не прымалі ежы і не спалі, менавіта тады і прышоў следчы...»

Чаго-ж дабіўся ад юнака следчы?

«Віктар» сказаў, што ён — комсамолец, што сапраўды распаўсюджваў комуністычную літаратуру, раскідваў пракламацыі... Але ніводнага з сваіх таварышаў юнак не выдаў.

## 3

Набліжаўся час суда. Комсамольцы атрымалі ў судзе копію абвінаваўчага заключэння, у якім адзначалася, што яны прынялі ўдзел у сутаварыстве «Саюз Комуністычнай моладзі», што гэтае сутаварыства ставіць перад сабой мэту знішчыць існуючы грамадскі лад.

Справа комсамольцаў трапіла ў рукі чатырох адвакатаў. Сярод іх быў і Фадзей Еўстаф'евіч Урублеўскі, той самы Урублеўскі, які выступаў у якасці абаронцы на працэсе ў крэпасці Ачакаў, дзе судзілі кіраўнікоў паўстання Чарнаморскага флоту ў 1906 годзе.

Суд адкрыўся 21 лістапада 1923 года. На лаву падсудных пасадзілі шасцярых. Па прапанове пракурора суддзі пастанавілі: справу слухаць пры зачыненых дзвярах. Гэта было зроблена па двух меркаваннях. Па-першае, намячаліся паказанні цэлай зграі шпікоў і правакатараў. Яны-ж, як пацукі, баяцца святла. Па-другое, суддзі баяліся, што падсудныя могуць выкарыстаць працэс як трыбуну для рэволюцыйнай прапаганды.

Ніхто вінаватым сябе не прызнаваў. Пачалася тая судовая камедыя, якая паўтараецца на ўсіх антыкомуністычных працэсах.

Скінуўшы маску рэволюцыянера, на сцэну выйшаў правакатар, агент 38. Ён даваў паказанні пад прозвішчам Чайкоўскі. Тое, што ён сказаў, паслужыла асновай для прысуду.

Пасля выступлення агента № 38 выступалі буйныя і дробныя сышчыкі.

Для лініі судовай абароны, выбранай Урублеўскім, была характэрна вера ў хісткасць довадаў супраць большасці падсудных. Таму ён справядліва лічыў, што суд захоча адыграцца на «Віктары», і на абарону юнака звярнуў асаблівую ўвагу. Адвакат пачаў даводзіць, што да «Віктара» трэба прымяніць закон аб амністыі няпоўналетніх, бо ён не меў яшчэ поўных 17 год, калі яго арыштавалі. Завязалася ўпартая барацьба, адзін за другім выступалі сведкі і эксперты. Другія абаронцы падтрымалі Урублеўскага. Комсамольцы трымаліся заадно, абвінавачванні адмаўлялі. Справа была фіктыўная.

Доўга радзіліся суддзі. Урэшце, выйшлі і абвясцілі, што «Віктар» прызнаны вінаватым па ўсіх пунктах абвінаваўчага заключэння. Пецюконіса і яшчэ аднаго маладога рабочага Лявідава суд знайшоў вінаватымі не ў прыналежнасці да комсамола, а ў аказанні яму дапамогі.

Сфармуляваўшы гэтак прыгавор, суд дапусціў грубае парушэнне закону, згодна якога злачынствам лічыўся ўдзел у забароненых арганізацыях, а не дапамога ім. На гэтае слабае месца прыгавору і абрушылася абарона. Апеляцыйны суд, куды адвакат накіраваў скаргу, вымушаны быў змякчыць меру пакарання. Шэсць год зняволення «Віктару» замяніў на чатыры; астатніх падсудных апраўдаў.

Гэтак амаль поўным правалам закончыўся судовы працэс.

На зыход яго ўплыў зрабіла

многае: і мужнасць комсамольцаў, і ўмелая абарона, і недастатковая спрактыкаванасць дэфензівы ў прыгатаванні падобных спраў.

На наступным масавым працэсе комсамольцаў, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай «працэсу 94», дэфензіва спрабавала ўзяць рэванш. Яна арыштавала каля ста чалавек, прывяла ў рух вялізную машыну правакацый і подкупаў, каб унесці разлад у арганізацыю комсамольцаў. Суд, які адбыўся ў 1926 годзе, прыцягнуў увагу шырокай грамадскасці. Віленская газета «Слова» ў нумары ад 2 лютага пісала, што ўжо з раніцы «натоўпы абкружылі будынак суда». Паліцэйскія патрулі разганялі народ».

Паказанні давалі сто восемдзесят сведкаў! Падсудных падзялілі на дзве групы: вязняў і тых, хто быў на волі. Баючыся ўзнікнення хваляванняў, паліцыя абкружыла шчыльным кальцом памяшканне суда. Але страх перад комуністычнай моладдзю быў такі вялікі, што галоўны сведка (правакатар Герцык) адмовіўся з'явіцца на суд і ўцёк з Вільна. Замест яго тры дні паклёпнічаў на падсудных намеснік начальніка палітычнай паліцыі Стэцкі.

Комсамольцы трымаліся мужна. Таварышы аказвалі ім актыўную дапамогу: штодзённа раскідвалі лістоўкі на беларускай і рускай мовах. Вывешваліся транспаранты, арганізоўваліся мітынгі з патрабаваннем свабоды зняволеным.

Абставіны рабіліся ўсё больш напружанымі. У момант, калі Стэцкі пачаў расхвальваць «чэснасць» правакатара, адвакат Петрусевіч кінуў рэпліку:

— Ці не быў Герцык сваяком Зубатава, шэфа расійскай ахранкі?

І хоць суддзі прыгаварылі 31 комсамольца да розных тэрмінаў турэмнага зняволення, аднак галоўная мэта акупантаў зноў не была дасягнута. З падсудных комсамольцы ператварыліся ў абвінаваўцаў.

Комсамол працягваў жыць і змагацца. Компартыя Заходняй Беларусі згуртавала рады моладзі, накіроўвала яе кіпучую энергію на барацьбу за шчасце народа.

## *Давайце пагаворым...*

*У ліпеньскім нумары «Маладосці» быў змешчаны ліст Надзеі Клімовіч «Чаму яны разышліся?», у якім расказвалася гісторыя адной маладой сям'і. Пытанні, закранутыя ў лісце, выклікалі цікавасць у чытачоў. Рэдакцыя атрымала шмат водгукаў на пісьмо Надзеі Клімовіч. Некаторыя з іх мы змясцілі ў кастрычніцкім нумары часопіса. Пісьмы ў рэдакцыю чытачы прысылаюць і цяпер.*

*Шчырае каханне і ўзаемная павага, агульнасць грамадскіх інтарэсаў і духоўных запатрабаванняў, усведамленне высокай грамадзянскай адказнасці за кожны свой учынак,— вось тая аснова, на якой можа быць пабудавана сапраўдная савецкая сям'я. Такую думку выказалі чытачы Будзько, Траяноўскі, Колтун, Мурач, Шахновіч, Крупко, Рудкоўская, Карпенка і многія іншыя.*

*Друкуючы ў гэтым нумары артыкул кандыдата педагагічных навук М. Е. Лявіцкага, часопіс заканчвае дыскусію. На думку рэдакцыі, у ім правільна даюцца адказы на многія з пытанняў, пастаўленых у пісьме Надзеі Клімовіч.*

**М. ЛЯВІЦКІ,**
**кандыдат педагагічных навук.**

# „ЧАМУ ЯНЫ РАЗЫШЛІСЯ?"

Пытанні кахання і сям'і хвалююць у аднолькавай ступені як маладых, якія толькі ўступаюць у жыццё, ствараюць свае сем'і, так і старых, якія не могуць роўнадушна аднесціся да будучага сваіх дзяцей і ўсёй савецкай моладзі. Вось чаму і я, чалавек, які даўно перажыў сваю маладосць, рашыў адгукнуцца на ліст Надзеі Клімовіч у рэдакцыю часопіса «Маладосць».

Каханне — гэта не толькі радасць і шчасце, але і вялікі грамадзянскі абавязак. Не ўсе людзі здольны аднолькава кахаць. У адных — а такіх пераважная большасць — гэта пачуцце бывае глыбокім і ясным, як блакітнае неба. У некаторых каханне бывае эгаістычным і нікчэмным.

Толькі людзі з моцным пачуццем грамадзянскага абавязку здольны глыбока і прыгожа кахаць. Гэтае высакароднае пачуцце бывае прыгожым тады, калі яно выклікае вялікую сардэчную шчодрасць у закаханых — гатоўнасць аддаць любімаму чалавеку ўсё лепшае, чым валодаеш, гатоўнасць змагацца за сваё каханне і, калі трэба, перанесці цяжкасці і суровыя выпрабаванні. Цяжка ўявіць сабе сапраўднае каханне без перажыванняў і горкіх няўдач. Сямейнае шчасце не заўсёды прыходзіць адразу з каханнем і шлюбам.

Вядома, вельмі добра, калі шлюб з'яўляецца вынікам працяглага знаёмства хлопца і дзяўчыны. Але жыццё — не схема. Колькі-б мы ні вучылі моладзь: «Не спяшайцеся, прыглядайцеся, вывучайце характар сваіх каханых», — маладыя людзі прымуць нашы парады за надакучлівае бурчанне старых. Каханне,

якое прыходзіць пасля некалькіх сустрэч, шлюбы пасля нядоўгага знаёмства маюць таксама права на існаванне. Вельмі часта і такія шлюбы бываюць шчаслівымі, і, наадварот, вядомы выпадкі, калі разводзяцца людзі, якія раней добра ведалі адзін аднаго.

Закаханыя не кіруюцца характарыстыкай аддзела кадраў. І ў гэтым няма нічога дрэннага.

Здольны закахацца часцей за ўсё маладыя людзі, якія з кожным днём растуць духоўна, удасканальваюцца, становяцца лепшымі. Можна па-сапраўднаму кахаць і чалавека, які па ўзроўню свайго развіцця і культуры пакуль што стаіць ніжэй за цябе. Усё гэта нажытное і ва ўмовах нашага савецкага грамадства, бясспрэчна, прыдзе.

Часта маладыя людзі захапляюцца дзяўчатамі, галоўнай вартасцю якіх з'яўляецца знешняя прыгажосць. У гэтым, на мой погляд, няма нічога дзіўнага. Яшчэ Герцэн сцвярджаў, што прыгажосць — гэта талент такі-ж, як і ўсе другія.

Людзям, у асаблівасці моладзі, уласціва высока цаніць знешнюю прыгажосць.

Такая прыгажосць — каштоўны дар, але ён небяспечны ў тым выпадку, калі спалучаецца з душэўнай чэрствасцю. Знешняя прыгажосць становіцца тады сур'ёзнай перашкодай для росту і развіцця чалавека, для стварэння трывалай і шчаслівай сям'і. Узнікшае каханне — гэта толькі фундамент сямейнага жыцця, для пабудовы якога патрабуецца шмат чалавечых намаганняў.

Вось гэтых якасцей нестае, здаецца мне, ні Дзіне, ні Міхаілу. Мяркуючы па пісьму, Дзіна — прыгожая дзяўчына, але яна пазбаўлена душэўнай цеплыні і сапраўднай чалавечай прывабнасці. «Поспех» Дзіны аўтар пісьма тлумачыць тым, што яна прыгожая, добра танцуе, спявае, у кампаніі з ёй не бывае сумна. Як відаць, гэтых якасцей дастаткова для таго, каб і добры, разважлівы хлопец закахаўся ў яе. Аднак гэтых якасцей занадта мала для таго, каб зберагчы надоўга каханне і на гэтай аснове стварыць сапраўдную савецкую сям'ю.

На самай справе, у людзей, якія ведалі Дзіну, аб ёй склалася думка, як аб несур'ёзнай, лёгкадумнай дзяўчыне. Вы з гэтым не згодны, таварыш Клімовіч? А мне здаецца, што грамадскасць у Дзіне не памылілася. Гэта вялікая бяда, калі вакол дзяўчыны распаўсюджваюцца плёткі, яшчэ горш, калі яны ходзяць вакол маладой дзяўчыны. Плёткі могуць атруціць жыццё любому чалавеку. А вы-ж самі сцвярджаеце, што шлюб Дзіны з Міхаілам не прымусіў змоўкнуць прыхільнікаў плётак. Наадварот, аб жонцы Міхаіла «папаўзлі самыя неверагодныя плёткі». Бясспрэчна, у плётках заўсёды ёсць паклёп. Але ў даным выпадку хочацца запытаць, чаму аб'ектам плётак стала імена Дзіна?

А гэта адбылося таму, што за дымам плётак быў агонь фактаў. Дзяўчына пасапраўднаму не кахала Міхаіла, гуляла з ім у каханне, трымала яго, як кажуць, «у рэзерве», і ў той-жа час акружыла сябе цэлай групай маладых людзей. Такіх дзяўчат наша грамадскасць асуджае, а прыхільнікі плётак карыстаюцца выпадкам, каб да праўды дадаць добрую дозу выдумак.

Здаецца дзіўным, чаму Дзіна лічыла неабходным скрываць сваё каханне да Міхаіла.

Безумоўна, у каханні трэба ўмець быць стрыманым. Але няўжо скромнасць і стрыманасць роўназначны сухасці? Хіба гарачыя шчырыя словы аб гарачых шчырых пачуццях могуць абняславіць дзяўчыну? Як упрыгожваюць каханне цёплы позірк, ласкавая ўсмешка! Як дарага яна таму, хто па-сапраўднаму кахае! Навошта такое прытворства? А між іншым, Дзіна можа і не прытваралася. Яна проста не вельмі кахала Міхаіла. Аб тым, што ў Дзіны да Міхаіла не было глыбокіх пачуццяў, сведчыць і гісторыя з Валерыем.

Мы ахвотна верым, што ў дзяўчыны, апрача захаплення слаломам, з інструктарам фізкультуры нічога агульнага не было. Але скажыце, калі ласка, ці правільна рабіла Дзіна, калі яна кожны (падкрэсліваем—кожны) выхадны дзень і часта ў буднія дні ехала з Валерыем за горад тады, калі Міхаіл ужо лічыў яе сваёй нявестай? Гэтыя паходы рабіліся амаль употай ад Міхаіла. Запрасіць хлопца з сабою дзяўчына лічыла непатрэбным.

Як вы сабе хочаце, дарагія чытачы, а я таксама раўнаваў-бы. Нават Надзея Клімовіч, страсны абаронца Дзіны, лічыць такія паводзіны сяброўкі няправільнымі.

Вядома, каб дагадзіць Міхаілу, яна не павінна была адмаўляцца ад спорту, але Дзіна абавязана была зрабіць усё для таго, каб рассеяць падазрэнні хлопца.

Скажу больш, ніхто не стаў-бы дакараць дзяўчыну, калі-б яна стала праводзіць пэўны час свае слаломныя практыкаванні крыху радзей, хаця-б да тае пары, пакуль Міхаіл не пераканаўся-б, што яго каханню нішто не пагражае.

Усё гэта зноў-жа было-б верным толькі ў тым выпадку, калі-б Дзіна кахала Міхаіла. А яна-ж, хутчэй за ўсё, проста трымала яго пры сабе, як на павадку. Так часта паводзяць сябе прыгожыя дзяўчаты, збалаваныя ўвагай

хлопцаў. Такім дзяўчатам падабаецца, калі вакол іх увіваюцца «ўхажоры». Але такіх дзяўчат у нас не вельмі паважаюць.

Зусім нечакана для Надзі Клімовіч, да Дзіны стаў заляцацца наладчык фабрыкі Віктар.

Уласна кажучы, чаму нечакана? Усе-ж бачылі, што ў Дзіны з Міхаілам каханне не ідзе на лад. Вось Віктар і рашыў заляцацца да прыгожай дзяўчыны, хаця і не вельмі паважаў яе. Інакш не вытлумачыць той факт, што Віктар, замест таго, каб дабівацца пачуцця дзяўчыны, якая яму падабалася, пачаў памнажаць тыя плёткі, якія былі звязаны з імем Дзіны.

Наогул, чаму нядобразычліўцы Дзіны— Віктар, Тамара — выбіраюць за сродак барацьбы іменна плёткі. Займаліся-ж пляткарствам не старыя бабулі, а моладзь. Не пра кожную дзяўчыну хлопцы стануць распаўсюджваць плёткі.

Міхаіл не мог знайсці ў сабе дастаткова маральных сіл, каб стаць вышэй плётак.

У адказ на хваравітую рэакцыю друга Дзіна ўдарыла яго па твары. Трэба думаць, падазрэнні Міхаіла былі выражаны ў самай недапушчальнай форме. Хлопец вінаваты, вельмі вінаваты. Але аб гэтым размова ніжэй. Аднак, як магла дзяўчына так прынізіць сваю чалавечую годнасць? Біць па твары — як гэта брыдка!

Пасля гэтага ў адносінах маладых людзей павінен быў наступіць пералом. Мог адбыцца або поўны разрыў, або яны ўдваіх павінны былі адумацца і стаць сапраўднымі сябрамі. Не адбылося ні таго, ні другога. Гэты ганебны выпадак застаўся для іх толькі «невялічкім» эпізодам.

Хутка наступіла часовае прымірэнне, хоць сваркі з прычыны рэўнасці прадаўжаліся. Якраз у прамежку паміж двума сваркамі маладыя людзі пайшлі ў ЗАГС і адгулялі вяселле.

Нарэшце-такі, скажам мы разам з аўтарам пісьма. Вядома, можна было прадбачыць, што не так хутка з гэтага шлюбу атрымаецца сапраўдная дружная сям'я. Сваркі, узаемныя папрокі, знявагі—дрэнная аснова для сям'і. Тым больш калі маладая жанчына не ўсвядоміла сябе, якія абавязкі накладае на яе шлюб. Паводзіны Дзіны прадаўжалі быць аб'ектам плётак.

Пасля вяселля Дзіне «прыпісваліся» ўсе хлопцы, з якімі яна хоць калі-небудзь размаўляла. Я згодзен з тым, што рэпетыраваць цірольскі танец можна толькі з хлопцам. Але-ж і гэтыя рэпетыцыі можна было-б праводзіць так, каб не распальваць рэўнасць мужа. Зусім незразумела, чаму іменна толькі Васіль падыходзіў у ролі настаўніка алгебры. Няўжо з дзяўчат-аднакласніц ніхто не мог аказаць патрэбную дапамогу? Могуць сказаць: «няма бяды, калі яна сябравала з хлопцамі, чым яны горш за дзяўчат?» Я на гэта адкажу. Усе гісторыі з Дзінай сур'ёзна закранալі сямейную чэсць маладых людзей. Няўжо сямейная чэсць — гэта пусты гук? Няўжо не балюча было Міхаілу, калі хлопцы, яго таварышы па рабоце, смяяліся з яго? Ва ўзросце Міхаіла вельмі цяжка процістаяць кпінам.

З ліста добра бачна залішняя ўпартасць Дзіны. Жанчына не захацела зрабіць ніводнага кроку да таго, каб наладзіць сямейнае жыццё.

Могуць сказаць, што дамаганні Міхаіла — замах на свабоду і самастойнасць жонкі. Нельга-ж, маўляў, патураць слабасцям мужа! Па-першае, Дзіна ведала аб гэтых слабасцях яшчэ да вяселля. Шлюб у дадзеным выпадку мае сэнс толькі тады, калі жонка гатова прыкласці дастаткова намаганняў у спалучэнні з тактам і цярпеннем для таго, каб перавыхаваць мужа. Хто-ж не разумее, што першыя месяцы сямейнага жыцця з'яўляюцца найбольш адказнымі, што іменна ў гэты час закладваюцца асновы сямейнага шчасця.

А што добрага ўнесла Дзіна ў сям'ю?

Па-другое, варта было-б маладой жанчыне ў сім-тым крыху абмежаваць сябе. Жанаты мужчына, замужняя жанчына, бацька і маці дзяцей не могуць паводзіць сябе, як паводзяць сябе юнакі і дзяўчаты. Урэшце, патрабавальнасць мужа і жонкі адзін да аднаго, абавязкі іх узгадняць свае паводзіны — гэта непарушная норма быту савецкай сям'і. Муж і жонка нясуць у нашым грамадстве ўзаемную маральную адказнасць за свае паводзіны. Без гэтага няма сям'і, а ёсць пырханне з кветкі на кветку, ёсць адраджэнне самых агідных форм буржуазнай распушчанасці.

Тут будзе вельмі дарэчы ўспомніць словы, выказаныя В. І. Леніным у гутарцы з К. Цэткін. Выступаючы супраць прапаведнікаў свабоднага кахання, г. зн. кахання, якое не ўскладае ніякіх абавязкаў на закаханых, ён сказаў: «Самавалоданне і самадысцыпліна — не рабства. Яны неабходны і ў каханні».

Такім чынам, мяркуючы па маральнаму вобліку Дзіны, яна не была падрыхтавана да шлюбу і сям'і, да адказнай ролі будучай маці.

Цяпер пагутарым пра Міхаіла.

Хоць і своеасаблівa, але ён кахаў Дзіну. Міхаіл выступае як чалавек мінулага, калі ён лічыць, што на нявесту, а потым і на жонку мае права ўласнасці.

Нават там, дзе ён меў рацыю, ён дзейнічаў шляхам вокрыку, загаду і г. д. Ён не лічыў патрэбным стаць бліжэй да ін-

тарэсаў жонкі, не задумаўся над тым, што яго манера «ўплываць» на жонку магла-б выклікаць рэзкі пратэст ва ўсякай совецкай жанчыны, а тым больш у такой, як Дзіна. Я хачу абвінаваціць Міхаіла ў недапушчальным слабаволлі. Ён не заўсёды можа кіравацца розумам, не можа стрымаць свае парывы рэўнасці. Безумоўна, Міхаіл абавязаны быў змагацца за жонку, за яе добрае імя, за тое, каб заваяваць аўтарытэт у вачах жонкі.

Але як? Пры ўсіх сваіх недахопах Дзіна — чалавек совецкі. На яе, напэўна, падзейнічала-б станоўча, калі-б Міхаіл сваімі адносінамі да яе змог даказаць сваю правату, сваю прынцыповасць і велікадушнасць. Асабісты прыклад мужа стаў-бы лепшай школай для жонкі.

Невысокі ўзровень свядомасці, парывістасць характару прымусілі Міхаіла стаць на другі шлях. Фізічныя меры ўздзеяння на жонку нельга інакш назваць, як хуліганствам. Трэба думаць, што пасля гэтага к пачуццю непавагі, якой праніклася Дзіна да мужа, прымяшалася яшчэ і пагарда. Не, паміж Міхаілам і Дзінай не было сапраўднага кахання, таму яны і не маглі стварыць сям'ю.

Уласна кажучы, нельга нават гаварыць, што сям'я распалася. У маральна-этычным сэнсе сям'і яшчэ не было.

Ці трэба іх мірыць? Я глыбока ўпэўнены, што гэтага не варта рабіць у іх-жа інтарэсах. Няхай пройдзе год, няхай яны вырастуць маральна. Можа яны тады знойдуць адзін аднаго і стануць сапраўднымі мужам і жонкай.

Ці трэба комсамолу ўмешвацца ў гэтую справу? Безумоўна, трэба. Па-першае, неабходна пераканаць моладзь у тым, што прышла пара спыніць розныя плёткі. Па-другое, трэба паклапаціцца аб ідэйна-палітычным і агульнакультурным росце Міхаіла і Дзіны. Па-трэцяе, варта дапамагчы праўленню дома культуры прыцягнуць у гурткі фізкультуры і самадзейнасці такіх, як Міхаіл. Трэба, нарэшце, выпрацаваць у моладзі правільны погляд на каханне, сям'ю, шлюб.

Яшчэ вядомы совецкі педагог А. С. Макарэнка быў незадаволены станам выхавання нашай моладзі іменна ў гэтых адносінах. Ён лічыў неабходным вучыць моладзь прыгожа кахаць. Шмат гавораць нашым маладым людзям аб радасцях кахання. Аб гэтым трэба гаварыць. Бацькі, дзядулі, бабулі сённяшніх комсамольцаў не шкадавалі сваёй крыві, ішлі на смерць таксама і дзеля таго, каб забяспечыць сваім дзецям і ўнукам права на шчаслівае каханне і радаснае сямейнае жыццё.

Пры гэтым многія, нажаль, у сваіх выступленнях перад моладдзю гавораць аб сям'і, шлюбе, каханні ў сентыментальна ружовых фарбах. Яны невядома чаму ўтойваюць ад будучых бацькоў усе цяжкасці, якія звязаны са стварэннем сапраўднай сям'і, усю адказнасць, якая кладзецца на іх плечы, баяцца гаварыць аб тым, што нават для людзей, якія шчыра кахаюць адзін аднаго, сямейнае шчасце наступае не заўсёды адразу пасля ўступлення ў шлюб. Неабходнасць лічыцца з жонкай ці мужам, неабходнасць адмовіцца ад некаторых халасцяцкіх звычак патрабуе часу і вялікай душэўнай арганізацыі. Часта таксама гавораць моладзі аб яе інтымным жыцці ў адрыве ад другіх якасцей совецкага грамадзяніна, не даводзяць да іх свядомасці, што толькі той чалавек можа быць добрым сем'янінам, які з'яўляецца добрым грамадзянінам сваёй совецкай радзімы. Пра гэта забываць нельга. А вось Надзея Клімовіч, апісаўшы няшчасці кахання Дзіны і Міхаіла, ні слова не сказала аб іх маральным абліччы, аб іх якасцях як грамадзян і комсамольцаў.

Сцяпан МАЙХРОВІЧ

# В. І. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

**Да 150-годдзя з дня нараджэння**

Выдатны беларускі пісьменнік другой паловы XIX стагоддзя Вікенці Іванавіч Дунін-Марцінкевіч паходзіў з асяроддзя дробнай беларускай шляхты. Ён нарадзіўся ў 1807 годзе ў фальварку Панюшкевічы, недалёка ад Бабруйска, дзе бацькі яго арандавалі панскую зямлю. Дзіцячыя і юнацкія гады будучага пісьменніка прайшлі ў маляўнічых ваколіцах ракі Беразіны, на ўлонні беларускай прыроды.

У 1824 годзе, пасля заканчэння павятовай гімназіі ў Бабруйску, Дунін-Марцінкевіч паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на медыцынскі факультэт. Але медыцына не захапляла яго, і ён вырашыў пакінуць універсітэт. Да 1839 года Дунін-Марцінкевіч служыў у розных дэпартаментах, у тым ліку ў Мінскай кансісторыі, ў якасці перакладчыка розных дакументаў з польскай на рускую мову. У 1839 годзе ён купіў невялічкі фальварак Люцынка, каля Мінска, і там пражыў да канца сваіх дзён.



Пачаўшы пісаць на саракавым годзе жыцця, Дунін-Марцінкевіч паспеў стварыць і выдаць даволі значную колькасць мастацкіх твораў. У 1846 годзе выходзіць у свет у Вільні опера Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка». Праз дзесяць год (1855 г.) у Мінску з'яўляецца «Гапон», вершаваная «повесць у языку беларускага люду напісана». Потым паслядоўна выдаюцца зборнікі: «Вечарніцы — Заварожаны» (1855); «Цікавішся — прачытай!» (1856); «Дудар беларускі ці ўсяго патроху»; «Шчароўскія дажынкі» і «Верш Наума Прыгаворкі» (псеўданім Дуніна-Марцінкевіча. — С. М.) у 1857 годзе. У тым-жа годзе былі напісаны тры паэмы («Быліцы. Расказы Наума», «Халімон на каранацыі» і «Травіца брат-сястрыца»), але свету яны не пабачылі, бо былі забаронены цэнзурай. У 1866 годзе ён піша драматычную камедыю «Пінская шляхта», у 1870 годзе— вершаваную камедыю «Залёты» і шмат іншых твораў. Драматычныя творы пры жыцці аўтара свету не ўбачылі і ўпершыню былі выдадзены толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі. Дунін-Марцінкевіч, як вядома, пісаў на забароненай у той час беларускай мове, за што прыцягваўся

да крымінальнай адказнасці. У 1866 годзе яго пасадзілі ў астрог і пратрымалі там дзесяць месяцаў, абвінавацішы ў напісанні на беларускай мове рэвалюцыйных пракламацый, да якіх ён меў, відаць, нейкае дачыненне, бо быў блізкі да паўстання 1863 года.

Станоўчы элемент творчасці Дуніна-Марцінкевіча заключаецца не толькі ў тым, што ён пісаў на забароненай тады беларускай мове. Не меншае грамадскае значэнне меў і той факт, што ён быў адным з першых, хто садзейнічаў развіццю беларускай мовы, не зважаючы на ганенні і забарону царскіх сатрапаў. Польская шляхецка-клерыкальная рэакцыя, якая ўсялякімі сродкамі ваявала «за душу» працоўнага беларускага народа, ганьбавала за гэта аўтара «Пінскай шляхты». Яна дакарала яго за тое, што ён піша на «хлопскай мове» і садзейнічае абуджэнню нацыянальнай годнасці мужыкоў.

Дунін-Марцінкевіч даказваў неабходнасць арганізацыі беларускіх школ і дзіцячых дамоў, у якіх «праз увядзенне ў навучанне народнай сялянскай мовы» павінны быць створаны ўсе ўмовы для выхавання культурных людзей з гушчы народных мас.

Такім чынам палітычная праграма Дуніна-Марцінкевіча нібыта і не ішла далей асветніцкіх намераў і патрабаванняў. Тым не менш яна не была памяркоўнай. Ужо адно патрабаванне стварэння беларускіх школ для сялянскіх дзяцей, увядзення ў літаратурны ўжытак народнай беларускай мовы было, несумненна, з'явай прагрэсіўнай, выкліканай шчырымі клопатамі аб працоўным сялянстве. Гэта была сапраўды грамадзянская адвага. Дастаткова прыгадаць жорсткія ганенні беларускага друкаванага слова, якое тады афіцыйна было забаронена. Беларускія календары, розныя даведнікі чыста практычнага гаспадарчага значэння, творы Дуніна-Марцінкевіча, беларускія народныя песні Яна Чачота канфіскоўваліся і знішчаліся, асабліва пасля паўстання 1863 года. Іх аўтары не пазбеглі рэпрэсій. Дунін-Марцінкевіч, як вядома, быў абвінавачаны ў суаўтарстве з Кастусём Каліноўскім у выданні «Мужыцкай праўды» і рэвалюцыйных адозваў і пасаджаны ў астрог амаль на цэлы год. Яму ставілася ў віну, як дзяржаўнае злачынства, таксама выданне ўласных твораў на беларускай мове.

Пасля рэформы 1861 года Дунін-Марцінкевіч, які добра ведаў жыццё, бачыў жахі прыгонніцтва і нянавісць да яго народных мас, не апынуўся на раздарожжы. Жыватворчы ўплыў рускага класічнага рэалізма, асабліва Пушкіна, Гогаля і Салтыкова-Шчэдрына, уплыў усяго жывога і прагрэсіўнага, што было ў тагачасным грамадстве, дапамаглі Дуніну-Марцінкевічу глыбей зразумець сутнасць тых гістарычных працэсаў, якія адбываліся ў жыцці.

Цяпер ужо не атрыбуты патрыярхальнага побыту і не ўяўны мір і згода паміж панам і селянінам хвалююць пісьменніка, — ён імкнецца паказаць тое новае, што настойліва прабівалася на паверхню ў паслярэформенную эпоху.

Так з'яўляюцца на свет камедыі «Пінская шляхта» і «Залёты», якія вызначаюць сабою новы, вышэйшы этап у творчасці пісьменніка — яго канчатковы прыход да рэалістычнага мастацтва.

Драматургія Дуніна-Марцінкевіча — самае каштоўнае з яго літаратурнай спадчыны. Дунін-Марцінкевіч выступае як адзін з самых буйных стваральнікаў беларускай рэалістычнай драматургіі. «Пінская шляхта» створана пад жыватворчым уплывам перш за ўсё гогалеўскай драматургіі і выключае «ўплыў» заходнееўрапейскага фарса-вадэвіля, які баспадстаўна прыпісваўся пісьменніку. Сам камічны элемент вадэвіля, які складае завязку-канфлікт твора, таксама ўзнік, у некалькі, праўда, іншай рознавіднасці, пад непасрэдным уздзеяннем прозы Гогаля і асабліва яго «Аповесці аб тым, як пасварыўся Іван Іванавіч з Іванам Нікіфаравічам».

Героі Дуніна-Марцінкевіча, цёмныя і адсталыя засцянковыя «дваране», пасварыліся за тое, што адзін аднаго назваў «мужыком».

І тым не менш, не чыста бытавыя, хоць і характэрныя для таго соцыяльнага асяроддзя, з'явы складаюць галоўны змест камедыі. Пісьменніка хвалявалі грамадскія праблемы, і ён паказаў не толькі жыццё і побыт, норавы і тыповыя рысы характараў засцянкоўцаў. Ён здолеў таксама ўбачыць пад буржуазнай абалонкай паслярэформеннага суда самавольства і свядомае кручкатворства чыноўнікаў, іх «узаконенае» хабарніцтва.

Драматургічнае майстэрства, бясспрэчны камедыяграфічны талент пісьменніка яскрава выявіліся ў абмалёўцы цэнтральнага персанажа камедыі — станавога прыстава Кручкова. Пісьменнік глыбока пранік у яго характар і псіхалогію і здолеў выявіць тыповыя рысы натуры, уласцівыя правінцыяльнаму, асабліва

судоваму чыноўніцтву той эпохі. У асобе Дуніна-Марцінкевіча яно адчувала свайго бязлітаснага выкрывальніка. Не выпадкова віленскі генерал-губернатар папярэджваў начальніка галоўнага ўпраўлення па справах друку: «На маю думку, — пісаў ён, — такі твор («Пінская шляхта».— С. М.), у якім у непрыглядным выглядзе выстаўляецца асоба станавога прыстава, які да гэтага ўсюды называецца «найяснейшая карона», наўрад ці варта змяшчаць у якім-небудзь выданні, асабліва ў такім, як каляндар, што прызначаецца для распаўсюджання сярод мясцовага насельніцтва».

Лагічным працягам рэалістычнай лініі развіцця драматургіі Дуніна-Марцінкевіча была другая яго выдатная камедыя «Залёты», у якой пісьменнік выкрывае драпежніцтва новага эксплуататарскага класа — буржуазіі.

Нягледзячы на тое, што творчы шлях Дуніна-Марцінкевіча быў няроўны, яго роля ў развіцці беларускай літаратуры другой палавіны XIX ст. больш чым выдатная. За трыццаць гадоў літаратурнай дзейнасці ён напісаў шмат твораў, многія з якіх не страцілі сваёй мастацка-пазнавальнай вартасці і ў нашы дні. Паступова перамагаючы сентыментальныя адносіны да рэчаіснасці, Дунін-Марцінкевіч узняўся да рэалізма.

Творы Дуніна-Марцінкевіча заслугоўваюць увагі ўжо таму, што абудзілі цікавасць да народа, да жыцця і побыту сялянскіх мас. Простага чалавека, прыгоннага селяніна Дунін-Марцінкевіч робіць галоўным героем сваіх твораў. Менавіта яму, працоўнаму селяніну, ён прысвяціў сваю творчасць.

Пісьменнік марыў аб свабодзе для сялян, аб скасаванні прыгоннага права.

Заслугі Дуніна-Марцінкевіча перад беларускай літаратурай прызнаваў у свой час і Максім Багдановіч. Яны, гэтыя заслугі, — пісаў ён, — «у тым дэмакратызме, які веяў ад сентыментальна-народніцкіх паэм Марцінкевіча, у той гуманізатарскай тэндэнцыі, што выразна выступае з кожнага іх радка і якая была па свайму часу вельмі нялішняй. Нарэшце, адзначым, што, пісаўшы і шмат друкуючы, ён узбуджаў вакол сваіх твораў размову і палеміку, напамінаў аб існаванні беларускай мовы і пачаткаў беларускай літаратуры, наводзіў на пытанне аб магчымасці іх далейшага развіцця. Не дзіва таму, што ён стаў цэнтрам беларускага пісьменніцкага гуртка, у складзе якога былі асобы, якія валодалі значна больш буйным талентам».

«Смутныя гады свае пясняр дажыў у Люцынцы, — чытаем у прадмове да пецярбургскага выдання (1910) «Шчароўскіх дажынкаў». — Ён памёр 17 снежня 1884 года. Заняслі яго суседзі-мужыкі на могілкі пры капліцы ў Тупальшчыні. Не часта так па бацьку плачуць дзеці, як плакалі па ім суседзі».

Народ, для якога жыў і пісаў Дунін-Марцінкевіч, плаціў свайму песняру такой-жа шчырай любоўю.

**Уладзімір АЛОЎНІКАЎ,**
**кампазітар**

# ІДЭЙНАСЦЬ І МАЙСТЭРСТВА

Грамадзянская і палітычная сталасць дзеячоў нашай літаратуры і мастацтва вызначаецца іх ідэйнымі пазіцыямі. Калі літаратар, мастак ці кампазітар бачыць сваё прызванне ў тым, каб верай і праўдай служыць свайму народу, калі ён гэтаму прысвячае сваё жыццё, калі ён разглядае сваю творчую дзейнасць як частку агульнанароднай барацьбы за комунізм, — тады ён знаходзіцца на правільных, партыйных пазіцыях і яго творчасць адпавядае інтарэсам народа, партыі і дзяржавы. Другой пазіцыі для совецкага мастака не існуе. Нам памыляцца нельга, бо вораг не дрэмле. Ён выкарыстоўвае нашы памылкі супраць нас саміх, супраць нашай ідэалогіі, супраць комунізма. Вось чаму нашы творчыя пазіцыі павінны быць непахіснымі, паслядоўна партыйнымі, комуністычнымі.

Не можа таксама існаваць нейкай нейтральнай няпэўнай пазіцыі. Хто быў на фронце, той ведае, што такое нейтральная паласа. Гэта вузкая палоска нічыёй зямлі. Яна падзяляе ваюючыя бакі ў час абароны. Хіба-ж знойдуцца ахвотнікі сядзець на нейтральнай паласе? Вельмі небяспечная гэта справа. Невядома, што падумаюць свае, невядома, што падумае праціўнік. Хутчэй за ўсё па ім адкрыюць агонь з абодвух бакоў. Горшага становішча, чым у таго, хто блукае па нейтральнай паласе, не прыдумаеш.

Месца совецкага мастака — на баявой пазіцыі: разам з усімі, хто будуе новае грамадства, разам з партыяй, разам з народам.

Літаратура і мастацтва аказваюць велізарны ўплыў на масы. У творах літаратуры і мастацтва народ шукае адказу на хвалюючыя пытанні жыцця; любімыя героі з твораў літаратуры і мастацтва становяцца прыкладам для пераймання. Таму партыя не можа абыякава ставіцца да ідэйных пазіцый дзеячоў літаратуры і мастацтва.

Ленін высока цаніў значэнне мастацкага таленту. У сваім пісьме да Горкага яшчэ ў 1909 годзе ён піша: «...Мне хочацца пацiснуць Вашу руку. Сваім талентам мастака Вы прынеслі рабочаму руху Расіі — ды і не толькі Расіі — такую велізарную карысць, Вы прынесеце яшчэ столькі карысці...» У далейшым, аднак, Ленін крытыкаваў і папраўляў Горкага,

калі той дапускаў памылкі ў літаратурнай дзейнасці, дапамагаў яму разабрацца ў палітычным становішчы, падаваў каштоўныя парады. Калі Горкі хістаўся. Ленін не адварочваўся ад яго, а заўсёды працягваў руку дапамогі.

Усё гэта ўспамінаецца ў сувязі з крытыкай Н. С. Хрушчовым рамана Дудзінцава «Не хлебам адзіным». Адхіляючы гэты паклёпніцкі твор, партыя разам з тым прапануе Дудзінцаву сваю дапамогу з тым, каб ён мог, калі пажадае, стаць на правільны творчы шлях. Гэта азначае аднаўленне ленінскага прынцыпу выхавання творчых кадраў. Але гэта не дае ніякіх падстаў, каб дзеячы літаратуры і мастацтва патуралі таварышам, якія груба памыляюцца, якія адступаюць ад палітычнай лініі партыі, якія забываюцца пра свае абавязкі перад партыяй і народам.

Таленавіты мастак глыбей за іншых бачыць жыццё. Вобразы, убачаныя ў жыцці, ён пераўвасабляе ў мастацкія вобразы. Але жыццё, рэчаіснасць — з'ява незвычайна складаная. Каб у ім разабрацца, аддаць перавагу новаму, перадавому, прагрэсіўнаму, аднаго таленту яшчэ недастаткова. Правільнае бачанне і разуменне жыцця, яго станоўчых, светлых бакоў і бакоў адмоўных, якія перашкаджаюць нам ісці наперад, магчыма толькі тады, калі мастак глыбока разумее законы развіцця грамадства, калі ён разумее палітыку Камуністычнай партыі.

Па свайму прызначэнню таленавіты савецкі мастак павінен быць у першых радах барацьбітоў за камунізм. Яго талент належыць толькі народу, і толькі народу ён павінен служыць. А той, хто ўхіляецца ад гэтай пачэснай справы, хто сваім талентам пісьменніка ці драматурга, мастака ці кампазітара не хоча служыць інтарэсам народа, не хоча падтрымліваць партыю ў яе высакародных дзеяннях, той падобны да дэзертыра, які пакідае поле бою і ўцякае з перадавой лініі агню.

Яшчэ горш, калі сіла мастацкага таленту накіроўваецца на тое, каб ганьбіць, чарніць нашу сацыялістычную рэчаіснасць, маляваць яе ў чорным святле.

У апошні час некаторыя кампазітары і музыказнаўцы пачалі аспрэчваць неабходнасць кіраўніцтва літаратурай і мастацтвам з боку партыі і дзяржавы. Выступаючы ў ролі абаронцаў так званай «свабоды творчасці», яны дапускалі шкодныя, памылковыя выказванні па пытаннях палітыкі партыі і дзяржавы ў галіне музычнага мастацтва. Рабіліся спробы зняславіць пастанову ЦК партыі ад 10 лютага 1948 года, якая, як вядома, адыграла вельмі важную ролю ў развіцці савецкага музычнага мастацтва. Пачалі выказвацца розныя заганныя тэорыі. У адной з такіх «тэорый», дарэчы сказаць не новай, сцвярджалася, што некаторыя складаныя творы сучаснай музыкі будуць па-сапраўднаму зразуметы і ацэнены не намі, сучаснікамі, а праз дзесяткі год нашымі нашчадкамі. Нашы сучаснікі, па гэтай «тэорыі», яшчэ не дараслі да таго, каб зразумець складаныя музычныя творы. Не кампазітар вінаваты ў тым, што яго не разумее масавы аматар музыкі, а непадрыхтаванасць слухачоў музыкі да ўспрыняцця складаных твораў. Калі згаджацца з гэтай «тэорыяй», дык ад кампазітара няма чаго патрабаваць, каб яго творы былі агульнадаступныя, зразумелыя шырокім народным масам. Што-б ні пісаў кампазітар — не чапайце яго, бо ён піша для нашчадкаў.

Так, кампазітар піша для нашчадкаў, але ёсці хоча разам са сваімі сучаснікамі. Ён не грэбуе тым хлебам, які ўзрошчаны маладымі рукамі пакарыцеляў цалінных зямель, але... музыку стварае не для іх.

Прыхільнікі гэтай агіднай «тэорыі» пагардліва ставяцца да масавай аўдыторыі слухачоў, да іх патрэб у зразумелай агульнадаступнай музыцы.

Яшчэ нядаўна таксама мела хаджэнне тэорыйка аб праве мастака на трагедыйнасць. Штучна ўзняўшы

гэтае пытанне (як быццам нехта скасаваў такое права), некаторыя крытыкі пачалі падкопвацца пад светапогляд совецкага чалавека. Жыццерадасны характар музыкі, у якой знаходзяць сваё праяўленне аптымістычныя рысы светапогляду совецкіх людзей, упэўненых у перамозе светлых сіл жыцця над змрочнымі, быў аб'яўлены перажыткам перыяду культу асобы. У ходу былі такія пагардлівыя выразы, як «казённы дыфірамбізм», «бадзёрае і жыццерадаснае таптанне на месцы». Крытыка насіла агульны характар і такім чынам распаўсюджвалася на ўсю совецкую музыку, нібыта яна толькі і займалася ўслаўленнем асобы І. В. Сталіна. Паводле гэтай «тэорыі» ледзь не закрэсліваецца вялікі перыяд совецкай музыкі. Вось што гаварыў былы рэдактар часопіса «Советская музыка» Хубаў: «...шкода культу асобы ў нашай галіне адбілася... у напісанні шматлікіх пампезных, фальшывых, антырэалістычных твораў, пакрытых густым лакам славаслоўя». У пацвярджэнне не называецца ніводнага твора, ніводнага кампазітара. Мэту гэтай агульнай крытыкі разгледзець няцяжка: яна зводзіцца да кампраметацыі партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва мастацтвам. Такім чынам, пропаведзь «права кампазітара на трагедыйнасць» накіравана не столькі супраць аднабаковага адлюстравання рэчаіснасці, колькі супраць кіраўніцтва партыі ў галіне літаратуры і мастацтва. «Права на трагедыйнасць — гэта замаскаванае патрабаванне свабоды творчасці», тая-ж самая маскіроўка, аб якой гаварыў Н. С. Хрушчоў, выкрываючы прыхільнікаў «свабоды творчасці»: «Гэтых людзей, аказваецца, цягаціць кіраўніцтва літаратурай і мастацтвам з боку партыі і дзяржавы. Яны выступаюць супраць гэтага кіраўніцтва часам прама, а часцей за ўсё прыкрываюць гэтыя свае настроі і жаданні размовамі аб залішняй апецы, аб скоўванні ініцыятывы і да т. п.»

Які ўплыў аказалі гэтыя «тэорыі», што самі знаходзяцца пад уплывам буржуазных поглядаў на мастацтва, на творчасць асобных совецкіх кампазітараў? З аднаго боку, зноў пачалі з'яўляцца творы, адарваныя ад жыцця, ад сучаснасці, ад народа, творы, у якіх аўтары нібыта размаўляюць самі з сабой, ці з вузкім колам слухачоў, але не звяртаюцца са шчырым музычным словам да шырокіх народных мас. З другога боку, з'явіліся спробы адлюстроўваць у музыцы не толькі светлае, станоўчае ў нашым жыцці, але і цёмнае, адмоўнае. Гэта прывяло да ўзнікнення твораў, у якіх пераважаюць настроі смутку і трагізма. На гэта звярталі ўвагу некаторыя кампазітары.

На VIII пленуме праўлення Саюза кампазітараў СССР, які быў прысвечаны сімфанічнай творчасці (1955 г.), адзначалася наяўнасць гэтых настрояў у сімфанічных творах. Так кампазітар Баланчывадзе (Тбілісі), дзелячыся сваімі асабістымі ўражаннямі ад канцэртаў, наракаў на тое, што сярод паказаных твораў было многа сумных, нават трагічных і вельмі мала сапраўды аптымістычных твораў, якія захапілі-б яркай жыццерадаснасцю. Аўтары раду выкананых п'ес быццам не адчуваюць, што наша жыццё, нягледзячы на непазбежныя цяжкасці барацьбы, поўнае высокай рамантыкі, радасці, весялосці.

Асабліва вострая палеміка разгарнулася вакол дзесятай сімфоніі Д. Шастаковіча, у прыватнасці, вакол яе ідэйнай канцэпцыі. Сярод нястрыманых апалагетычных выказванняў, зместам якіх з'яўляецца ўсялякае расхвальванне сімфоніі, прагучалі і цвярозыя галасы аб буйных недахопах яе ідэйнага боку.

Кампазітар А. Хачатуран пісаў, што злыя, змрочныя сілы паказаны ў сімфоніі вельмі рэльефна і пераканаўча, а вялікі гуманізм міралюбівага чалавецтва, які процістаіць гэтым цёмным сілам зла, раскрыты з меншай выразнасцю.

Яшчэ больш рэзка выказаўся Ю. Крэмлёў. Ён сказаў, што ў дзе-

сятай сімфоніі змрочнасць не столькі адхіляецца, колькі смакуецца.

У тым-жа духу выказаўся і Ю. Шапорын. «Якім-бы ні было моцным зло ў свеце, выключнае або пераважаючае імкненне мастака сканцэнтравацца на вобразах зла можа прывесці да іх фетышызацыі, закрыўшы сабой тыя магутныя грамадскія сілы, якія паспяхова супраціўляюцца сілам зла».

Усё гэта гаворыцца не для таго, каб скінуць дзесятую сімфонію Д. Шастаковіча з яе высокага п'едэстала, а для таго, каб паказаць, што ўжо два-тры гады назад у савецкай музыцы, таксама як і ў літаратуры, драматургіі, выяўленчым мастацтве, пачаліся размовы аб суадносінах паміж станоўчымі і адмоўнымі бакамі ў жыцці і адлюстраваннем іх у мастацтве. Пры гэтым вызначыліся процілеглыя погляды на вырашэнне гэтай праблемы, у тым ліку і ў музыцы. У адных выказвалася трывога аб перавазе ў некаторых творах змрочных, трагедыйных вобразаў над светлымі, жыццесцвярджальнымі, у другіх — задавальненне гэтым. Хто-ж з іх мае рацыю? Адказ на гэтае пытанне дае Н. С. Хрушчоў:

«У адлюстраванні рэчаіснасці ўсё залежыць ад аўтара. Калі ён стаіць на партыйных пазіцыях, служыць народу і шчыра хоча дапамагаць народу будаваць новае грамадства, расчышчаць шлях у барацьбе за пабудову комунізма, такі пісьменнік, мастак, скульптар, кампазітар знойдзе дастаткова добрых прыкладаў у жыцці рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі, калектываў прадпрыемстваў, калгасаў, соўгасаў і здолее, проціпаставіўшы адмоўнаму, падтрымаць станоўчае, праўдзіва паказаць яго ў яркіх фарбах. Калі-ж аўтара не радуюць поспехі свайго народа, ён будзе вышукваць толькі дрэннае, адмоўнае, корпацца ў сметніках і выдаваць гэта за характэрнае ў жыцці».

Гэтым выказваннем можна канчаткова падвесці вынікі палемікі вакол дзесятай сімфоніі Д. Шастаковіча. Сапраўды таленавіты савецкі кампазітар, у гэтым сваім творы ён апынуўся ў палоне змрочных, злавесных прадчуванняў. Ён нібыта разгубіўся пад націскам сіл смерці і знішчэння і не здолеў знайсці ў жыцці той неадольнай сілы, якая не толькі супрацьстаіць сілам зла, але і актыўна ім процідзейнічае, стрымлівае іх і ў жорсткай барацьбе перамагае. Таму і не чуюцца ў сімфоніі вобразы магутнай энергіі, непахіснай волі, нястрымнага імкнення да светлай вялікай мэты. І ў гэтым сэнсе ідэйная канцэпцыя сімфоніі не адпавядае нашаму светапогляду. Прыняць яе — значыць згадзіцца з непазбежнасцю капітуляцыі перад варожымі сіламі.

Але на гэта мы ніколі не згодзімся. Вось чаму на другім з'ездзе кампазітараў у радзе выступленняў выказваўся пратэст супраць падобных твораў, супраць няяснасці, няпэўнасці эмоцый, супраць суб'ектывізма, за ясную, пэўную вобразнасць, за таварыскасць музыкі, за праўдзівае асвятленне жыцця, за ўмацаванне прынцыпаў соцыялістычнага рэалізма ў музыцы.

* * *

Беларуская музыка за сорак год свайго існавання дасягнула вялікіх поспехаў і па праву заваявала любоў і прызнанне народа. Вядома, беларускай музыцы не ўдалося пазбегнуць і асобных памылак, былі на яе шляху і няўдачы (трэба ўлічваць, што прафесіянальная музыка ў Беларусі ўзнікла толькі пасля Вялікага Кастрычніка), але галоўная лінія развіцця, яе магістральны шлях былі заўсёды звязаны з жыццём народа, з яго бытам і працай. Беларуская музыка заўсёды падзяляла з народам і радасць яго соцыялістычных перамог, і гора цяжкіх выпрабаванняў.

Лепшыя свае нотныя старонкі беларускія кампазітары прысвяцілі паказу станоўчых з'яў нашага жыцця, сапраўднага героя — будаўніка і мужнага абаронцу новага ладу

Тэмы сучаснасці заўсёды гучалі ў іх творах. Усё гэта дазволіла беларускай музыцы пазбегнуць грубых памылак, ідэйных хістанняў і цяжкіх зрываў. У цэлым беларуская музыка і яе стваральнікі знаходзяцца на правільным шляху рэалізма, партыйнасці і народнасці.

Творчасць беларускіх кампазітараў неаддзяліма ад песеннай народнай творчасці. Гэта таксама адзін з самых моцных бакоў беларускай музыкі. Значны ўклад у творчы актыў зроблены кампазітарамі розных пакаленняў. Вось ужо хутка дзевяноста год міне нашаму старэйшаму кампазітару Н. Н. Чуркіну, а ён, не зважаючы на ўзрост, піша музыку па-юнацку непасрэдную і светлую. Слухачам беларускай музыкі вядомы імёны Н. Сакалоўскага і В. Ефімава, А. Туранкова, Н. Аладава, Я. Цікоцкага, Г. Пукста, Д. Лукаса, П. Падкавырава, А. Багатырова, Д. Камінскага, Л. Абеліовіча, Э. Тырманд, Я. Глебава, Ю. Семянякі, І. Кузняцова і іншых.

Аднак, побач з дасягненнямі ў галіне музычнага мастацтва, ёсць і нездаровыя з'явы, якія перашкаджаюць нашай беларускай музыцы дабіцца яшчэ большых і значных поспехаў.

У творчасці беларускіх кампазітараў ідэйная накіраванасць, змястоўнасць, імкненне ўзняць хвалюючыя тэмы сучаснасці значна вышэй за іх мастацкае ўвасабленне. Маецца на ўвазе некаторае адставанне музычнай формы ад зместу. Недахопы ў галіне музычнай формы можна вельмі ўмоўна падзяліць на дзве катэгорыі: першая датычыць асобных аўтараў і асобных твораў, другая — распаўсюджваецца амаль на ўсю творчасць беларускіх кампазітараў. Але як іх там ні падзяляй — недахопы ўсё-ж застаюцца недахопамі і цягнуць беларускую музыку назад. Таму і трэба ў іх крыху разабрацца.

Старэйшы кампазітар Н. І. Аладаў мае свой творчы почырк; яго музыку можна адрозніць ад напісанай іншымі аўтарамі. Яго творчая праца мае сістэматычны характар. Але тое, што выходзіць з-пад пяра Н. Аладава, не заўсёды задавальняе. Некаторым яго творам нехапае той вышэйшай якасці, якую называюць натхненнем. Пасля прызнанай трэцяй сімфоніі Н. І. Аладаў неўзабаве стварыў чацвёртую сімфонію. Яна пакінула дрэннае ўражанне грубым натуралістычным характарам музыкі, наўмысна загрувашчанымі гучаннямі. Праз некаторы час Н. Аладаў напісаў пятую сімфонію пад шматабяцаючым загалоўкам «Лірычная». Але ў ёй не адчувалася сапраўднай лірыкі. Калі можна дапусціць выраз «негатыўная лірыка», дык ён можа даць некаторае ўяўленне аб вобразным ладзе сімфоніі. Нягледзячы на розны змест абедзвюх сімфоній, яны маюць агульныя недахопы. У іх не адчуваецца непасрэднай сувязі з жыццём. Вобразы іх не перажыты, таму музыка мае нейкі надуманы характар.

Навошта пішацца такая музыка? Для каго яна пішацца?

Н. І. Аладаў не адзін раз быў аб'ектам грамадскай крытыкі. Яго крытыкавалі і за фармалізм, і за суб'ектывізм, але Нікалай Ільіч пагардліва адносіцца да крытыкі, не робіць з яе для сябе неабходных вывадаў. Вось чаму, побач з такімі творамі, як трэцяя сімфонія і сімфаньета, фартэп'янны квінтэт, шмат якія невялікія інструментальныя ансамблі, некаторыя рамансы і песні, у яго з'яўляюцца творы невыразныя, незразумелыя масаваму слухачу музыкі.

Да прыватных недахопаў беларускай музыкі можна таксама аднесці адсутнасць у некаторых аўтараў высокага мастацкага густу. У асобных творах таму адчуваецца схільнасць да сентыменталізма і нават пошласці, неразборлівасць у выбары сродкаў, пераймальнасць, некрытычны падыход да выкарыстоўвання музычнай спадчыны мінулага і бытуючых інтанацый. Асабліва моцна паддаецца розным нездаровым уплывам наша творчая моладзь. Адзнакі дрэннага густу можна знайсці ў некаторых песнях Ю. Семянякі. Нажаль, гэты малады таленаві-

ты кампазітар, які толькі ў гэтым годзе закончыў кансерваторыю, вельмі непатрабавальна адносіцца да сваёй песеннай творчасці. Ю. Семяняку часам прыходзіцца ўказваць на прымітыўнасць, лёгкаважнасць яго песень, на тое, што ў яго песнях сустракаюцца знаёмыя меладычныя звароты, запазычаныя з песень іншых аўтараў.

Вядома, што творчасць некаторых кампазітараў складвалася пад уплывам творчасці другіх. Так было, напрыклад, з раннім Скрабіным, у якога адчуваюцца ўплывы Шапэна. Але гэта было ў ранні перыяд творчасці, у першых творчых спробах, а потым Скрабін знаходзіць свой уласны шлях. Гэта з'ява даволі натуральная, і такія прыклады ў гісторыі музыкі не адзінкавыя. Куды горш, калі малады аўтар неразборліва карыстаецца запетымі, зацяганымі мелодыямі і не шукае новых, арыгінальных. На гэта яго штурхае і недастатковасць мастацкага густу, і перспектыва лёгкага поспеху. Але ніякай папулярнасцю твора нельга апраўдаць яго несамастойнасць. Розная ёсць папулярнасць. Ёсць папулярнасць «Гімна дэмакратычнай моладзі свету» — гэта агульнанароднае, сусветнае прызнанне; ёсць папулярнасць «Мішкі» — гэта шумны, але нядоўгавечны поспех сярод некаторай часткі нашых людзей з дрэнным, адсталым густам. Нашай моладзі трэба развіваць свае музычныя густы, не залазіць у чужыя кішэні, гнаць ад сябе халтуру, смялей шукаць свае шляхі ў музыцы.

Але найбольш буйны недахоп, які цягне нашу музыку назад, не дае ёй магчымасці паўней раскрыцца, выявіць станоўчыя бакі, — гэта невысокі ўзровень кампазітарскага майстэрства. Праўда, у нас ёсць асобныя творы, ці часткі іх, якія напісаны не толькі з натхненнем, але і з веданнем справы, з майстэрствам валодання формай і аркестрам, з прыгожай гарманічнай і паліфанічнай тэхнікай — гэта значыць з тымі якасцямі, якія надаюць твору рысы мастацкай дасканаласці. Але гэтыя прыклады рэдкія, і агульны ўзровень майстэрства застаецца невысокім.

Майстэрства кампазітара не мэта, а сродак, яго другая зброя, бо першая зброя—гэта комуністычная ідэйнасць. Гэтую вядомую ісціну прыходзіцца паўтараць, бо і сюды ўносіцца блытаніна. У некаторых выказваннях майстэрства прыраўноўваецца да формы. Прымаючы ўдзел у дыскусіі аб савецкім сімфанізме ў Маскве, І. Нісневіч выказаў думку, што «высокае майстэрства не сумяшчальна з няправільным адлюстраваннем жыцця». Калі верыць І. Нісневічу, дык мы павінны лічыць імпрэсіяністаў з іх майстэрствам жывапісу і гукапісу не меншымі рэалістамі, чым Рэпіна ці Мусаргскага. У тым і справа, што майстэрства можа з'яўляцца сродкам як праўдзівага, так і скажонага адлюстравання рэчаіснасці.

Майстэрства савецкага кампазітара, яго ўмельства павінна быць накіравана на стварэнне дасканалых твораў, беззаганных па форме, бездакорных па зместу, і гэта адбіваецца на мастацкай якасці нашых твораў. Нас за гэта слушна і справядліва крытыкуюць, і з гэтай крытыкай мы павінны згадзіцца. Мы ўжо неяк звыкліся са словамі «праблема майстэрства». Мы іх жуём на сходах, на старонках газет і часопісаў. Але праблема майстэрства вырашаецца не так. Яна можа вырашыцца толькі ў творчай працы. Калі кожны кампазітар будзе працаваць над кожным сваім творам не як рамеснік, а як сапраўдны мастак, дык яму спатрэбіцца майстэрства, і ён яго будзе шукаць у клавірах і партытурах класічнай і лепшых ўзорах сучаснай музыкі, бо майстэрству можна навучыцца толькі ў майстроў. Вось што (майстэрства)—не толькі можна, але і патрэбна запазычаць, пераймаць у кампазітараў мінулага і сучаснага.

Нам даўно трэба стварыць буйны класічны твор, твор незвычайны, у якім павінны зліцца ў адно цэлае ўсе лепшыя дасягненні, усе лепшыя бакі беларускай музыкі, пакуль што існуючыя паасобку. У нас ёсць творы, якія

мы лічым класічнымі, напрыклад «Сімфаньета» Н. Чуркіна ці яго «Калыханка» для струннага квартэта. Але гэта наша ранняя класіка, а час-бы ўжо з'явіцца і класіцы нашай сталасці. Такім творам можа з'явіцца опера ці сімфонія, кантата ці канцэрт. Даволі нам задавальняцца шэрай, невыразнай музыкай. Што ні напіша кампазітар — усё неяк прыладжваецца: і добрае і дрэннае ідзе праз музычныя «серады» Саюза кампазітараў, праз рэпертуарную камісію на паліцы Міністэрства культуры. Даўно пара з гэтага канвеера скідаць брак.

* * *

Музыка і паэзія — родныя сёстры. Таму натуральна іх імкненне адной да другой.

У жывых вобразах старога гусляра, які гіне, але застаецца верным народу, ці таленавітага сялянскага хлопчыка Сымона-музыкі мы бачым вялікі прыклад адданасці мастака народу:

Пайшоў Сымон сваёй пуцінай,
Бо ён прыроджаны пясняр.
Панёс ён людзям песень дар —
Агонь душы і сэрца жар,
Панёс пяснярскай каляінай.

Вось як класік нашай літаратуры Якуб Колас разумеў прызванне мастака, яго свяшчэнны абавязак перад народам.

Беларуская музыка заўсёды была звязана з беларускай паэзіяй. Творчая спадчына Купалы і Коласа, Багдановіча і Труса, сучасная паэзія Броўкі, Глебкі, Танка, Русака, Астрэйкі і многіх іншых таленавітых паэтаў натхняе беларускіх кампазітараў на стварэнне вакальных твораў розных жанраў: песень і рамансаў, хораў і кантат.

Зусім нядаўна адзін з нашых кампазітараў А. В. Багатыроў стварыў цыкл з шасці рамансаў на словы А. Куляшова. «Адкрыццё» А. Куляшова для музыкі — з'ява ўдешная, але нельга згадзіцца з тым, што адбываецца «закрыццё» другіх паэтаў. У Саюзе кампазітараў за апошні час карыстаюцца ўвагай недасканалыя вершы нявопытных паэтаў, што зніжае мастацкую вартасць некаторых вакальных твораў.

* * *

Мы, кампазітары, колькі-б ні пісалі твораў, ніколі не змаглі-б зрабіць іх здабыткам народа без выканаўцы. Выканаўца—будзь гэта адзін чалавек або вялікі калектыў — вось рупар кампазітара, праз які ён трымае сувязь з масамі. Ад гэтага пасрэдніка паміж стваральнікам і слухачамі многае залежыць. Вось чаму ў нашай рэспубліцы ўсё больш і больш просяцца на парадак дня пытанні, якія датычаць выканаўчай культуры, выканаўчага майстэрства. Я не памятаю, каб гэтыя пытанні станавіліся аб'ектам сур'ёзнага абмеркавання.

Сярод нашых выканаўцаў ёсць праслаўленыя імёны, з чыёй артыстычнай дзейнасцю звязаны моцны ўздым беларускай музыкі ў 30-х гадах, ёсць і маладыя артысты, якія паспелі ўнесці свой уклад у беларускую музыку. Мы ганарымся вялікім поспехам, які выпаў на долю нашай таленавітай моладзі на Усесаюзным і Сусветным фестывалі моладзі ў Маскве. З гонарам адстаялі вартасць беларускай музыкі, народнага і прафесіянальнага мастацтва і выйшлі ў лік усесаюзных і сусветных лаўрэатаў спявачка С. Гулевіч, цымбалісты В. Бурковіч і М. Шмелькін-малодшы, дзявочы вакальны актэт народнага хору пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча, маладзёжная група аркестра народных інструментаў пад кіраўніцтвам І. Жыновіча.

Разам з іх залатымі, сярэбранымі і бронзавымі медалямі прышла да нас радасць усесаюзнага і міжнароднага прызнання музычнай культуры беларускага народа.

Рост выканаўчай культуры ў Беларусі дазваляе нам, кампазітарам, ствараць больш складаныя, а таму і больш цікавыя творы. Нашы маладыя цымбалісты ўжо могуць прад'явіць нам

рахунак за адсутнасць беларускіх складаных твораў для цымбалаў, якія дазволілі-б ярчэй раскрыць віртуозныя магчымасці інструмента і выканаўцы.

Удумліва і сур'ёзна працуе над папаўненнем беларускага рэпертуара заслужаны артыст БССР Л. Бражнік, які на Ўсесаюзным конкурсе на лепшае выкананне вакальных твораў Мусаргскага атрымаў ганаровы дыплом.

У Мінску працуюць такія выдатныя калектывы, як харавая капела пад кіраўніцтвам Р. Р. Шырмы, народны хор пад кіраўніцтвам Г. І. Цітовіча, народны аркестр пад кіраўніцтвам І. І. Жыновіча і сімфанічны аркестр Белдзяржфілармоніі (дырыжоры Дуброўскі і Афанасьеў). Мы, беларускія кампазітары, глыбока ўдзячны гэтым высокакваліфікаваным калектывам і іх кіраўнікам за іх вялікую работу па прапагандзе музычнай творчасці, у тым ліку і нашых твораў. Дзякуючы гастрольным паездкам харавой капелы, народнага хору і народнага аркестра, далёка за межамі Беларусі стала вядома творчасць беларускага народа. Дзякуючы гастрольным паездкам калектыву сімфанічнага аркестра па гарадах рэспублікі, насельніцтва гэтых гарадоў змагло азнаёміцца з лепшымі творамі сусветнай, рускай і беларускай сімфанічнай музыкі. Пры гэтым слухачы ўсюды праяўлялі жывую і здаровую цікавасць нават да складанай класічнай музыкі.

Але ёсць у нас, нажаль, артыстычная моладзь, у асноўным прыезджая, якая мае ўжо высокае ганаровае званне, але не мае ў сваім рэпертуары дастаткова беларускіх твораў. У спадчыне беларускай музыкі ёсць многа цікавых твораў, якія могуць прынесці вялікае задавальненне маладым выканаўцам і слухачам.

Нас засмучае, што нашы творчыя калектывы маюць невыносныя ўмовы для работы. У нас будуецца цырк. Але ні ў адной краіне цырк не характарызуе становішча культуры народа. Становішча культуры больш характарызуецца канцэртнай залай, у якой выступаюць кваліфікаваныя мастацкія калектывы, выдатныя выканаўцы. Беларусь — адзіная рэспубліка, якая не мае канцэртнай залы. А гэта — тое неабходнае, што стварала-б умовы для нармальнай работы мастацкіх калектываў, для іх далейшага творчага росту.

Вялікая роля ў прапагандзе беларускай музыкі належыць музычнай самадзейнасці. Нажаль, у рэпертуар музычнай самадзейнасці часта трапляюць творы не толькі недасканалыя, але пошлыя. Выправіць гэты недахоп можна тады, калі-б мы не толькі наладзілі нотадрукаванне, але і распаўсюджанне нотнай літаратуры. Нажаль, наш так званы Мінскі нотны магазін, які мог-бы служыць прыкладам па распаўсюджванню музычнай літаратуры, з'яўляецца пародыяй на магазін. Гэта нейкая нотная звалка. Выдзелена новае памяшканне, але абсталяванне яго недапушчальна зацягваецца, і невядома яшчэ, калі ім можна будзе карыстацца для арганізацыі культурнага гандлю нотамі.

Не вельмі актыўна дапамагае кампазітарам і друк. Пры публікацыі артыкулаў аб музыцы дапускаюцца грубыя памылкі, якія сведчаць аб некампетэнтнасці рэдакцыйных работнікаў у элементарных пытаннях музыкі. Наладзіўшы добрую справу —дыскусію аб музычных густах моладзі — газета «Знамя юности» не здолела без памылак давесці дыскусію да канца. Змяшчаючы адказ на пісьмо студэнта Віцебскага будаўнічага тэхнікума П. Епіфанава, які пісаў, што мы на іх (г. зн. на сімфоніі) плюем цераз левае плячо, газета не знайшла нічога лепшага, як змясціць адказ наступнага зместу (піша студэнтка Мінскага педінстытута М. Латушка): «Музыку Чайкоўскага нельга слухаць без хвалявання. Я-б параіла студэнту Епіфанаву і тым, хто падзяляе яго няправільныя погляды, не пляваць праз левае плячо, а паслухаць хоць-бы раз уважліва «Апасіянату» Бетховена або «Асеннюю песню» Чайкоўскага. Тады, магчыма, яны па-сапраўднаму зразуме-

юць, што значыць сімфанічная музыка, колькі страсці, агню і душы ўкладзена ў яе кампазітарамі-класікамі».

Незразумела, якія адносіны да сімфанічнай музыкі маюць саната «Апасіяната» Бетховена ці «Асенняя песня» Чайкоўскага — творы для фартэпіяна.

Таксама дапускае памылкі і газета «Літаратура і мастацтва». Так, напрыклад, у адной заметцы газета пісала, што маладая піяністка Л. Рахленка выканала 33-ю санату Бетховена. Гэтага, вядома, не магло быць, бо Бетховен напісаў усяго 32 санаты.

У нас яшчэ многа цяжкасцей. Але беларускія кампазітары пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі будуць нястомна працаваць для далейшага развіцця беларускай культуры, сумленна служыць свайму народу, яны будуць падтрымліваць партыю ва ўсіх яе справах, заўсёды застануцца вернымі яе памочнікамі, будуць свята захоўваць сваю адданасць справе Леніна.

# „МЯЦЕЖ“

Беларускі тэатральны летапіс юбілейнага, саракавога года папоўніўся яшчэ адным запісам: калектыў Мінскай студыі тэлебачання паставіў новы спектакль «Мяцеж». П'еса Д. Фурманава і С. Паліванава была прачытана пастаноўшчыкамі тэлевізійнага спектакля па-новаму. Выкарыстаўшы шэраг гістарычных матэрыялаў, галоўны рэжысёр студыі В. Кухта і рэжысёр В. Карпілаў увялі ў знаёмае нам развіццё дзеяння новыя эпізоды. Так перад тэлегледачамі ўзніклі створаныя з вялікай стараннасцю вобразы В. І. Леніна (заслужаны артыст БССР О. Шкапскі) і М. І. Калініна (народны артыст БССР Е. Палосін). Сутнасць падзей,— мецяжа ў крэпасці, паднятага групай контррэвалюцыянераў і дэкласаваных элементаў, — атрымала ў спектаклі глыбокае палітычнае абгрунтаванне.

Больш ста тысяч гледачоў, што бачылі гэты спектакль, засталіся ўдзячны выканаўцам роляў і маста-

**Сцэна са спектакля. У цэнтры — Д. Фурманаў (заслужаны артыст БССР Г. Някрасаў).**



ку-грымёру Б. Ягораву за ўдала створаныя вобразы кіруючых дзеячоў рэвалюцыі. Акрамя В. І. Леніна і М. І. Калініна, у спектаклі дзейнічаюць М. В. Фрунзе (арт. Г. Сідараў) і В. В. Куйбышэў (арт. Ю. Шумакоў). З вялікай пераканаўчасцю жыў у спектаклі адзін з цэнтральных станоўчых герояў — упаўнаважаны Рэўваенсовета ў г. Верным Д. А. Фурманаў (засл. арт. БССР Г. Някрасаў).

У шматлікіх пісьмах-водгуках, прысланых на студыю гледачамі, адзначаецца бясспрэчная ўдача спектакля.

Тэлевізійны спектакль жыве некалькі гадзін. Гэта заўсёды выклікае пачуцце незадаволенасці. Спектаклі, якія нам спадабаліся ў тэатры, мы глядзім па некалькі разоў. Як-жа зрабіць, каб і лепшыя работы калектыву тэлестудыі не знікалі бясследна адразу-ж пасля таго, як патухла святло на экране тэлевізара? Пасля «Мецяжа» гэтае пытанне паўстала з новай сілай. Вялікая праца і творчыя знаходкі вялікага калектыву не павінны быць забыты. Магчыма, для дакументацыі найбольш удалых тэлеспектакляў трэба прыцягваць нашу кіностудыю.

**А. С.**

**З. НАСЦЕНКА,**
**артыстка Народнага аркестра БССР.**

# НАШ АРКЕСТР

Дзяржаўны беларускі аркестр пад кіраўніцтвам Народнага артыста БССР І. І. Жыновіча адзіны ў свеце, дзе вядучым інструментам з'яўляюцца цымбалы — старажытны інструмент. У Беларусі першыя звесткі аб цымбалах адносяцца да XVI—XVII стагоддзя. Спачатку цымбалы значна адрозніваліся ад тых, на якіх граюць цяпер артысты аркестра. У іх была розная колькасць струнаў. Усе яны — без храматычнай гамы. Такія цымбалы і цяпер сустракаюцца на вёсках. На іх граюць танцавальныя мелодыі і акампанементы да песень. Вырабляюць іх майстры-самавучкі.

У 1921 годзе група беларусаў — прыхільнікаў цымбалаў стварыла ансамбль. Неўзабаве пачалася работа па рэканструкцыі народных інструментаў. Артысты ансамбля імкнуліся зрабіць цымбалы інструментам, на якім можна было-б выконваць не толькі народныя песні і танцы, але і складаныя музычныя творы. У працэсе ўдасканалення з'явіліся цымбалы — прыма, альт, тэнар, бас, кантрабас. І вось прышоў час, калі ўпершыню ансамбль выканаў складаны твор — «Ронда» кампазітара Аладава, у аснову якога былі пакладзены народныя мелодыі і танец «Юрачка».

Хутка рэпертуар ансамбля пашырыўся, ён пачаў выступаць не толькі ў гарадах і сёлах Беларусі, але і за межамі рэспублікі.

У 1937 годзе ансамбль быў пераўтвораны ў Беларускі дзяржаўны народны аркестр. Гэта быў першы ў гісторыі беларускага народа нацыянальны аркестр.

Зараз у складзе аркестра — 50 музыкантаў. Побач з музыкантамі старэйшага пакалення: заснавальнікам аркестра І. І. Жыновічам, заслужанымі артыстамі БССР С. Навіцкім, Х. Шмелькіным, М. Шчэрбай, Ю. Селянцьевым, у аркестры працуюць выхаванцы Беларускай кансерваторыі і Мінскага музычнага вучылішча: Я. Бабровіч, О. Бжэзоўская, Т. Сцяпанава, Л. Бараноўская, Э. Лямбовіч

і другія. Шмат хто з артыстаў вучыцца ў кансерваторыі завочна.

У рэпертуары аркестра цяпер класічныя творы Глінкі, Барадзіна, Лядава, Рахманінава, Моцарта, Бетховена, Шуберта. Каля трохсот твораў падрыхтавана для голасу ў суправаджэнні аркестра. Асаблівую папулярнасць у слухачоў маюць песні беларускага кампазітара В. Алоўнікава: «Песня аб Даватары», «Песня аб Гастэле», «Песня аб Заслонаве». Звонкая, крыху металічная афарбоўка гуку цымбалаў ярка перадае баявы характар гэтых цудоўных песень. Шэраг сваіх твораў беларускія кампазітары напісалі спецыяльна для аркестра. Гэта «Святочная ўверцюра» Н. Аладава, сюіта «На Палессі» В. Алоўнікава, канцэрт для цымбалаў кампазітара Д. Камінскага, «Калгасная сюіта» ў 4-х частках П. Падкавырава. Цудоўна гучыць у выкананні ансамбля полька Н. Чуркіна «Добры вечар» і «Фантазія на беларускія тэмы» Р. Пукста. З аркестрам цяпер часта выступаюць салісты беларускай оперы і філармоніі: народная артыстка БССР Т. Ніжнікава, лаўрэат Міжнароднага конкурсу выканаўцаў на VI Сусветным фестывалі моладзі ў Маскве С. Гулевіч, заслужаная артыстка БССР Р. Асіпенка, артысты Л. Шубіна, Д. Зубрыч, М. Шаўчук.

Аркестр часта выступае за межамі рэспублікі: ён наведаў Вільнюс, Каунас, Ленінград, Пензу, Кіргізію, Таджыкістан, Туркменію, шмат паездак зрабіў у калгасы і раённыя цэнтры Беларусі, у палявыя брыгады ў час уборкі ўраджаю. У дні дэкады беларускага мастацтва ў Маскве ў 1955 годзе аркестр выступаў на сцэне Вялікага тэатра оперы і балету.

Калектыў дасягнуў вялікай зладжанасці ансамбля, роўнасці гучання, чысціні інтанацый, тэхнічнай бегласці. Да Усесаюзнага конкурсу 1957 года артысты рыхтаваліся з асаблівай старраннасцю. Выкананне музычных твораў, такіх, як «Сімфаньета» Чуркіна і асабліва «У манастыры» Барадзіна, адразу захапіла слухачоў сваім прыгожым, магутным гучаннем, мноствам тэмбравых фарбаў. У канцы канцэрта ў зале некалькі хвілін панавала цішыня і толькі пасля загучалі бурныя воплескі — так былі ўражаны сталічныя слухачы.

На Усесаюзным конкурсе аркестр быў узнагароджаны залатым медалем. Цымбалісты В. Бурковіч і М. Шмелькін атрымалі званні лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу.

На VI Сусветным фестывалі моладзі ў Маскве аркестр паказаў цікавую праграму, якая найбольш характарызуе наша нацыянальнае мастацтва.

## Бібліяграфія




# „Н А Р А Ч“

З кожным годам паляпшаецца дзейнасць абласных літаратурных аб'яднанняў. Калі раней плён іх працы быў відаць толькі па пратаколах пасяджэнняў ды па нешматлікіх літаратурных старонках у абласных газетах, дык цяпер ён увасабляецца ў альманахі. У Магілёве выйшла трэцяя кніга альманаха «Дняпро», у Гродна выдаецца альманах «Нёман». Зусім нядаўна з друку выйшаў альманах «Нарач» — у Маладзечна.

«Альманах «Нарач» — як пішацца ў прадмове, — вынік калектыўнай працы ў асноўным пачынаючых літаратараў Маладзечанскай вобласці. Тут выступаюць людзі рознага ўзросту, розных прафесій і заняткаў: брыгадзір будаўнікоў Яўген Абрамовіч і калгасны бухгалтар Дзмітры Пучынскі, інжынер Андрэй Судас і журналіст Міхась Квочкін, калгасніца Ганна Новік і юрыст Аляксандр Гурко, сельскі настаўнік Сцяпан Яцукевіч і былы рабочы фабрыкі гармонікаў, зараз студэнт Мінскага ўніверсітэта Ігар Жулега, культработнік Віктар Носаў і пенсіянер Мікола Пужэвіч...»

Розная, трэба дадаць, і мастацкая вартасць іх твораў. Побач з дасканалымі вершамі і апавяданнямі ёсць слабыя і нават бездапаможныя. Гэта і зразумела: адны, як А. Чарнышэвіч, Ф. Ізмайлаў, М. Карпенка, У. Варно, пішуць і друкуюцца даўно, другія — толькі пачынаюць свой шлях у літаратуры. Няма нічога дрэннага ў тым, што рэдкалегія альманаха «Нарач» (рэдактар В. Батурын) уключыла ў зборнік творы як навічкоў у літаратуры, так і старэйшых, як слабыя творы, так і добрыя. Хоць гэта і стварае некаторую стракатасць, але дае найбольш поўнае ўяўленне аб літаратурных сілах Маладзечаншчыны.

Усе творы, якія змешчаны ў «Нарачы» падкупляюць шчырасцю, аптымізмам, высокай ідэйнасцю. Чытаючы іх, адчуваеш пульс сённяшняга дня, думы і спадзяванні працоўных вобласці.

Я жизнь свою
По Вашей жизни мерю,
Еще тогда, когда совсем был мал,
Быть верным Вам,
Вступая в пионеры,
Торжественную клятву я давал...

Ведь это я, когда бои умолкли,
Сменил на труд профессию бойца,
Построил гидростанции на Волге,
Заветам Вашим верный до
концa...

Так піша ў сваім вершы «Владимиру Ильичу» Аляксандр Харкевіч. Шчыра і прачула паэт гаворыць аб племі карчагінцаў, краснадонцаў, барацьбітоў за пабудову соцыялізма.

Герой вершаў Аляксандра Харкевіча — гэта аднагодак Кастрычніка, якому невядомы цяжар паднявольнага жыцця. Смела і ўпэўнена глядзіць ён у будучыню, цвёрда ведаючы, што ажыццяўленне любой задумы залежыць толькі ад яго.

Добрыя вершы змясцілі ў зборніку Фёдар Ізмайлаў, Міхась Карпенка, Барыс Карташоў, Міхаіл Сільвановіч, Мікола Сіскевіч, Дзмітры Пучынскі, Уладзімір Варно, Ігар Жулега. Але найбольш удаліся паэтам вершы, пазбаўленыя агульных разважанняў.

Верш М. Карпенкі «Мая сяброўка», безумоўна, мае права на існаванне. Тут усё на месцы — і рыфма, і рытм, і добрая ідэя: маладосць — сяброўка чалавека ў яго творчым жыцці. Але гэты верш так не хвалюе, як верш «Рука дзіцяці». Чаму? Бо ў апошнім вершы М. Карпенка знайшоў трапную дэталь, здолеў зрабіць глыбокі мастацкі вывад. Гэта-ж можна сказаць пра вершы М. Сільвановіча «Разговор с девочкой», М. Сіскевіча «У запасе» і іншыя, дзе паэты пазбеглі рыторыкі.

Адсюль сам сабою напрошваецца вывад, што шлях да вяршыняў паэзіі ляжыць праз мастацкае, вобразнае асэнсаванне з'яў жыцця, а не праз рыфмаванне на абстрактныя тэмы.

Многім паэтам, якія выступілі ў альманаху са сваімі вершамі, неабходна больш сур'ёзна ставіцца да майстэрства. Яўген Абрамовіч, напрыклад, надта захапляецца дзеяслоўнай рыфмай, таму яго вершы пры добрай задуме і нядрэнных мастацкіх дэталях здаюцца нейкімі аднастайнымі. Паэту Аляксандру Гурко варта глыбей заняцца вывучэннем рытмікі верша, а таксама больш старанна працаваць над словам. Часам у вершах А. Гурко няма ўнутранай сувязі паміж радкамі і нават словамі. Ствараецца ўражанне, што паэт узяў першае слова, што трапілася яму, і паставіў у верш.

На землях целинных сверкает
пшеница
Золотом спелым, готова
к страде —
Знай, комсомольской работы
частица
Светится в этом народном труде!

Добрая думка выказана паэтам непісьменна. У выніку атрымаўся сумбур, выпадковае спалучэнне слоў.

У цэлым-жа, нягледзячы на асобныя хібы, вершы пакідаюць добрае ўражанне. Відаць, што ў вобласці расце многа здольных, цікавых паэтаў, якія парадуюць чытачоў высокамастацкімі творамі.

У альманаху надрукаваны таксама апавяданні М. Гроднева, М. Квочкіна, А. Чарнышэвіча, Ф. Конышава, М. Чапрасава і гумарэска С. Яцукевіча.

А. Чарнышэвіча чытаты ведаюць па шматлікіх апавяданнях і аповесцях, якія друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах і выходзілі асобнымі кнігамі. Дзіўна, чаму ў альманаху А. Чарнышэвіч змясціў сваё далёка не лепшае апавяданне «Гуманіст».

Нягледзячы на некаторую схематычнасць, добрае ўражанне пакідае апавяданне Міколы Гроднева «Акадэмія». Прыемна адчуваць, што пісьменнік творча расце. Але М. Гродневу неабходна яшчэ вельмі многа працаваць над мовай, больш беражліва адносіцца да слова.

Астатнія апавяданні напісаны на рускай мове, а потым, незразумела чаму, перакладзены на беларускую. Між тым, вершы змяшчаліся на той мове, на якой яны і пісаліся. Найбольш дасканалым з іх у мастацкіх адносінах з'яўляецца, бясспрэчна, апавяданне Міхася Квочкіна «Лябёдушка». Пачынаючы пісьменнік нядрэнна валодае мастацкай дэталлю; умее коратка, трапна і псіхалагічна правільна характарызаваць людзей, а галоўнае — стварацць запамінальны вобраз. У апавяданні, якое змешчана ў альманаху, расказваецца пра мужнасць і самааданасць савецкіх людзей у гады Айчыннай вайны. Нямецкаму каменданту Курту Веберу супрацьпастаўлены стары акцёр тэатра Пётр Пятровіч Малахітаў і маладая актрыса Вера, якія, не шкадуючы жыцця, адстойваюць чэсць і незалежнасць радзімы. Аўтар знайшоў неабходныя фарбы для абмалёўкі сваіх герояў. Таму і Малахітаў і Вера падабаюцца чытачу, ім верыш, пра далейшы іх лёс хочаш ведаць.

Фёдар Конышаў надрукаваў у альманаху два апавяданні — «Песня над Нараччу» і «Незабыўнае». У абодвух апавяданнях пачынаючы пісьменнік паказвае барацьбу працоўных заходніх абласцей Беларусі за вызваленне з-пад прыгнёту польскіх паноў. Ліза Мікуліч, гераіня першага апавядання, стала на шлях барацьбы з малых год. Яшчэ ў школе яна чытала рэвалюцыйныя кнігі, усёй сваёй душой ненавідзела панскія парадкі. У час паўстання нарачанцаў яе забіваюць панскія паслугачы.

Нажаль, аўтар усё апавяданне вядзе ад першай асобы — бацькі Лізы. Таму ён быў пазбаўлены магчымасці больш шырока і глыбока раскрыць душэўны свет Лізы. Падзеі падаюцца пераасэнсаванымі старым непісьменным чалавекам, які некалі так і не мог уразумець лізінай мары.

У другім апавяданні Ф. Конышаў бярэ складаную тэму расколу сям'і асадніка Наваміра. Дачка асадніка Таня, прыехаўшы пасля вучобы з гімназіі, дапамагае ўцекачу з Вілейскай турмы Петрусю Светлякову схавацца ад праследавання паліцыі. Нечакана бацька Тані адкрывае сховішча Петруся. У барацьбе Пятрусь забівае бацьку. Памірае маці. Таня застаецца адна і шмат гадоў чакае Петруся, хоць і не ведае, дзе ён. Нарэшце, Пятрусь прыязджае. Адбываецца шчаслівая сустрэча.

Як відаць з кароткага пераказу, аўтар выбраў цікавую тэму. Нажаль, Ф. Конышаву не ўдалося пераканаўча абмаляваць супярэчлівы вобраз Тані. І зусім непатрэбна ўжо было нагрувашчваць у маленькім апавяданні столькі падзей. Трэба было браць галоўныя з іх, якія найбольш раскрывалі-б характары герояў.

Такое-ж нагрувашчванне падзей характэрна і нядрэннаму апавяданню Міхаіла Чапрасава «Стары знаёмы». Паход партызан на баявую аперацыю, роды жонкі камандзіра, смерць самога камандзіра. І ўсё гэта спатрэбілася для таго, каб паказаць, што сын, які нарадзіўся ў тую ноч, праз шаснаццаць-семнаццаць год сустракаецца з доктарам, які быў сведкам гэтых родаў і смерці.

Зусім па-другому напісана М. Чапрасавым апавяданне «Дзядзька». У ім паказаны сутыкненне старэйшага і маладога комуніста з-за адносін да справы. Сітуацыя жыццёвая, і вырашэнне канфлікту знойдзена М. Чапрасавым правільнае. Нажаль, аўтар зусім не матывуе ўчынкаў Філіпа Сяргеевіча. Таму здзіўляешся, чаму раптам сумленны, добры комуніст становіцца чалавекам з адсталымі поглядамі.

Няма сумнення, што маладыя празаікі Маладзечна — людзі здольныя, што яны з часам змогуць напісаць цікавыя, высокамастацкія творы. Аднак усім ім патрэбна навучыцца будаваць сюжэт, больш працаваць над абмалёўкай вобразаў.

Другая частка альманаха прысвечана нарысам і артыкулам. У ёй змяшчаюцца нарысы А. Сочнева, Е. Рыкліна і Ф. Ізмайлава, успаміны С. Будзько і Г. Лысова, артыкул аб Я. Купалу М. Ермаловіча.

Выхад у свет альманаха «Нарач» — сведчанне таго, што ў абласцях Беларусі пачынае бурліць літаратурнае жыццё.

**Алесь АСІПЕНКА.**

І. РАТНЕР,
выкладчык фізікі.

# НЕМАГЧЫМАЕ РОБІЦЦА МАГЧЫМЫМ

Калі-б некалькі гадоў назад хто-небудзь пачаў расказваць аб палёце штучнага спадарожніка Зямлі, яго слухалі-б проста як летуценніка. А сёння мільёны людзей гавораць аб гэтым, як аб нечым вельмі звычайным.

Ідэя штучнага спадарожніка не новая. Яе выказаў вялікі рускі вучоны Канстанцін Эдуардавіч Цыялкоўскі яшчэ ў 1926 годзе. Але з часу ўзнікнення ідэі да яе здзяйснення мінула больш трыццаці год. Чым бліжэй падыходзілі вучоныя да практычнага вырашэння гэтай задачы, тым большыя цяжкасці ўзнікалі перад імі. Перамога ў барацьбе з зямным прыцяжэннем, якой дасягнулі савецкія інжынеры і вучоныя, з'яўляецца адной з самых хвалюючых старонак гісторыі навукі і тэхнікі.

Гісторыя стварэння рэактыўных рухавікоў — ад першых недасканалых самалётаў да запуску штучнага спадарожніка — прайшла цалкам на вачах у таго пакалення людзей, якім зараз нямногім больш трыццаці год. Першыя спробы стварэння рэактыўных прыбораў былі зроблены ў нашай краіне да Вялікай Айчыннай вайны. Але бурнае развіццё рэактыўнай тэхнікі пачалося толькі ў пасляваенныя гады, калі поўнасцю вычарпаліся ўсе рэзервы павышэння скорасці вінтавых самалётаў. Амаль адначасова з развіццём рэактыўнай авіяцыі, паралельна са стварэннем рэактыўных самалётаў, прызначаных для палётаў у атмасферы, пачалося канструяванне ракет для руху ў прасторы з разрэджанай атмасферай і зусім без атмасферы. Толькі пасля гэтага стала магчыма зрабіць наступны крок — стварыць міжкантынентальную балістычную ракету і здзейсніць запуск штучнага спадарожніка.

Для таго, каб цела магло рухацца вакол Зямлі, яно павінна валодаць скорасцю 8 кілометраў у секунду. Дасягненне гэтай скорасці само па сабе ўяўляе вялізную цяжкасць — яно патрабуе затраты вялікай колькасці энергіі, а значыць і паліва.

К. Э. Цыялкоўскі разлічыў, што для таго, каб ракета набыла такую скорасць, колькасць гаручага павінна ў некалькі дзесяткаў разоў перавышаць вагу самой ракеты. Ракета павінна ператварыцца ў цыстэрну для гаручага, у якой не застанецца месца для людзей і прыбораў.

Выйсце з гэтай цяжкасці Цыялкоўскі бачыў у стварэнні шматступенчатай ракеты. Пры руху шматступенчатай ракеты тая яе частка, у якой не засталося гаручага, аддзяляецца і таму не траціцца энергіі на разгон лішняга цяжару.

Але стварэнне дастаткова моцнай

для запуску спадарожніка шматступенчатай ракеты — далёка не адзіная перашкода, якую давялося пераадолець савецкім вучоным. З вялікімі цяжкасцямі звязаны сам працэс запуску, які патрэбна ажыццяўляць з выключнай дакладнасцю. Лётчык на рэактыўным знішчальніку не можа дапусціць памылку на адну дзесятую долю секунды, бо за гэты час самалёт праляціць каля пяцідзесяці метраў. Калі-ж ракета рухаецца ў прасторы са скорасцю 8 кіламетраў у секунду, дык тут ужо недапушчальна нават памылка ў сотыя долі секунды.

Такую дакладнасць кіравання могуць забяспечыць толькі прыборы-аўтаматы. Больш таго, гэтыя аўтаматы павінны самі ўносіць папраўкі ў разлікі, зробленыя людзьмі, у залежнасці ад тых умоў, у якіх апынецца ракета на вялікай вышыні. І савецкімі вучонымі такія прыборы былі створаны ў вельмі кароткі тэрмін. Аб дакладнасці работы гэтых прыбораў гаворыць хоць-бы той факт, што сапраўдны перыяд вярчэння спадарожніка вакол Зямлі адрозніваецца ад разлічанага тэарэтычна ўсяго на некалькі дзесяткаў секунд.



**Біп, біп, біп... — чуецца ў навушніках. Вопытнаму радыёаматару, якім з'яўляецца мінчанін Эдуард Дабрушкін, гэты «голас з неба» даставіў нямала хвалявання. Радыёсігналы са спадарожніка былі шмат разоў прыняты ім і запісаны на магнітафонную плёнку. Разам з ім некалькі разоў слухала сігналы спадарожніка і суседка Дабрушкіна — Наташа Цярошкіна.**

Фото А. Дзітлава.

Запуск штучнага спадарожніка — не самамэта. Разлікі паказалі, што толькі штучныя спадарожнікі дадуць магчымасць ажыццявіць палёт у сусветную прастору. Непазбежна ўзрастанне памераў і вагі наступных штучных спадарожнікаў. З маленькіх аўтаматычных лабараторый яны ператворацца ў зручнае камфартабельнае жыллё першых даследчыкаў космаса, а потым стануць адпраўнымі пунктамі ракет, якія накіруюцца на Месяц і планеты. Цікава прывесці некаторыя даныя, якія пацвярджаюць рэальнасць гэтага праекта. Для палёту з Зямлі на Месяц ракеты вагой 10 тон неабходна 840 тон паліва. А каб ажыццявіць той-жа самы палёт са штучнага спадарожніка спатрэбіцца толькі 25 тон паліва. Такім чынам відавочна, што ажыццяўленне міжпланетных палётаў немагчыма без стварэння дастаткова буйных штучных спадарожнікаў Зямлі. Вядома, гэта справа будучыні, магчыма нават і недалёкай, калі ўлічыць тэмпы развіцця навукі ў нашы дні.

Першы савецкі штучны спадарожнік Зямлі, запушчаны 4 кастрычніка 1957 года, уяўляе сабой шар з алюмініевых сплаваў дыяметрам 58 сантыметраў і вагой 83,6 кілаграма. У ім размешчаны прыборы для вывучэння тэмпературы высокіх слаёў атмасферы і іншых з'яў, вывучаць якія ў значнай ступені перашкаджае зямная атмасфера. Апрача таго, па змяненню яго арбіты можна будзе меркаваць аб шчыльнасці атмасферы на вялікіх вышынях, а таксама аб межах зямнога цягацення. Звесткі аб руху спадарожніка перадаюцца на Зямлю з дапамогай невялікага радыёперадатчыка. Пры гэтым узнікае магчымасць вывучыць праходжанне радыёхваль праз тоўсты пласт атмасферы.

У дадатак да гэтага назіранні за рухам спадарожніка вядуцца цэлай сістэмай тэлескопаў і радыёлакатараў.

Значную частку вагі спадарожніка складаюць гальванічныя батарэі, якія даюць электрычную энергію прыборам і радыёперадатчыку. Пры наступных запусках батарэі будуць заменены акумулятарамі, якія змогуць падзараджацца ад поўправадніковых сонечных батарэй, размешчаных на самім спадарожніку.

У амерыканскіх праектах запуску штучных спадарожнікаў меркавалася, што яны будуць вярцецца ў плоскасці экватара ў тым-жа напрамку, як і Зямля. Гэта павінна аблегчыць запуск спадарожніка, бо, верцячыся ў аднолькавым напрамку, Зямля як-бы сама часткова разганяе ракету. Савецкая ракетная тэхніка дасягнула такога ўзроўню, што мы ў стане запусціць спадарожнік у любым кірунку. Разам з тым, трэба адзначыць, што запуск спадарожніка ў плоскасці экватара меў-бы меншую навуковую каштоўнасць, чым яго вярчэнне ў плоскасці мерыдыяна. Справа ў тым, што калі ў першым выпадку спадарожнік праходзіць толькі над экватарыяльнай паласой, дык у другім выпадку, у выніку вярчэння Зямлі, ён за пэўны лік абаротаў зробіць назіранні над усімі пунктамі зямнога шара.

Савецкі спадарожнік запушчаны так, што ён рухаецца ў плоскасці, якая вельмі нязначна адхіляецца ад мерыдыяна. Пры наступных запусках напрамкі арбіты будуць самымі рознастайнымі ў залежнасці ад канкрэтных навуковых задач у кожным асобным выпадку.

Арбіта першага спадарожніка ўяўляла сабой слаба выцягнуты эліпс, гэта значыць, што яго адлегласць ад Зямлі то павялічвалася прыкладна да тысячы кілометраў, то памяншалася прыкладна да дзевяцісот кілометраў. Нягледзячы на тое, што спадарожнік рухаецца на вельмі вялікай вышыні, дзе паветра разрэджана ў мільёны разоў у параўнанні з узроўнем мора, супраціўленне паветра ўсё-ж нязменна прымушае яго знізіцца ў больш шчыльныя пласты атмасферы, дзе ён у выніку трэння аб паветра згарыць. Змяненне перыяду вярчэння спадарожніка — цікавы навуковы факт, які дае магчымасць меркаваць аб шчыльнасці атмасферы на вялікіх вышынях.

Запуск другога штучнага спадарожніка вагою звыш 500 кілаграмаў на арбіту, вышыня якой перавышае 1600 кіламетраў,— яркае сведчанне таго, наколькі ўперадзе замежных краін ідзе савецкае ракетабудаванне. Павелічэнне вагі спадарожніка больш чым у шэсць разоў дасягнута ў Савецкім Саюзе менш, чым за месяц.

З дапамогай другога спадарожніка атрыманы найкаштоўнейшыя даныя аб ультрафіялетавым і рэнтгенаўскім выпраменьванні Сонца, аб тэмпературы сусветнай прасторы і аб касмічным выпраменьванні на вялікіх вышынях.

Круг пытанняў, якія даследуюцца з дапамогай штучных спадарожнікаў, вельмі шырокі. Так, напрыклад, ужо ў бліжэйшы час меркавалася атрымаць даныя аб магнітным полі Зямлі на вялікіх вышынях. Спадарожнік зможа даць падрабязныя звесткі аб руху вялікіх мас воблакаў. А гэта вельмі важна для метэаралогіі. Штучныя спадарожнікі дапамогуць выканаць цэлы шэраг даследаванняў па размеркаванню цяжару ў зямной кары, а гэта аблегчыць работу геолагаў у пошуках карысных выкапняў.

Ужо гэтыя нешматлікія прыклады дастаткова гавораць аб навуковай каштоўнасці даследаванняў, зрабіць якія становіцца магчымым з запускам штучных спадарожнікаў.

З таго часу, як у Савецкім Саюзе і за мяжой пачалі запускацца вышынныя ракеты, праведзена цэлая серыя даследаванняў над жывёламі. Вучоных цікавяць змяненні дзейнасці жывых арганізмаў у сувязі з павелічэннем іх вагі ў момант запуску ракет. Апрача таго, неабходна высветліць, наколькі надзейна абалонка ракеты абараняе жывыя арганізмы ад выпраменьвання сусветнай прасторы. Да

апошняга часу вопыты, якія праводзіліся над сабакамі і малпамі, давалі, як правіла, станоўчыя вынікі: усе жывёлы вярталіся з палёту жывымі. Далейшыя назіранні паказвалі, што ніякіх паталагічных змяненняў у іх арганізмах не адбывалася. Але пры гэтым трэба ўлічыць, што знаходжанне жывёл на вялікіх вышынях вымяралася хвілінамі. Натуральна, што немагчыма без рызыкі прымяніць атрыманыя даныя да чалавечага арганізму. Неабходна мець на ўвазе і тое, што ў штучным спадарожніку целы знаходзяцца ў стане амаль поўнай няважкасці. Не было амаль ніякіх даных аб тым, як уплывае на жывы арганізм знаходжанне ў такіх умовах.

Велізарную цікавасць у сувязі з гэтым мае той факт, што на другім савецкім штучным спадарожніку размешчан кантэйнер з сабакам, абсталяваны прыборамі для рэгістрацыі яго жыццёвых функцый. Цяпер можна з упэўненасцю гаварыць аб тым, што сабака лёгка пераносіў прабыванне ў незвычайных умовах жыцця на штучным спадарожніку.

Распрацоўваючы планы заваявання міжпланетных прастораў, вялікі рускі вучоны К. Э. Цыялкоўскі пісаў у 1911 годзе: «Немагчымае сёння стане магчымым заўтра». Зараз гэтыя словы збываюцца.

# Навіны навукі і тэхнікі

## Новая касілка

Для трактара «Беларусь» сканструявана поўнавесная аднавалковая касілка КВМ-5А, прызначаная для скошвання з адначасовым валкаваннем сеяных і натуральных траў. Касілка можа таксама выкарыстоўвацца і на раздзельнай уборцы збожжа. Яна абслугоўваецца адным трактарыстам. Важнай асаблівасцю новай машыны з'яўляецца тое, што трава, якую яна скошвае, не намотваецца на валы, як гэта было ў машын ранейшага выпуску.

Асноўныя тэхнічныя даныя новай касілкі: шырыня захопу — 5 м., сярэдняя вышыня зрэзу — 6—7 см, вышыня пад'ёму рэжучага апарата — 40—45 см, вага — каля 1000 кг, прадукцыйнасць за гадзіну работы — 2,25 га.

**Аднавалковая касілка КВМ-5А.**



## Цэмент з торфу

У сувязі з вялікім размахам будаўніцтва ўзрастае патрэба ў вяжучых матэрыялах. У будаўніцтве вядомы спосабы, калі ў вугальных топках пры ўвядзенні ў спальваемы вугаль дадаткаў атрымліваецца так званы ЦЭЦ-цэмент. Аднак прымяненне попелу ад вугалю ў якасці зыходнага кампанента не знайшло прамысловага прымянення галоўным чынам таму, што вугаль мае высокую попельнасць і мала ўтрымлівае ў сабе вокісу кальцыя і серы.

Вынаходнік В. В. Міхайлоўскі прапанаваў будаўнічую сумесь, якая атрымліваецца ў выніку спальвання торфу з мінеральнымі дадаткамі. Новы спосаб прадугледжвае ў якасці зыходнай сыравіны торф, які спальваецца з рознымі дадаткамі (вапны) у прамысловых печах і топках.

Такім чынам, топач-

ныя адыходы пры сумесным абпальванні мінеральнай рэшты торфу і вапняковай прысадкі атрымліваюць уласцівасці клінкеру вяжучага, які пасля памолу на вібрапамольнай установцы набывае ўласцівасці вяжучага і называецца торфазольным цэментам. Торфазольны цэмент замяняе вапну, гіпс і кладачныя цэменты.

Вялікую каштоўнасць і шырокае прымяненне торфазольны цэмент павінен набыць у Беларусі, дзе знаходзяцца вялікія залежы торфу.

## „Абутак" для аўтамабіляў

Групай канструктараў Яраслаўскага шыннага завода сумесна з работнікамі Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута аўтамабільнага транспарту распрацаваны зусім новы від калёсных шын. Характэрнай асаблівасцю новага аўтамабільнага «абутку» з'яўляецца адсутнасць камер і праца на нізкім ціску.

Вопытная партыя гэтых шын апрабоўвалася ў самых неспрыяльных дарожных умовах. Шафёры-практыкі далі ім высокую ацэнку. Аўтамабілі, абсталяваныя бяскамернымі шынамі, могуць свабодна рухацца ва ўмовах поўнага бездарожжа.

## Каштоўная тканіна

У інстытуце ўдасканальвання тэкстыльнай прамысловасці ў Белградзе ўдалося атрымаць лабараторныя ўзоры бавоўнянай і шарсцянай тканіны, у якую ўведзены драбнейшыя малекулярныя частачкі металу, дзякуючы чаму яна набыла прыгожы металічны бляск і трываласць. Новая тканіна можа быць скарыстана для вырабу дэкарацый, тэатральных заслонаў, драпры і вячэрніх туалетаў.

Акрамя чыста дэкаратыўных мэт, яе можна скарыстаць для вырабу адзення, якое магло-б засцерагчы людзей у лабараторыях ад ядзерных і іншых выпраменьванняў, якія аказваюць разбуральнае дзеянне на арганізм чалавека, і для аховы ўрачоў - рэнтгенолагаў, якія да гэтага часу пры даследаванні хворых прымянялі вельмі цяжкія гумава-свінцовыя фартухі. Зараз вядуцца даследаванні, каб устанавіць, якія металы і ў якой колькасці лепш за ўсё ахоўваюць арганізм чалавека.

## Ліхтарык з „вечнай" батарэйкай

У нашай краіне выпушчаны кішэнныя электрычныя ліхтарыкі, якія не патрабуюць змены крыніцы святла. Яны абсталяваны не сухой батарэйкай, як звычайна, а мініятурным шчолачным акумулятарам. У тым-жа корпусе змяшчаецца і маленькае прыстасаванне для падзарадкі акумулятара ад асвятляльнай сеткі з напружаннем 127 або 220 вольт. Поўнасцю зараджаны акумулятар можа няспынна дзейнічаць паўтары гадзіны.

## Аўтамат для продажу раслiннага масла

Айчынныя заводы прыступілі да выпуску першай серыі аўтамата для продажу расліннага масла і іншых вадкіх прадуктаў, якія сканструяваны Н. Брагіным, А. Мальковым і Л. Візельманам.



**Аўтамат для продажу расліннага масла.**

Аўтамат вельмі зручны ў абслугоўванні. Пакупнік павінен будзе паставіць посуд пад выпускны кран, націснуць кнопку або апусціць жэтон. Па стрэлцы вагаў ён перакананецца ў правільнасці вагі. За 20—25 секунд аўтамат будзе адпускаць 0,5 літра масла з дакладнасцю да 1 грама.

## Аўтобус, які выгінаецца

На адным з аўтамабільных прадпрыемстваў Заходняй Германіі распачалі выпуск

аўтобусаў, прыстасаваных для праходжання па вузкіх вуліцах з вельмі крутымі паваротамі. Корпус аўтобуса сканструяваны такім чынам, што можа выгінацца на павароце, а пры выхадзе на прамую зноў прымаць звычайны выгляд. Гэта дасягнута ўключэннем у сцены, падлогу і дах гафрыраванага ўчастка, які нагадвае мех гармоніка, фотаапарата і г. д.

Даўжыня новага аўтобуса 20 метраў; ён умяшчае 64 пасажыры. Пярэдняя вось з'яўляецца вядучай. Радыус павароту ў два з паловай разы меншы, чым у звычайных аўтобусаў.

## „Электронны аўтаінспектар"

Для бяспекі руху на дарогах ЗША сталі прымяняцца арыгінальныя плакаты, аснашчоныя сігнальнымі лямпамі. Лямпы гэтыя злучаны з сістэмай радыёлакатараў, якія расстаўлены ўздоўж шасэ і ўлоўліваюць электрамагнітныя хвалі, што ідуць ад рухомых аўтамабіляў. У ланцугу паміж лакатарамі і сігнальнымі лямпамі знаходзяцца хуткадзеючыя электронныя лічыльныя прыстасаванні. Чым большая хуткасць аўтамабіля, тым хутчэй распаўсюджваюцца вылучаемыя ім электрамагнітныя хвалі. Пры перавышэнні дапушчальнай хуткасці электронны лічыльнік аўтаматычна ўключае лямпы плаката і перад вадзіцелем узнікае вогненны сігнал: «Перавышаеце хуткасць! Ехаць павольней!»

## Англійскі атамны гадзіннік

Англійскае радыё штодзённа перадае сігналы часу новага атамнага гадзінніка, устаноўленага ў Брытанскай фізічнай лабараторыі. На роўнамернасць ходу гадзінніка не аказваюць уздзеяння ні тэмпература, ні ціск. Ён вымярае час з дакладнасцю да адной сотай секунды ў год.

## Пластмаса замест жывой тканіны

Урач горада Скопле прафесар Петрэ Здравеў знайшоў, што полівінілавая плёнка можа замяніць у вуху пашкоджаную барабанную перапонку. Шматлікія спробы вырабіць перапонку з каучука, паперы, цэлафану, тонкіх залатых пласцінак, рыбнага пузыра да гэтага часу поспеху не мелі.

## Самалёты з гліны

Цэмент ці гліна?.. Што можа вырашыць праблему авіяцыі будучага?

Гэтыя пытанні сталі цяпер зусім актуальнымі ў асяроддзі авіяканструктараў. Нядаўна друк паведаміў аб спробах адной французскай фірмы стварыць звышхуткасныя самалёты з жалезабетону. Напомнім, што жалезная арматура пры гэтым праходзіць папярэдняе напружанне, расцягванне, і ў такім выглядзе яе заліваюць цэментным растворам. Калі бетон поўнасцю зацвярдзее, расцягванне арматуры спыняецца. Авіяканструктары пачалі прымяняць гэты матэрыял з мэтай пераадолення так званага цеплавога бар'ера — асноўнай перашкоды звышхуткаснай авіяцыі. Пры трэнні паверхні самалёта аб паветра адбываецца разаграванне корпуса. Пры вялікіх хуткасцях тэмпература даходзіць да такой велічыні, што выклікае плаўленне матэрыялу, з якога зроблены самалёт.

Далейшыя пошукі, праведзеныя групай інжынераў з Каліфарнійскага ўніверсітэта (ЗША) прывялі да выпрабавання яшчэ аднаго будаўнічага матэрыялу — папярэдне напружанай керамікі. Для арміравання прыменены струны з металічнага дроту. Аб тэхналогіі абпальвання дэталей самалёта пакуль нічога не паведамляецца. Аднак першы даклад аб гэтых вопытах выклікаў у спецыялістаў вялікую цікавасць.

## Гароднiна на... каменнях

На адной з невялікіх ферм у Фларыдзе (ЗША) праведзены цікавы вопыт вырошчвання гародніны не ў звычайнай глебе, а ў пласту буйнага гравія і галькі. Градкамі там служаць велізарныя бетонныя скрынкі, запоўненыя каменьчыкамі. Жыўленне раслін ажыццяўляецца падачай у скрынкі-грады вады з растворанымі ў

ёй солямі. Спажыўны раствор складаецца па наступнаму рэцэпту: у тысячы літраў вады раствараюць 0,5 кг азотнакіслага калія, 0,5 кг сернакіслага калія, 0,6 кг трайнога суперфасфату, 0,4 кг сернакіслага кальцыя, 0,4 кг сернакіслага магнія, 10 г сернакіслага жалеза, 5 г сернакіслай медзі, 5 г сернакіслага цынку, 5 г борнай кіслаты, 1,5 г сернакіслага марганцу і некалькі міліграмаў якой-небудзь малібдэнавай солі.

Пажыўная вада па трубах падаецца раслінам тры разы ў суткі. Сутачны расход яе на гектар сеяных плошчаў складае каля 14 тысяч літраў. Ураджайнасць на «гравійных градах» амаль у 25 разоў перавышае зборы гародніны са звычайных агародаў суседніх ферм.

Адной з пераваг такога спосабу вырошчвання гародніны з'яўляецца поўная гарантыя ад шкоды, якую прыносяць чэрві і іншыя сельскагаспадарчыя шкоднікі. Не трэба таксама апрацоўваць глебу, палоць пустазелле, палівадь і г. д.

## Так яны жывуць

### „Тайныя інтрыгі“ і пісьмы ад Гітлера

У СІНГАПУРЫ кандуктары аўтобусаў некалькі разоў аб'яўлялі забастоўку, дабіваючыся павышэння заработнай платы. Але гэта не давала жаданага выніку. Тады яны вырашылі звярнуцца да новай, зусім незвычайнай формы забастоўкі: перасталі браць з пасажыраў плату за праезд. Гэты сродак падзейнічаў вельмі хутка: праўленне аўтобуснай кампаніі вымушана было пайсці на задавальненне патрабаванняў забастоўшчыкаў.

У БРЭМЕНЕ заходнегерманскі суд слухаў справу трох маладых немцаў, якія абвінавачваліся ў «тайных інтрыгах» і «змоўніцкіх падкопах». Сапраўдная падаплёка справы складалася ў тым, што юнакі, якія з'яўляліся членамі арганізацыі «Свабодная нямецкая моладзь», выступалі за дружбу і ўзаемаразуменне паміж маладымі прадстаўнікамі нямецкай нацыі. Чым-жа падмацоўвалася абвінавачванне? Калі на судзе пачалася дэманстрацыя «рэчавых доказаў», якія павінны былі пацвердзіць віноўнасць юнакоў, дык у ліку такіх доказаў аказаліся ...раманы Л. Талстога «Вайна і мір» і М. Горкага «Маці».

У Н'Ю-ЙОРКУ адбыўся суд над шасцідзесяцігадовым Білам Джонсанам. Стары махляр быў асуджаны на 3 гады турмы за, як было далікатна сказана ў прыгаворы, «злоўжыванне паштовымі паслугамі». Якжа выглядалі гэтыя «злоўжыванні»? Містэр Джонсан аказаўся прадпрыймальным дзялком, які вельмі добра разбіраўся ў палітычным становішчы. Ён накіроўваў розным асобам пісьмы, якія падпісваў імем Гітлера. У сваіх пасланнях ён жаласліва прасіў пазычыць яму грошай і даваў слова вярнуць іх у ста345разовым памеры, «калі ён зноў прыдзе да ўлады».

Самым цікавым бадай з'яўляецца тое, што просьбы Джонсана не заставаліся без увагі. Знайшлося нямала добрачынных джэнтльменаў, якія ахвотна пазычалі грошы новаяўленаму «фюрэру». У прыватнасці адзін адстаўны афіцэр амерыканскай арміі ахвяраваў махляру 4 тысячы долараў.

У ЛОНДАНЕ адбылося здарэнне, якое адзначыла еўрапейская прэса як уклад англійскага ўрада ў справу раззбраення. Вытокі гэтага ўрачыстага акта маюць амаль стосемідзесяцігадовую даўнасць. З 1790 года кожны вечар перад будынкам Англійскага банка выстаўлялася спецыяльная варта, якая складалася з двух афіцэраў і дванаццаці салдат. Нядаўна ваеннаму міністру падказалі, што гэтая варта мае цяпер хутчэй традыцыйнае значэнне, таму што ўсюды паспяхова дзейнічаюць самыя дасканалыя аўтаматычныя сігнальныя сістэмы. Захаванне воінскай варты стала нічым не апраўданым перажыткам мінулага. Міністр з гэтым довадам згадзіўся. Варту вырашана распусціць. Такім чынам штаты англійскай арміі скарачаюцца на... 14 чалавек.

У ЗАХОДНЯЙ ГЕРМАНІІ знойдзены радыкальны сродак супраць страху перад атамнымі бамбардыроўкамі. Газета «БЦ» змясціла аб'яву фабрыкі спіртных напіткаў, якая пачынаецца словамі: «Страх перад атамам!»

Уладальнікі фабрыкі, праяўляючы чулыя клопаты аб сваіх блізкіх, прапануюць іх увазе прадукцыю свайго прадпрыемства, «навукова» абгрунтоўваючы яе карысны ўплыў на арганізм чалавека. Аказваецца, «страх перад пагрозай атамнай вайны выклікае спазматычныя з'явы». З'явы гэтыя вельмі пагібельна адбіваюцца на чалавечым здароўі. Але дастаткова звярнуцца да ўжывання спіртных напіткаў, што «выпускае наша фабрыка», як падкрэслівалася ў рэкламе, каб уся хворасць знікала назаўсёды.

У АЎСТРЫІ стала вядома аб новым відзе падарожжаў. Нехта Зігфрыд Васенберг з Зальцбурга рашыў за 4 месяцы прайсці 300 кіламетраў, якія аддаляюць яго родны горад ад Вены. Вы скажаце, што ў гэтым няма нічога асаблівага? Справа ў тым, што падарожжа гэтае Васенберг збіраецца зрабіць... на руках. Так, так! Прайсці 300 кіламетраў уверх нагамі. У шляху ён намераны збіраць ахвяраванні на адкрыццё выхаваўчага дома для духоўнаадсталых асоб. Паўстае пры гэтым пытанне: а ці не будзе сам «рэкардсмен» першым жыхаром гэтага дома?

У КАЛУМБІЙСКАЙ СТАЛІЦЫ БАГОЦЕ ўжыты новы сродак паліцэйскіх расправаў з дэманстрантамі. Рохас Пінілья, верны ўказкам фінансавых магнатаў ЗША, сваім крывавым рэжымам выклікаў шырокія народныя хваляванні. Для падаўлення іх паліцыя пускала ў ход гумавыя дубінкі, імпартаваныя з ЗША бомбы з слёзатачывымі газамі. Але ўсё было дарэмна. Выступленні супраць рэжыму Пінільи раслі. Тады прэфект сталічнай паліцыі распарадзіўся выпусціць супраць дэманстрантаў... змей. Зразумела, і гэты экзатычны «паліцэйскі сродак» не дапамог. У выніку барацьбы пераможаным аказаўся ўсё-такі дыктатар. Рохасу Пінілья давялося пайсці ў адстаўку.

У ЗША многія не на жарт заклапочаны намаганнямі як мага шырэй прапагандаваць такія «дасягненні» амерыканскай культуры, як славуты «танец» рок-энд-рол. Кінобізнесмен Эльвіс Прыслі вырашыў паставіць спецыяльны фільм, які праслаўляе дзікі зянятак, названы танцам. Будучы фільм атрымаў назву «Вар'яцкі дом Рок». Галоўнай дзеючай асобай фільма з'яўляецца д ж а з, удзельнікі якога дэманструюць сваё выканаўчае майстэрства, прымаючы самыя неверагодныя паставы: стоячы на галаве, лежачы на спіне, скруціўшыся ў клубок і г. д. У час здымкаў адбыўся эпізод, які ледзь не прывёў да трагічнага канца. Пастаноўшчык і рэжысёр фільма Эльвіс Прыслі ў парыве «творчага натхнення» ўдыхнуў залатую каронку з свайго зуба. Каронка трапіла яму ў правае лёгкае. Жыццё «караля рок-энд-рола» было ўратавана толькі спешным хірургічным умяшаннем.

У ЛАЗАНЕ ўстаноўлены новы «сусветны рэкорд». Малады швейцарац музыкант Марсель Клаус патрабаваў стварэння афіцыйнай камісіі для прысутнасці на яго выступленні. У склад гэтай камісіі былі запрошаны перш за ўсё натарыус і... урач. Прысутнасць медыка тлумачылася не яго асаблівымі музыкальнымі дадзенымі, а магчымай прамой патрэбай ў тэрміновай дапамозе, як пры звычайных спартыўных спаборніцтвах. Дзіўным быў толькі «від спорту», які выбраў Клаус. Ён вырашыў устанавіць сусветны рэкорд працягласці ігры на акардэоне: Клаус іграў без сну 77 гадзін 23 мінуты.

А. СУЭЦІН,
майстар спорту.

# МАТЧ ДРУЖБЫ

Трыццаць гадоў назад, у 1927 г., зборная каманда шахматыстаў Венгрыі атрымала перамогу на I Сусветнай алімпіядзе, якая ў той час называлася «турнірам нацый». Праз год венгры зноў выйгралі першынство свету. З таго часу каманда Венгрыі па праву заняла трывалае месца сярод мацнейшых замежных шахматных каманд. З нязменным поспехам выступалі венгры ва ўсіх буйнейшых камандных спаборніцтвах, шырока вядомы імёны іх гросмайстраў Харузека, Мароці, Сабо, Барца.

У канцы лета гэтага года стала вядома, што каманда шахматыстаў Венгрыі ў складзе 8 або 10 мужчын і 2 жанчын выказала жаданне зрабіць гастрольную паездку па Савецкаму Саюзу. Планаваліся сустрэчы венграў са зборнымі камандамі шахматыстаў Ленінграда, Эстоніі і Беларусі, прычым першая з іх павінна была адбыцца ў Мінску.

Трэба сказаць, што шахматная каманда Беларусі пакуль амаль яшчэ не мае вопыту міжнародных сустрэч. Здаўна ў Беларусі былі моцныя майстры шахматаў. Далёка за межамі рэспублікі яшчэ ў даваенныя гады былі вядомы імёны Касперскага, Сіліча, Маневіча і асабліва Верасава. У перадваенныя гады сярод шахматыстаў было вельмі папулярным такое чатырохрадкоўе:

«Рассказать я вам берусь,
Как играет Белорусь.
Керес Вересу намедни
Молвил коротко «сдаюсь».

Гэтыя таленавітыя самародкі вылучаліся сярод астатніх шахматыстаў Беларусі, але ў цэлым даваенная каманда рэспублікі была яшчэ «зялёная» для міжнародных сустрэч.

У пасляваенныя гады, дзякуючы клопатам партыі і ўрада Беларусі,



**Б. Сінка. Гэтая венгерская шахматыстка дасягнула ў сваіх партыях найлепшага выніку. Але шлях да гэтага быў нялёгкім.**



**Гераіня беларускай каманды К. Зварыкіна. Пасля матча яна атрымала тэлеграму аб прысваенні ёй звання заслужанага майстра спорту.**

рады шахматыстаў нашай рэспублікі былі значна папоўнены і ўмацаваны за лік вопытных майстроў, што пераехалі на пастаяннае жыхарства ў Беларусь. Пачалася ўпартая трэніровачная работа. Стала фармавацца шахматная каманда Беларусі.

Вялікай падзеяй у жыцці шахматыстаў Беларусі было іх першае міжнароднае «хрышчэнне» — каманда БССР у студзені 1955 года выехала ў Польшчу. Палякі мелі значна большы вопыт міжнародных сустрэч, але тым не менш наша каманда двойчы— у Варшаве і Кракаве — атрымала пераканаўчую перамогу з лікам 11 : 3 і 11½ : 2½. У пачатку гэтага года польская каманда наведала Мінск. І тут зноў перамаглі беларусы з лікам 13 : 7.

Першыя паспяховыя міжнародныя баі надалі шахматыстам Беларусі ўпэўненасць у сваіх сілах. Тым не менш, калі стала вядома аб будучым матчы з Венгрыяй, нас, удзельнікаў каманды, ахапіла не толькі радаснае, але і вельмі трывожнае пачуцце.

Калі на апошняй XII алімпіядзе польская каманда не выйшла нават у фінал, дык венгры падзялілі ў фінале, дзе ўдзельнічала 12 каманд, 2—3 месцы, адстаўшы толькі ад зборнай СССР. Міжволі паўстаў у памяці матч СССР — Венгрыя, дзе наша каманда ўпершыню ў гісторыі міжнародных сустрэч пацярпела паражэнне: 1½ : 2½. А ў матчы-ж выступалі Батвіннік, Смыслоў, Керэс і Тайманаў!

Але шахматысты заўсёды павінны быць бадзёрымі і гатовымі да барацьбы. Моцны працаўнік — тым лепш! Ёсць чаму павучыцца, больш цікава іграць!

Тужыць не было часу, трэба было тэрмінова рыхтавацца да матча, таму што заставалася менш чым паўтара месяца да яго пачатку. Спачатку наша каманда збіралася двойчы на тыдні, потым быў праведзены двухтыднёвы збор. Кожны з партнёраў (прыкладны склад венгерскай каманды нам паведамілі) быў падвергнуты «рэнтгенаўскаму» аналізу. Лабараторыя шахматнай падрыхтоўкі ў нашы дні вельмі складаная. Коратка яна заключалася перш за ўсё ў падборы ўсіх партый будучых праціўнікаў, апублікаваных калі-небудзь у друку, і ва ўважлівым аналізе. Кожны ўдзельнік нашай каманды «адказваў» за двух венгерскіх шахматыстаў. Паступова абрасталі матэрыялам салідныя сшыткі з дзіўнымі назвамі «Белі», «Порціш», «Клюгер» (імёны нашых партнёраў). Творчасць кожнага з іх абмяркоўвалася на «агульных сходах». У ходзе жывога абмеркавання ўзнікала шмат гарачых спрэчак: ісціна-ж і нараджаецца ў спрэчках.

Як і меркавалася, свой першы матч у СССР венгры правялі ў Мінску. Сустрэча праходзіла на 10 дошках, прычым па ўмовах матча даігрыванне праходзіла пасля двух тураў (а не пасля кожнага, як звычайна). Вынікі напружанай барацьбы, як вядома, вельмі спрыяльныя для беларусаў. Нашай камандзе ўдалося перамагчы адну з мацнейшых замежных шахматных каманд. Мінімальная перавага 10½ : 9½ толькі падкрэслівае, з якой цяжкасцю далася гэтая перамога. Як і заўсёды, на гэтым матчы былі і «ге-



**Надыходзіць цэйтнот. Міжнародны гросмайстар чэмпіён Венгрыі Барца спяшаецца зрабіць ход.**



**Самы малады ўдзельнік венгерскай каманды, міжнародны майстар Порціш правёў матч з асаблівай спакойнасцю.**



**Падрыхтоўка да матча. Балеслаўскі** (справа) **і Суэцін вывучаюць партыі Барца.**

роі» і «няўдачнікі». Беларускай камандзе найбольшую колькасць ачкоў прынесла чэмпіёнка СССР Кіра Зварыкіна — 2 з 2-х. У камандзе Венгрыі асабліва вызначылася другая жаночая «дошка» — Сінка, якая перамагла ў 2-х сустрэчах Скегіну.

Венгры не маглі схаваць свайго расчаравання. Капітан іхняй каманды міжнародны майстар Цібор Фларыян пасля заканчэння матча шчыра сказаў, што да сустрэчы з Беларуссю венгры былі ўпэўнены ў перамозе, але каманда Беларусі значна пераўзышла іх спадзяванні...

Поспех беларускіх шахматыстаў бясспрэчны. Гэта яшчэ раз падкрэслілі наступныя сустрэчы венграў у Таліне і Ленінградзе. Супраць моцнай каманды зборнай Эстоніі венгры атрымалі пераканаўчую перамогу 12½: 7½, а ў апошнім матчы з Ленінградам, у складзе каманды якога выступала 4 міжнародных гросмайстры і некалькі міжнародных майстроў, венгры прайгралі з мінімальным лікам: 11½ : 12½, дасягнуўшы лепшых працэнтных суадносін, чым у матчы з Беларуссю.

Задача беларускіх шахматыстаў заключаецца ў тым, каб не заспакойвацца на дасягнутым, а ўпарта працаваць над павышэннем свайго майстэрства.

На матчы Беларусь — Венгрыя было шмат цікавых момантаў, якія ўдалося зафіксіраваць нашаму карэспандэнту А. Дзітлаву. Змяшчаем некаторыя з іх.

# Супраць нічыіх, бясколерных і кароткіх

Турнірная партыя Марка — Энгліш (Берлін) закончылася нічыёй паўторам ходаў на 11 хаду, пры гэтым не было ўзята ніводнай пешкі ці фігуры. У партыі Дэнкер—Купчык на турніры ў Філадэльфіі ў 1936 годзе праціўнікі згадзіліся на нічыю пасля 8 ходаў! На турніры ў Ноцінгеме ў 1936 годзе Капабланка пасля 8 хода прапанаваў Файну нічыю.

Відаць, іграки за гэтыя партыі разлічвалі атрымаць «прэмію міру...»

* * *

На турніры ў Пест'ене ў 1912 годзе гросмайстар Шлехтэр, які «вызначаўся» сваёй міралюбнасцю за шахматнай дошкай, не прайграў ніводнай партыі, але атрымліваў толькі IV—VI прызы, падзяляючы іх з другімі шахматыстамі. У тымжа годзе на турніры ў Браслаўле Шлехтэр зноў не прайграў ніводнай партыі, але поспех яго быў некалькі большы: ён падзяляў IV — V прызы. (У Пест'ене Шлехтэр выйграў толькі 3 партыі пры 14 нічыйных; у Браслаўле выйграў 5 партый пры 12 нічыйных). У абодвух турнірах — у процілегласць Шлехтэру — кожны з першых трох прызёраў меў праіграныя партыі.

* * *

З 182 партый, сыграных на першым у гісторыі шахматаў міжнародным турніры ў Лондане ў 1951 годзе, толькі 7 партый закончыліся нічыйным вынікам. Астатнія былі рэзультатыўныя.

* * *

Яшчэ ў 1868 годзе ў Лондане быў наладжаны турнір, у пачатковым становішчы ўсіх партый якога месца сланоў і коней былі пераменены. Мэта гэтага — пазбегнуць кніжных варыянтаў і дасягнуць таго, каб іграки разлічвалі толькі на свае сілы і ўменне.

* * *

Па меры росту дэбютнай тэорыі ўсё шырэй робіцца бачным багацце шахматных ідэй, што выключае «тэорыю» нічыйнай смерці шахматаў, якая была высунута чэмпіёнамі свету мінулых год Ласкерам і Капабланкам.

Паказальны ў гэтых адносінах матчы паміж мацнейшымі шахматыстамі свету, дзе працэнт «нічыйнасці» звычайна дасягае максімума. Так у матчы на першынство свету паміж Алёхіным і Капабланкам у 1927 годзе 25 партый з 34 (!) закончыліся мірным зыходам. У матчы на першынство свету ў 1951 годзе, гэта значыць праз 24 гады, паміж Батвіннікам і Бранштэйнам з 24 партый 10 было рэзультатыўных, а 14 нічыйных. Найменшы працэнт нічыйных быў у першым матчы паміж Батвіннікам і Смысловым у 1954 годзе, дзе з 24 партый толькі 10 былі нічыйныя.

Такім чынам, «нічыйнасць» шахматаў залежыць не ад іх прыроды, а ад падыходу да іх. І ў наш час ёсць «трубадуры» і «рыцары» нічыіх. Пальма першынства належыць, бясспрэчна, гросмайстару С. Флору, пераважная большасць партый якога заканчваецца нічыёй. Магчыма таму ён амаль не прымае цяпер удзелу ў турнірах. У апошнія гады сур'ёзным «канкурэнтам» яму ў гэтым стаў гросмайстар Балеслаўскі. Так у апошнім фінале першынства СССР з 21 партыі 15 сустрэч ён закончыў нічыёй, 4 выйграў і 2 прайграў. У той-жа час гросмайстар Толуш, які апярэдзіў Балеслаўскага ў гэтым спаборніцтве на 1,5 ачка, толькі 6 пар-

тый закончыў нічыёй, пры гэтым прайграў 5 партый — у 2,5 раза больш, чым Балеслаўскі. Яго поспех тлумачыцца лікам перамог — Толуш выйграў 10 партый, г. зн. амаль 50 працэнтаў усіх сыграных.

* * *

Капабланка і Флор агульнапрызнана былі лепшымі ў свеце майстрамі сеансаў адначасовай ігры. Гэта яны сумелі даказаць усюды, апрача Масквы і Ленінграда. Вось вынікі Капабланкі ў сеансах адначасовай ігры ў 1935 годзе.

| | Выйграў | Прайграў | Нічыіх |
|---|---|---|---|
| Манчэстэр | 39 | 0 | 1 |
| Парыж | 12 | 0 | 0 |
| Байрэйт | 29 | 1 | 1 |
| Лейпцыг | 20 | 0 | 10 |
| Прага | 25 | 3 | 5 |
| Варшава | 26 | 4 | 6 |
| Острава Мараўская | 22 | 2 | 8 |
| Але... | | | |
| Масква! | 7 | 14 | 9 |
| Ленінград! | 10 | 11 | 9 |

Вынікі Флора за мяжою падобныя да вынікаў Капабланкі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Але — Масква! | 12 | 20 | 18 |
| Ленінград! | 5 | 13 | 12 |

Абодва гросмайстры пры тлумачэнні прычын сваіх няўдач у СССР, адзначалі, што праціўнікі іх у гэтых сеансах іграюць толькі вельмі не на шмат слабее майстроў і самі прывыклі даваць сеансы.

### ЗАДАЧЫ-ЖАРТЫ



Зрабіць мат у 8 ходаў.



Зрабіць мат у 11 ходаў.



Эдуард **ВАЛАСЕВІЧ**

## УЗГАДНЯЛЬНІК

Начальнік не вялікі, не малы,
А па натуры асцярожны, памяркоўны
І справу ведае бадай не павярхоўна:
Умее завязаць вузлы,
Умее закругліць вуглы...
Што і казаць — патрэбная адзінка,
Ды ёсць маленькая ў характары слабінка:
У бочцы мёду — лыжка дзёгцю...
Калі прыходзіцца самому крок ступіць,
Дык смеласці няма на чвэрць пазногця...
Абавязкова ён павінен узгадніць
З вышэйшымі інстанцыямі і...
застрахавацца,
«Каб не было чаго!..» Каб потым
апраўдацца...

* * *

Ўзгадніць ды выслухаць параду
Карысна кожнаму бадай.
Але калі займаеш ты пасаду
Дык сваю думку і свой голас май...

Мал. В. Сімакова.

**Двайны накаут**







**Васіль МАЕЎСКІ**

# БАЦЬКАЎ КАРТУЗ

Сымонка-карапуз,
Каб быць такім, як тата,
Надзеў яго картуз
І стаў ля хаты:
— Глядзіце, хлапчукі,
Вялікі я які!
Сказаў — і ну паказваць аднагодкам
Сваю «дарослую» паходку...
Ды вось канфуз:
Ледзь з месца скрочыў,
Упаў, разбіўшы нос, Сымонка-карапуз,
Налез картуз яму на вочы...
Што-ж — галава яшчэ малая.

---

Урок тут-не малым,
А тым,
Хто слепа ўсё ў дарослых пераймае.